Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 7 красавіка 1989 г. № 14 (3476) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева быў уключаны ў афішу II Беларускага тэатральнага фестывалю, які праходзіў у Гродне з 24 па 31 сакавіка. Пра вынікі гэтай падзеі чытайце на стар. 11.

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

## АГРАРНАЯ ПАЛІТЫКА: ЧАС КАНКРЭТНЫХ СПРАЎ

Задачы партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў па пашырэнні кааперацыі прадпрыемстваў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, развіцці сямейных гаспадарак, калектыўнага садаводства і агародніцтва ў святле рашэнняў сакавіцкага (1989 г.) Пленума ЦК КПСС абмяркоўваюцца на занальным семінары-нарадзе, які адкрыўся 5 красавіка ў Брэсце. У ім прымаюць удзел сакратары ЦК Кампартый саюзных рэспублік і абкомаў партыі, старшыні аблвыканкомаў, аграпрамысловых камітэтаў і саветаў прафсаюзаў саюзных рэспублік і абласцей, першыя сакратары ЦК ЛКСМ саюзных рэспублік і абкомаў камсамола, старшыні рэспубліканскіх і абласных спажывецкіх саюзаў Беларусі, Украіны, Малдавіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Калінінградскай вобласці, кіраўнікі цэнтральных ведамстваў і машынабудаўнічых міністэрстваў.

На адкрыцці семінара-нарады з дакладам выступіў член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС, Я. К. Лігачоў.

У рабоце семінара прымаюць удзел таварышы А. Д. Бакланаў, Я. Я. Сакалоў, Г. С. Таразевіч, І. І. Скіба, В. Г. Балуеў, М. І. Дзямянцей, М. С. Ігруноў, М. І. Лагір, У. А. Ляпёшкін, А. А. Малафееў, Ю. М. Хусаінаў, У. І. Ганчарык.

## УТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ ЭКАЛАГІЧНЫ САЮЗ

У Доме літаратара прайшла Рэспубліканская экалагічная канферэнцыя, на якой з дакладам выступіў старшыня секцыі нарыса і публіцыстыкі СП БССР В. Якавенка.

Канферэнцыя (вёў пасяджэнне Б. Сачанка) утварыла Беларускі экалагічны саюз, асноўная мэта якога — аб'яднаць намаганні ўсіх прыродаахоўных таварыстваў, рухаў, клубаў, гурткоў, дружын «зялёных», кааператываў адпаведнага профілю дзеля паспяховага вырашэння экалагічных праблем.

Заснавальнікамі Беларускага экалагічнага саюза выступілі рэспубліканскія творчыя саюзы — пісьменнікаў, мастакоў, архітэктараў, а таксама Беларускі камітэт абароны міру, Беларускі фонд культуры, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду міру, Заходняе аддзяленне ВАСХНІЛ, Беларускі тэхналагічны інстытут, Інстытут радыяцыйнай медыцыны, Беларускі навукова-даследчы санітарна-гігіенічны інстытут, геаграфічны факультэт БДУ, біялагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, Мінскае вытворчае тонкасуконнае аб'яднанне імя Ц. Я. Кісялёва, Рэспубліканскі палац культуры «Юнацтва», маладзёжнае гаспадарча-разліковае аб'яднанне «Вектар», навукова-вытворчы кааператыў «Сучасная агратэхналогія» і іншыя арганізацыі і ўстановы.

Канферэнцыя прыняла за аснову распрацаваны ініцыятыўнай групай праект статута экалагічнага саюза.

## Пасяджэнне Ідэалагічнай камісіі ЦК Кампартыі Беларусі

3 красавіка пад старшынствам члена Бюро ЦК КПБ, сакратара ЦК КПБ В. А. Пячэннікава адбылося пасяджэнне Ідэалагічнай камісіі Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.

Абмеркаваны асноўныя напрамкі дзейнасці камісіі, зацверджаны план на 1989 год. Галоўнае месца ў сваёй рабоце камісія адводзіць аналізу актуальных праблем ідэалагічнай дзейнасці, калегіяльнай выпрацоўцы адпаведных прапаноў і рэкамендацый. Прадугледжваецца шырокае прыцягненне да работы камісіі партыйнага актыву, вучоных, спецыялістаў, дзеячаў культуры і мастацтва.

На пасяджэнні камісіі разгледжаны ход распрацоўкі рэспубліканскіх праграм «Родная мова» і «Спадчына». З паведамленнямі па гэтаму пытанню выступілі міністр народнай адукацыі М. І. Дзямчук, міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч, сакратары абкомаў У. Д. Атрошчанка, М. М. Бірукова, С. П. Бабыр, І. А. Навумчык, Л. У. Пакуш, сакратар Мінскага гаркома КПБ П. К. Краўчанка, загадчык ідэалагічнага аддзела Брэсцкага абкома КПБ А. А. Высоцкі.

У выступленні М. І. Дземчука асаблівая ўвага была ўдзелена праблемам выкладання беларускай мовы ў навучальных установах рэспублікі. Адзначана, што ў выніку прынятых арганізацыйных мер і растлумачальнай работы спынены многія негатыўныя тэндэнцыі ў школе. З 1989/90 навучальнага года ўводзіцца вывучэнне беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання з 1 класа. Удасканалены праграмы па беларускай мове, рыхтуецца новая праграма па беларускай літаратуры. Уведзены пісьмовы экзамен (дыктоўка) па беларускай мове за курс няпоўнай сярэдняй школы з рускай мовай навучання. На ўсіх факультэтах педінстытутаў і на педпатоках універсітэтаў уводзіцца ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры, у педвучылішчах—пісьмовы ўступны экзамен па беларускай мове.

(Працяг на стар. 2—3).

# ВУЧЫЦЦА ПРАЦАВАЦЬ ПА-НОВАМУ

**Палітычны каляндар чацвёртага года перабудовы насычаны падзеямі выключнай важнасці. Сярод іх — сакавіцкі Пленум ЦК КПСС па аграрных пытаннях і выбары народных дэпутатаў СССР, вынікі якіх будуць мець вызначальны ўплыў на далейшы ход перабудовы і працэсы дэмакратызацыі.**

**Пра гэта гаварыў у сваім выступленні «На пераломным этапе перабудовы» Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў на сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, якая адбылася 29 сакавіка ў Маскве.**

Аб'ектыўнае разуменне сітуацыі ў краіне, зазначыў Генеральны сакратар ЦК КПСС, прывяло да неабходнасці радыкальнай эканамічнай рэформы, а таксама рэформы палітычнай. Без удзелу народа ў вырашэнні практычных спраў на ўсіх узроўнях нельга ажыццявіць задуманае.

Многае ў сацыяльна-палітычным плане залежыць зараз ад вырашэння праблемы харчавання.

«Іменна маштабы, значэнне і вастрыня харчовай праблемы вызначылі неабходнасць яе крутой пастаноўкі на Пленуме ЦК, у падагульняючых дакументах і прынятых рашэннях», — сказаў М. С. Гарбачоў.

Змяненне адносін уласнасці, вытворчых адносін на вёсцы азначае кардынальнае змяненне нашых поглядаў не толькі на развіццё аграрнага сектара, але і ўсёй эканомікі. На шляху рэалізацыі новай аграрнай палітыкі мы будзем трымаць самы галоўны экзамен.

«Мне ўяўляецца, — гаварыў у сваім выступленні М. С. Гарбачоў, — што цяпер асабліва вялікая работа кладзецца на плечы партыі. А гэта значыць — і на сродкі масавай інфармацыі, якія мы не аддзяляем ад партыі».

Зараз неабходна сур'ёзная размова з сялянствам праз усе формы арганізатарскай, ідэалагічнай дзейнасці, праз сродкі масавай інфармацыі. Вельмі важна пры гэтым пазбягаць усялякай ідэалізацыі, тым больш эйфарыі, бачыць усе складанасці працэсаў пераўтварэння на вёсцы. «Трэба вучыцца ў самога жыцця, у ходзе практычнай работы набірацца вопыту і розуму, вучыцца працаваць па-новаму», — падкрэсліў М. С. Гарбачоў. Кожны павінен сам, на практыцы, пераканацца, што ісці наперад можна, толькі выкарыстоўваючы новыя формы, метады, падыходы — такія, у прыватнасці, як арэнда, — дасягненні НТР, новыя тэхналогіі. Ніякага дагматызму пры максімальнай падтрымцы ўсяму таму, што ўмацоўвае самастойнасць, пачуццё гаспадара на зямлі — так можна вызначыць асноўныя накірункі новай аграрнай палітыкі КПСС.

Важнае месца ў выступленні М. С. Гарбачова заняла ацэнка вынікаў выбараў народных дэпутатаў СССР. Генеральны сакратар ЦК КПСС у прыватнасці адзначыў: «Мы з вамі сталі ўдзельнікамі таго працэсу, які і хацелі выклікаць нашымі рашэннямі аб перабудове, дэмакратыі, рэформах палітычнай і эканамічнай, нашай лініяй на галоснасць і адкрытасць...»

Людзі рашуча выказаліся за перабудову, гаварыў М. С. Гарбачоў. Гэта тым больш важна, што выбарчая кампанія супала па часе з самым вострым, складаным і адказным перыядам перабудовы. «І ў гэтай складанай абстаноўцы, на такім пераломным этапе мы атрымалі магутную падтрымку палітыкі перабудовы, падтрымку лініі партыі. І калі ўжо крытыкавалі партыйныя і дзяржаўныя органы, асобных кіруючых работнікаў, то якраз за тое, што перабудова ідзе марудна», — сказаў Генеральны сакратар. «Прайшоўшыя выбары, — падкрэсліў ён, — яшчэ раз пацвердзілі, якія велізарныя магчымасці для выражэння думак, інтарэсаў, падыходаў тояцца ў сацыялістычнай дэмакратыі, у нашай сістэме народаўладдзя».

Пакуль што мы яшчэ робім першыя крокі ў палітычнай рэформе, яшчэ толькі вучымся дэмакратыі. Тым не менш, прайшоўшыя выбары рушылі ўсіх нас, усё наша грамадства далёка наперад. Актыўнасць людзей была вышэйшая там, дзе прыметны рэальны плён перабудовы, дзе яны адчуваюць клопаты кіраўнікоў, бачаць іх блізкасць да народа, імкненне змяніць становішча да лепшага, дзе грунтоўна ўзяліся за маральнае аздараўленне, барацьбу з негатыўнымі працэсамі. Разам з тым, людзі рашуча выказаліся супраць «апаратных гульняў», супраць спроб захаваць непрыступнасць бюракратычных кабінетаў.

Выбары, сказаў М. С. Гарбачоў, паказалі, што «народ хоча працягу перабудовы, каб працэсы дэмакратызацыі, галоснасці не толькі захоўваліся, але і мацнелі, развіваліся. Каб наша прэса больш поўна выражала грамадскую думку, глыбей, з веданнем справы паказвала цяжкасці і складанасці пераходу да новых форм у грамадскім жыцці — у эканамічнай сферы, у кіраванні, у навуцы і культуры».

«Работа сродкаў масавай інфармацыі, — сказаў у заключэнне свайго выступлення М. С. Гарбачоў, — павінна весціся з пазіцыі перабудовы... адлюстроўваць усю дыялектыку жыцця, садзейнічаць руху наперад усяго новага і прагрэсіўнага. Калі ў нашай галоснасці і нашай дэмакратыі і ёсць рамкі, то гэта інтарэсы народа і сацыялізму. Інтарэсы гэтыя бязмежныя, сацыялізм мае велізарны патэнцыял для самаруху і развіцця. Наш народ зрабіў свой гістарычны выбар. У рамках гэтага выбару і давайце разам рухаць працэс перабудовы».

# Газета для ўсіх

**У мінулую суботу ўпершыню ў кіёсках «Саюздруку» з'явілася газета «Во славу Родины», якую дагэтуль можна было прачытаць толькі ў некаторых бібліятэках. І вось цяпер выданне Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі «рассакрэцілася»...**

**У «Слове да чытача» адказны рэдактар «Во славу Родины» палкоўнік А. Дзідык зазначае: «Калі вы хочаце ведаць праўду аб Узброеных Сілах, аб тым, як вырашаюць вучэбна-баявыя задачы воіны акругі, як яны жывуць і працуюць, выконваюць свой канстытуцыйны абавязак, чытайце акруговую газету...»**

**У гэтым жа слове расказваецца гісторыя выдання, а яна багатая і цікавая. Першы нумар тагачаснай «Красноармейской правды» выйшаў 22 чэрвеня 1921 года.**

**Газета не абмінала ўвагай і пытанняў літаратуры і мастацтва. Асабліва гэта стала адчувальным у гады Вялікай Айчыннай вайны.**

**І цяпер у газеце «Во славу Родины» часта выступаюць пісьменнікі. Расказваецца таксама пра цікавыя спектаклі і пастаноўкі, работы скульптараў, мастакоў, кінематаграфістаў.**

**Адным словам, армейская газета становіцца газетай для ўсіх.**

**НАШ КАР.**

*Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

**Пімен ПАНЧАНКА**

# Сыны ці пасынкі лёсу?

**На першым этапе дыскусій, прысвечаных становішчу нашай мовы, пераважала эмацыянальная канстатацыя. Сёння ўсё часцей гучыць аналітычны роздум, побач з паняццямі «становішча», «стан» ужываецца паняцце «статус». Прававы, грамадзянскі, юрыдычны, г. зн. дзяржаўны, статус беларускай мовы. Гэтыя словы — «дзяржаўнасць», «статус мовы» — гучалі ў некаторых выступленнях і на пасяджэнні ідэалагічнай камісіі ЦК КПБ, якое адбылося 3 красавіка пад старшынствам кіраўніка камісіі, сакратара ЦК В. А. Пячэннікава. З гэтымі словамі перадаваў рэдакцыі свой артыкул, выпакутаваны, можна сказаць, у нялёгкія гадзіны бяссонніц народны паэт Беларусі, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Пімен Емяльянавіч Панчанка. «Напісаў вось... Не, не, не вершы, на гэты раз артыкул... Аб чым? Аб тым, што нашай, беларускай мове павінен быць нададзены статус дзяржаўнай...» — сказаў паэт.**

**Давайце паслухаем роздум услых нашага высокааўтарытэтнага паэта-грамадзяніна, давайце паразважаем, памяркуем разам з ім...**

Рыхтуецца Пленум ЦК КПСС па нацыянальным пытанні і міжнацыянальных адносінах. Усё часцей і ў Маскве, і ў Мінску ў газетах і часопісах па гэтых пытаннях з'яўляюцца артыкулы вучоных, пісьменнікаў і проста допісы зацікаўленых людзей. Пытанні гэтыя важныя і складаныя, але вельмі запушчаныя.

**У нашай краіне жыве адна чацвёртая частка ўсіх вучоных і навуковых працаўнікоў планеты. У нас тысячы акадэмічных і галіновых даследчых інстытутаў. А мы пляцёмся недзе ў сярэдзіне слабаразвітых краін і па камп'ютэрах, і па навуковых адкрыццях, і па тэхналогіях, і па ахове здароўя, і па адукацыі, і па ўраджаях, і па якасці тавараў, і па сервісу. А ў апошні час можна ў свой «актыў» запісаць не толькі п'янства, але наркаманію, прастытуцыю, неверагоднае хабарніцтва і нават мафію...**

**Дзе ўжо тут да беларускай мовы! У нашай краіне магутна ўсталявалася не мова міжнацыянальных зносін — руская, а, як дасціпна сказаў таленавіты рускі пісьменнік Ю. Паляко ў, «канцылярская латынь». Яе стварылі сотні тысяч безыменных памочнікаў і сакратароў начальнікаў і кіраўнікоў усіх рангаў. Яны пісалі для сваіх «шэфаў» усе выступленні і артыкулы, у якіх заўсёды было: «у святле планаў...», «у разрэзе рашэнняў...», «у плане перабудовы...» Там заўсёды былі словы: узняць, павысіць, дамагчыся, запатрабаваць, не мірыцца, аднавіць, паменшыць, мабілізаваць і шмат іншага канцылярскага пустаслоўя.**

**Толькі цяпер прамоўцы ўсё часцей адрываюць вочы ад надрукаваных папер, пачынаюць гаварыць чалавечай мовай. Але над намі ўсё яшчэ вісіць каманднa-бюракратычнае ярмо.**

Я чытаў і чытаю ўсе артыкулы па пытаннях мовы, міжнацыянальных адносін. Мяне ўстрывожылі падзеі ў Нагорным Карабаху, Азербайджане і Арменіі. Я ведаю і высока цаню гэтыя народы, у мяне там жывуць добрыя сябры. І тая ўзаемная варожасць, той экстрэмізм, які ўзнік у Закаўказскіх рэспубліках, болем працяў маё сэрца. І ўсё ж я з зайздрасцю прачытаў артыкул азербайджанскага пісьменніка Эльчына «Страчанае дзіцё» («ЛГ» ад 15.02. 1989). Артыкул пачынаецца так: «У Азербайджане, як і ў нашых бліжэйшых суседзяў у Грузіі і Арменіі, карэнная мова прызнана ў рэспубліканскай Канстытуцыі дзяржаўнай, навучанне на ёй у школах і ВНУ распаўсюджана дастаткова шырока, мясцовыя выдавецтвы родную літаратуру, увогуле, не крыўдзяць...»

А ў нашай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, якая толькі што адсвяткавала сваё сямідзесяцігоддзе?

Ёсць такая дзіцячая гульня. Дзяўчаткі мелам на асфальце намалююць «клеткі» і на адной ножцы скок ды скок. Кіруючыя чыноўнікі таксама любяць пагуляць у «класікі». «Мы адкрылі беларускі клас у такой-та школе, яшчэ адкрыем...» Адкрываюць не яны, асветніцкія чыноўнікі. Часцей энтузіясты — маладыя настаўнікі ці пісьменнікі, якія абышлі бацькоў першакласнікаў, гутарылі з імі. Але ўслед за творчай моладдзю былі пасланы «вопытныя» настаўнікі, тыя сурова гаварылі падатлівым бацькам, якія жадалі, каб іх дзеці вучыліся на роднай мове: «Вы хочаце, каб вашы дзеці атрымлівалі дрэнныя адзнакі? Вы хочаце, каб наша школа была апошняй па паспяховасці?» І бацькі мянялі сваё рашэнне.

А паспрабуй — выкажы незадаволенасць гэтым, атрымаеш грунтоўны і аўтарытэтны адказ: «С белорусским языком у нас всё в порядке». Гэта як з савецкім турызмам. Там таксама сцвярджаюць: усё як след. Толькі за мяжой (а я габываў ледзь не ва ўсіх еўрапейскіх краінах, у ЗША, Канадзе) пытаюцца: «Што гэта ў вас за турысты? Людзі з іншых краін ходзяць у тэатры, музеі, саборы, палацы, карцінныя галерэі, а вашы толькі па магазінах».

Прыехаў не вельмі даўно да нас у Мінск шырока вядомы польскі пісьменнік, наш добры друг. Звяртаючыся да Максіма Танка, ён сказаў: «Вы некалі лаялі польскія ўлады, што прыгнятаюць беларусаў. Правільна лаялі. Цяпер зусім іншае. У Беластоку і Беластоцкім ваяводстве ёсць беларускія школы і ліцэі. А як у вас, у Мінску?..» Мы хваліцца «класікамі» не хацелі. Не было нам куды павесці дарагога госця. Як ні горка прызнацца, Беларуская рэспубліка, роўная між роўных, не мае беларускіх школ, асабліва ў Мінску, абласных і раённых цэнтрах. Ёсць, як дар божы, Гудзевіцкая школа ды яшчэ некалькі вясковых.

Вось і тлумач за мяжой, чаму нашы турысты бегаюць там па магазінах. Вось і тлумач польскаму другу, чаму ў Мінску няма беларускіх школ.

А ў нас жа вучыцца шмат замежных студэнтаў. Яны бачаць, што ў нас са школамі, з нацыянальнай культурай. Паедуць дадому і раскажуць пра наш сацыялізм.

Вось чаму я пазайздросціў закаўказскім братам. А было ж, усё ў нас некалі было. Я вучыўся ў беларускай школе ў Бягомлі. Цяжка нам было навучыцца рускай мове, але мы яе палюбілі і ніякіх пакут з-за яе не мелі. Праўда, такія словы, як «рябина» і «речка», мы і да старасці вымаўляем па-беларуску: рабіна і рэчка. Потым я выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці. Беларуская і руская мовы не перашкаджалі адна адной, і паспяховасць была выдатная. І слаўных людзей мы выхавалі ў Казуліцкай і Кіраўскай школах. Шкада, што многія з іх палеглі на франтах, у партызанскіх атрадах.

**12 сакавіка 1942 года на навуковай сесіі Акадэміі навук БССР у Казані (туды ў час вайны пераехала акадэмія) Янка Купала ў сваім дакладзе сказаў: «З 1 студзеня 1919 года Беларусь была абвешчана самастойнай дзяржавай — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. Сваю дзяржаўнасць беларускі народ атрымаў з рук Леніна... Беларуская мова з заганнай і хамскай, якой яна лічылася пры царызме, стала дзяржаўнай і пачала карыстацца ўсеагульнай павагай».**

**Аўтарытэт Беларусі пад час Айчыннай вайны надзвычайна вырас. Рэспубліка-партызанка! І мы гэтым ганарыліся і ганарымся. А колькі рускіх, украінцаў, казахаў, грузінаў, татараў і нашых дарагіх сяброў з другіх народаў ваявалі ў беларускіх партызанскіх атрадах! Амаль два з паловай мільёны жыхароў Беларусі загінула за любімую Радзіму, за Савецкую дзяржаву, а, значыць, і за беларускую мову, культуру, гісторыю.**

# Пасяджэнне Ідэалагічнай камісіі ЦК Кампартыі Беларусі

(Пачатак на стар. 1).

М. І. Дзямчук ахарактарызаваў рад іншых мер, накіраваных на паляпшэнне выкладання і функцыяніравання ў навучальных установах рэспублікі беларускай мовы, выказаў прапановы па ўдасканаленню яе статуса.

Міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч раскрыў у сваім выступленні асноўныя аспекты праблемы захавання і развіцця нацыянальнай культуры. І тут сур'ёзнае значэнне надаецца ўдасканаленню структуры народнай адукацыі. Вялікую ролю, напрыклад, заклікана адыграць рэспубліканская праграма эстэтычнага выхавання, якая прадугледжвае рэзкае павелічэнне колькасці школ эстэтычнай накіраванасці.

У выступленні былі ўзняты таксама пытанні развіцця музейнай справы і тэатра, манументальнай прапаганды, беларускага фальклору.

Члены камісіі і запрошаныя на пасяджэнне кіраўнікі ідэалагічных ведамстваў, навуковых устаноў, творчых саюзаў, добраахвотных таварыстваў, сродкаў масавай інфармацыі адзначалі, што ў адпаведнасці з рашэннямі X пленума ЦК КПБ у рэспубліцы ажыццёўлены рад першачарговых мер па развіццю беларуска-рускай двухмоўнасці, захаванню гістарычнай спадчыны беларускага народа. Патрабуецца далейшая планамерная і паслядоўная работа ў гэтым напрамку.

Міністэрствы і ведамствы пачалі распрацоўку канцэпцыі і асноўных мерапрыемстваў доўгатэрміновых праграм «Родная мова» і «Спадчына». Аднак дзеянні іх пакуль разрозненыя, да гэтай важнай справы недастаткова падключаюцца шырокая грамадскасць, сродкі масавай інфармацыі.

Ідэалагічная камісія ЦК КПБ рэкамендавала ўсім зацікаўленым рэспубліканскім і мясцовым органам і арганізацыям паскорыць падрыхтоўку праграм. Адзначалася, што ў аснову канцэпцыі праграмы «Родная мова» павінны быць пакладзены ленінскія нормы і прынцыпы нацыянальнай палітыкі,

Дык як жа здарылася, што беларуская мова перастала існаваць як дзяржаўная, што памяць пра выдатных беларускіх дзеячаў закрэслілася, а гістарычныя помнікі — крыж Ефрасінні Полацкай, рэдкія даўнія кнігі і рукапісы, карціны, цэрквы, касцёлы, замкі, палацы, слуцкія паясы, ветракі разбурыла не толькі спусташальная вайна, але і свае родныя бюракраты і чыноўнікі пасля перамогі? Так былі знішчаны, узарваны самая старажытная царква (XII стагоддзе) у Віцебску, вежа на плошчы Свабоды ў Мінску і шмат іншага. А дзе гістарычная вуліца Няміга? Узарвалі пасля вайны. А цяпер архітэктары-разбуральнікі хочуць высекчы дрэвы ў тэатральным скверы. Давайце хоць раз не дапусцім чарговага варварства!

Ідзе адраджэнне нацыянальнай годнасці, гонару, разумення сваёй самабытнасці, непаўторнасці беларускага народа. «Непаслухмяныя» маладыя навукоўцы, пісьменнікі, мастакі, студэнты і, наогул, моладзь дакапаліся і зразумелі, што ў беларускага народа багатая гісторыя, культура, адна з самых прыгожых і багатых— старажытная славянская мова.

Аказалася і выявілася, што Беларусь мела выдатных народных паўстанцаў Вашчылу і Каліноўскага і мудрага Сымона Буднага; што род Адама Міцкевіча і род Фёдара Дастаеўскага паходзяць з Беларусі; што цар Аляксей Міхайлавіч у XVII стагоддзі ўзяў настаўнікам для сваіх дзяцей Аляксея, Фёдара і Соф'і полацкага вучонага манаха і паэта, які пісаў вершы на беларускай, украінскай і польскай мовах і стаў вядомым свету, як Сімяон Полацкі; што за трохтомную навуковую працу «Беларусы» Яўхім Фёдаравіч Карскі атрымаў званне акадэміка Расійскай імператарскай акадэміі навук; што беларускі вучоны Ігнат Іпалітавіч Дамейка стварыў першы чылійскі універсітэт у Сант-Яга; што першым камісарам і арганізатарам Савецкай улады на Чукотцы быў беларус, балтыйскі матрос Міхаіл Сяргеевіч Мандрыкаў з Чавускага павета, з Магілёўшчыны (яму ў Анадыры пастаўлены помнік).

Цяпер пара вымавіць галоўнае імя нашай культуры— Францыск Скарына. Амаль на 50 гадоў раней за славутага рускага кнігадрукара Фёдарава надрукаваў у Празе «Біблію» і «Псалтыр» і шмат іншых духоўных кніг і свецкіх мудрых казанняў. Гэта было з павагай адзначана многімі рускімі вучонымі гісторыкамі. Як шкада, што ў пазнейшых выданнях прац гэтых гісторыкаў пачало знікаць імя першага ўсходнеславянскага друкара і асветніка.

А між тым, і Пётра Мсціславец, памочнік першадрукара Фёдарава, са Скарынавага гнязда.

Наша гісторыя і культура багатыя, і мы—не нейкія пасынкі, а творцы і актыўныя стваральнікі агульначалавечай культуры. Хто мае слых, той пачуе ў першым канцэрце для фартэпіяна з аркестрам П. І. Чайкоўскага родную беларускую песню «Як памерла матуленька...» (лейтматыў). І ў «Нарвежскіх танцах» Грыга гучыць наш танец «Мікіта».

Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Васіль Быкаў—гэта імёны, якія навечна ўвайшлі ў агульнаеўрапейскую і сусветную літаратуру.

А яшчэ можна назваць паўтара-два дзесяткі талентаў. А мастакі, кампазітары, акцёры!

Дык чаму ж амаль зніклі наша мова, нашы школы, наша культура?

Па-першае, не памёр вялікадзяржаўны шавінізм. Гены вялікадзяржаўнай знявагі ўсяго беларускага пераходзяць ва ўсё новыя і новыя пакаленні чыноўнікаў. Часам гэтаму, як ні дзіўна, дапамагаюць і рускія савецкія пісьменнікі. Адзін сучасны мудрагелісты маскоўскі паэт нядаўна пісаў: «В древнем русском городе Витебске жил великий художник Шагал». Не менш вядомы маскоўскі празаік сцвярджае ў адным са сваіх твораў: «Белорусы—те же русские».

Няхай гэта ляжыць на іх сумленні.

Цяпер пяройдзем да палітыкі.

Я добра памятаю той сход партыйнага актыву Беларусі, калі прыязджаў да нас першы сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў. Кіраўнік КПБ К. Т. Мазураў зрабіў даклад на беларускай мове (як тады вялося). Аб'явілі перапынак. Не паспелі выйсці людзі (я сядзеў недалёка ад прэзідыума), як Хрушчоў тут жа ў прэзідыуме пачаў лаяць Мазурава, чаму ён не зрабіў даклад на рускай мове: «Ни черта не понятно».

Нас гэта вельмі непрыемна ўразіла.

А вось як піша пра тагачасныя «ўказанні» Хрушчова М. Усеваладава, доктар філалагічных навук, прафесар МДУ («Правда» ад 6 сакавіка г. г.): «А вспомним сакраментальную фразу Н. С. Хрущева, произнесенную им на ступенях Белорусского государственного университета: «Чем скорее все мы будем говорить по-русски, тем быстрее построим коммунизм». К чему привело услужливое старание официальных местных властей выполнить это неграмотное во всех отношениях указание и одновременно «ускорить» столь нетрудным путем строительство коммунизма, известно: в Белоруссии фактически не осталось школ с обучением на родном языке».

Да таго часу належыць і тэлеграма А. Фурцавай ва ўсе рэспублікі, каб выкладанне ва ўсіх вышэйшых навучальных установах вялося толькі на рускай мове і каб фільмы здымаліся па-руску.

Вось гэта і ёсць асноўнае, карэннае тлумачэнне таго, што сталася з беларускай мовай: «указанні» і «старанне» мясцовых улад.

У 37-38-м і ў пачатку 50-х гадоў пры Сталіне высеклі густы лес беларускай інтэлігенцыі (а быў сапраўдны лес!); дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, вучоных, настаўнікаў, пісьменнікаў, артыстаў, журналістаў і нават студэнтаў.

Але жыла калгасная вёска. Нягледзячы на страты, жыло беларускае сялянства. Жылі беларуская мова, песня, казка, жылі звычаі, абрады, народны лад, народная праўда і праца.

І вось пачаўся «вялікі скачок» Хрушчова— з кукурузай, з ліквідацыяй прысядзібных участкаў, здачай жывёлы, ліквідацыяй канюшыны і неперспектыўных вёсак, ліквідацыяй нацыянальнай мовы. Жаданне дагнаць Амерыку, звесці ўсіх у «хрушчобы» і пабудаваць па камандзе камунізм.

Вясковы калгасны люд разбегся, раз'ехаўся. Беларусы цяпер жывуць і працуюць на Ямале і ў Томску, у Краснаярскім і Алтайскім краях, на цаліне ў Казахстане і пад Хабараўскам, на Ноўгарадчыне і ў Пскове. Шмат іх на цюменскіх нафтаперапрацоўках.

Нашы сябры з суседніх рэспублік, помню, жартавалі: «Прымаецца пастанова аб дрэнным выкладанні рускай мовы ў адной з сярэднеазіяцкіх рэспублік. Там амаль нічога не зменіцца, затое беларусы выканаюць пастанову на 200 працэнтаў». Альбо: «Загадай беларусам асушыць адну лужыну і адно балотца—яны асушаць усе балоты і азёры. У дадатак выпрастаюць усе малыя рэкі».

Сумныя і горкія жарты. Сорамна за мясцовыя ўлады, за нашу інтэлігенцыю, за нашых настаўнікаў, за вельмі слабае ўздзеянне на народ беларускай мастацкай літаратуры, кіно, тэатра.

Беларусы заўсёды славіліся сваёй працавітасцю, сціпласцю, пакорнасцю, яны любілі дапамагчы братам, папрацаваць талакой, былі заўсёды міласэрнымі. А ў Айчынную вайну паказалі небывалы гераізм і адвагу.

Людзей гераічнага лёсу і характару павыбілі на вайне, многія памерлі, а вось дзеці і ўнукі іх паказалі за апошнюю чвэртку века звышпаслухмянасць і звышпакорлівасць. Падаліся ў горад. Нешта скончылі (часцей інжынерна-тэхнічнае). Атрымалі крэслы, пасады.

Так і пажылі мы ў хрушчоўскім камунізме і ў брэжнеўскім развітым сацыялізме. А цяпер толькі-толькі пачынаем жыць нармальным чалавечым жыццём.

А спадчына цяжкая...

Часам кіяскёр папярэджвае грамадзян, якія хочуць купіць «Звязду», «Чырвоную змену» ці «Літаратуру і мастацтва»:

— Не бярыце, гэта беларуская.

**(Працяг на стар. 14).**

**рашэнні XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС. Патрабуецца распрацаваць комплекс мер па арганізацыйнаму, матэрыяльнаму, кадраваму і навукова-метадычнаму забеспячэнню пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы. Пры гэтым неабходна зыходзіць з таго, што гэтыя меры могуць і павінны ажыццяўляцца ў рамках нацыянальна-рускай двухмоўнасці, без прымусу і ўрону для грамадзян іншых нацыянальнасцей, якія пражываюць на тэрыторыі рэспублікі.**

**Праграма «Спадчына» прадугледжвае комплекс мер па захаванню, адраджэнню і арганічнаму ўвядзенню ў наша жыццё нацыянальнай спадчыны, народных звычаяў і традыцый. З улікам велізарнага маштабу будучай работы ў справу выяўлення, рэстаўрацыі і рэканструкцыі аб'ектаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа трэба будзе ўключыць не толькі дзяржаўныя органы, установы культуры, навуковыя ўстановы, але і шырокую грамадскасць.**

**Камісіяй падтрымана ідэя папярэдняй прапрацоўкі і абмеркавання найбольш важных раздзелаў праграм «Родная мова» і «Спадчына» ў працоўных калектывах, творчых саюзах, добраахвотных таварыствах, установах культуры, мясцовых партыйных і савецкіх органах.**

**Намечана пасля завяршэння распрацоўкі праектаў праграм апублікаваць іх у друку для ўсенароднага абмеркавання.**

**Камісія заслухала інфармацыю члена ЦК КПБ, загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі С. Я. Паўлава аб структуры аддзела, яго кадравым саставе і функцыянальных абавязках.**

**На пасяджэнні камісіі выступілі старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР У. І. Стальмашонак, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры І. Г. Чыгрынаў, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Н. С. Гілевіч, член ЦК КПБ, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Я. Навуменка, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР А. І. Падлужны, дырэктар інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Р. П. Платонаў, член ЦК КПБ, старшыня Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню Г. М. Бураўкін, член Рэвізійнай камісіі Кампартыі Беларусі, старшыня Рэспубліканскага савета ветэранаў вайны і працы А. Я. Андрэеў, член ЦК КПБ, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, член ЦК КПБ, рэктар Беларускага політэхнічнага інстытута В. М. Чачын.**

**У заключэнне выступіў сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэннікаў.**

**БЕЛТА.**

## *Думка чытача*

**Рэдакцыя атрымлівае водгукі на публіцыстычныя нататкі Генрыха Далідовіча «Пра волевыяўленне і пра іншае», змешчаныя ў нумары за 31 сакавіка. Водгукі гэтыя неадназначныя, што, відаць, сведчыць пра спрэчнасць ці, магчыма, залішнюю катэгарычнасць асобных сцвярджэнняў пісьменніка. Друкуем адзін з гэтых лістоў, які належыць Р. І. Таміліну, дацэнту кафедры «Стандартызацыя і метралогія» БПІ.**

# АДКАЗ «ФІЗІКА»— «ЛІРЫКУ»

У апошнім сакавіцкім нумары «ЛіМа» надрукаваны палемічныя нататкі Генрыха Далідовіча «Пра волевыяўленне і пра іншае». Напісаны яны, як кажуць, крывёю сэрца і кранаюць, мабыць, самыя балючыя раны ў душы кожнага свядомага беларуса, кожнага патрыёта. І ў маёй душы (хай гэта не выглядае нясціпласцю) таксама. Але калі ўжо «палемічныя», то мусіць быць і палеміка.

Я з'яўляюся тым самым «халодным рацыяналістам», «фізікам» (аўтар, відаць, кладзе ў адну шуфляду фізікаў і тэхнікаў—даруем яму недакладнасць), на якіх аўтар узваліў віну за сучасны стан беларускае культуры, беларускае мовы. Так, я сапраўды ўжываю ў сваёй працы рускую тэхнічную тэрміналогію, карыстаюся тэхнічнай літаратурай, у тым ліку на рускай мове, але не баюся, што гэта зробіць мяне «фактычным касмапалітам», як сугеруе аўтар.

Больш таго, я, у адрозненне ад аўтара, сапраўды лічу, што тэхніка, тэхналогія (вытворчыя сілы)—рэч першасная, а літаратура (у тэрміналогіі аўтара — культура)— рэч другасная. З гэтым можна не згаджацца, але ўся гісторыя чалавецтва (зноў «касмапалітызм»!) з'яўляецца пацвярджэннем гэтай ісціны, сфармуляванай даволі даўно, у прыватнасці, Марксам. Зараз можна вычытаць у друку, што Маркс і Ленін у нечым памыляліся, што нават Кастрычніцкая рэвалюцыя была ледзьве не заўчаснай. Я не прыхільнік гэткіх «эмоцый», я ўпэўнены, што і надалей буду прыхільнікам «тэхналогіі» і НТР, бо толькі яны даюць магчымасць спяваць не на галодны жывот.

Дык што ж такое «беларуская культура»? Толькі мова, толькі літаратура? А тэхнічная культура, культура вытворчасці, гэта што— не культура? Зірніце на карту Беларусі—амаль у кожным раёне ёсць нейкая «Рудня», калі не дзве-тры, ёсць «Буды» і «Гуты» (па сучаснай тэрміналогіі—«фабрыкі» і «заводы»). Гэта што— не беларуская культура? Хто, напрыклад, ведае, што кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторы ў Гародні ўпершыню ў сусветнай практыцы загадаў пры вырабе эталонаў «віленскага локця» і «віленскай паўбочкі» зрабіць іх па два ідэнтычныя экземпляры кожны. Адзін экземпляр «рабочы», другі—«кантрольны», як гэта паўсюдна было прынята праз нейкія марныя сто гадоў. І гэта, можа, не беларуская культура? Дарэчы, Баторы быў адзіным еўрапейскім каралём з вышэйшай адукацыяй (Падуанскі універсітэт), праўда, толькі выбарным, па-сучаснаму—«прэзідэнтам», але гэта таксама ці не сведчанне культуры.

Прыкладаў можна было б прывесці нямала. І ўжо калі б давялося зважыць, каму больш дасталося ў тым ганебным працэсе адмаўлення беларускае культуры—беларускай мовы ці беларускай тэхніцы, дык зусім верагодна, што гэтай апошняй дасталося больш.

Дык хто ж на самай справе вінаваты ў вынішчэнні беларускае культуры? Рацыяналісты-тэхнакраты? Як проста: няма цукру—самагоншчыкі вінаватыя, няма пральнага парашку—наркаманы раскупілі, няма тэлевізараў— палякі павывозілі, няма беларускай мовы—фізікі (калі ўжо прымаць тэрміналогію аўтара) загубілі. Нешта мне здаецца, што ні Галадзед, ні Шаранговіч, ні Панамарэнка не былі «фізікамі». Не былі імі і першыя кіраўнікі савецкай прамысловасці: Дзяржынскі, Куйбышаў, Арджанікідзе. Нельга ж лічыць тэхнікам Кагановіча толькі таму, што ён быў не пісьменнік, а шавец («фізік», бо не «лірык»).

А можа, у заняпадзе беларускай культуры вінаватыя якраз дзеячы культуры—тыя «лірыкі», што так згодна выкраслілі Сыракомлю і Міцкевіча, Агінскага і Манюшку, залічыўшы іх у палякі, бо напэўна выгодней быць не толькі першымі, але і лепшымі. Ці ж гэта «рацыяналісты-фізікі» па тэхнічных прычынах у фільмах «Беларусьфільма» падаюць гэтых цёмных, напаўдзікіх абарыгенаў, як заўважыў аўтар, апранутых, дарэчы, у рускія армякі і ў какошнікі?

Давайце ж, шаноўны Генрых Далідовіч, прызнаемся, што вінаватыя тут не «фізікі» ці «лірыкі», не тэхнікі ці літаратары, а вінаватыя мы ўсе—БЕЛАРУСЫ. Вінаватыя ў тым, што паддаліся згубнаму працэсу дэкультурызацыі, раскідалі, пагублялі каштоўнасці сваёй БЕЛАРУСКАЙ культуры—тэхналагічнай, навуковай, літаратурнай і музычнай. Вінаватыя ў тым, што не супрацівіліся, калі гэтай культурай памыкалі напаўпісьменныя шаўцы. Мы вінаватыя і перад тымі, хто ў выніку барацьбы за гэтую культуру скончыў жыццё ў Курапатах, пад Варкутой ці пад Магаданам.

Час—з'ява незваротная. Былога не вернеш. І нават прызнанне віны не дапаможа. Давайце не будзем траціць «эмоцыі» на пошукі вінаватых, а будзем проста ратаваць тое, што можна ўратаваць, пакуль яно яшчэ жыве ў нашай памяці.

Тады я на сто працэнтаў з Вамі, шаноўны лірык Генрых Далідовіч.

**Р. ТАМІЛІН.**

г. Мінск.

## З пошты «ЛіМа»

**● Дзе купіць армянскую кнігу?**

**● Чым нам ганарыцца**

**● «Прад'явіце пропуск!..»**

□

ХАЧУ завастрыць увагу на адным пытанні, якое звязана з інтэрнацыянальнай дружбай паміж народамі нашай краіны. Вельмі добра, што ў сталіцы рэспублікі можна набыць кнігу на мове братніх сацыялістычных краін, на мовах буйных капіталістычных дзяржаў — на англійскай, нямецкай, французскай. Але купіць літаратуру на мовах братніх народаў Савецкага Саюза, нават нашых суседзяў украінцаў ці літоўцаў, не кажучы ўжо пра грузін альбо армян, практычна няма ніякай магчымасці. А чаму?

Ды і прыклад для пераймання ёсць. У адной кнігарні Вільнюса я бачыў кнігі на беларускай мове. Чаму б не стварыць у Мінску кнігарню на ўзор магазіна «Дружба», дзе б прадаваліся кнігі на мовах народаў СССР?

**Я. ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

□

«ГОРДЫЙ ГОМЕЛЬ...» Так назваў наш горад журналіст В. Сафонаў у «Праўде» за 25.01.89 г. Прачытаў я і задумаўся: а ў нас, гамяльчан, важкія падставы, каб вельмі ўжо ганарыцца?

Можа, ужо склаўся нейкі асаблівы, ганарлівы характар гамяльчан ад таго, што яны спешчаны матэрыяльнымі дабротамі? Дык жа не: напрыклад, спажыванне мяса на душу насельніцтва складае ў Гомелі 63 кілаграмы, у Мінску — 84, Брэсце — 66, Магілёве — 65 кілаграмаў у год (з выступлення старшыні Гомельскага аблвыканкома на сходзе актыву вобласці, «Гомельская праўда», 24.01. 89 г.). Можа, гамяльчане багатыя на даброты нацыянальнай культуры? Мяркуйце самі. У Гомелі няма ніводнай беларускай школы; беларускамоўныя шыльды — і тыя вялікая рэдкасць; тэатр лялек, народны фальклорны тэатр «Жалейка», філармонія не маюць уласнай сцэны; няма канцэртнай залы — гастролі праходзяць у непрыстасаваных памяшканнях; няма абласной маладзёжнай газеты (як у абласных цэнтрах Расіі ці Украіны); не хапае месца ў краязнаўчым музеі для паказу многіх экспанатаў; пра беларускамоўную трупу абласнога драмтэатра можна толькі марыць. Дарэчы, не ўсе, мабыць, ведаюць, што да прыезду ў Гомель у 1939 г. акцёрскага курса выхаванцаў славутага мхатаўца Леанідава, які заснаваў цяперашні драмтэатр, у Гомелі ўжо працаваў прафесійны калектыў. То быў Трэці Беларускі дзяржаўны тэатр, у якім працаваў славуты Уладзіслаў Галубок. Тэатр у 1937 г. быў ліквідаваны. Дагэтуль няма ў Гомелі мемарыяльнай дошкі і вуліцы імя У. Галубка, як і многіх іншых выдатных людзей Беларусі (затое ёсць вуліцы Міжгародняя, Тэхнічная, Жамчужная і г. д.).

Можа, сэнс выразу «горды Гомель» крыецца ў словах першага сакратара Гомельскага абкома партыі А. С. Камая на экстранным пасяджэнні бюро абкома ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС? «Без дапамогі нас не пакінуць. Але браць у дзяржавы тое, што мы можам і павінны рабіць самі, амаральна» (з публікацыі В. Сафонава). Час паказаў, што вынікі чарнобыльскай катастрофы для Беларусі былі непрадказальныя і дапамога аказалася недастатковай. Абмеркаванне ў Палітбюро ЦК КПСС становішча спраў у раёнах Беларусі і некаторых іншых раёнах краіны, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню, а таксама сустрэча Камісіі Бюро ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі з грамадскасцю паказалі, што многія пытанні аховы здароўя людзей застаюцца дагэтуль нявырашанымі.

Дык жа не будзем спяшацца са словамі «горды Гомель». Спачатку павінны быць справы.

**М. ХАДОРЫН,**
**начальнік аддзела Гомельскага хімзавода імя 50-годдзя СССР.**

□

КАЛІ ж, урэшце, з нашых школьных падручнікаў знікне сталінская канцэпцыя гісторыі? Увогуле, ці ёсць сэнс крычаць пра бездухоўнасць грамадства, асабліва моладзі, калі кожнаму грамадзяніну змалку ўбіваецца ў галаву, што гісторыя — гэта гісторыя паўстанняў, войнаў, рэвалюцый, барацьбы класаў; што толькі вялікай крывёй рухаецца прагрэс чалавецтва, ствараюцца высокія і светлыя каштоўнасці? Ці можа фарміраванне такога светапогляду садзейнічаць станаўленню нармальнай чалавечай асобы, выхаванню гуманізму, маральнасці, культуры ў шырокім сэнсе, любові да працы? Ці здатныя заклікі і загады «Не рабіце так!» і ўрокі права, колькі б іх ні было многа, вылечыць страшэнную хваробу? Асабіста я ўпэўнена, што, не змяніўшы канцэпцый выкладання гісторыі, літаратуры, этыкі, мы наўрад ці здолеем ачысціцца да канца.

**І. ГАНЕЦКАЯ,**
**аспірантка.**

г. Мінск.

□

НЯДАЎНА я атрымаў ліст з вёскі Новы Пагост, што на Міёршчыне, са школьнага музея. Мяне папрасілі напісаць колькі слоў пра Генадзя Іванавіча Цітовіча — выдатнага дзеяча нашай музычнай культуры. Вёска Новы Пагост — радзіма Цітовіча, і вельмі ўсцешна, што ў музеі тамтэйшай школы ўвекавечваецца памяць пра славутага земляка.

А ў нас жа, у сталіцы Беларусі, зроблена далёка не ўсё для ўшанавання імя Цітовіча. Праўда, ягонае імя цяпер носіць выпеставаны Генадзем Іванавічам Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР. А вось мемарыяльнай дошкі на доме па колішняй Даўгабродскай (цяпер вуліцы Казлова), дзе многія гады жыў Цітовіч, чамусьці дасюль няма. Я ведаю, што замарудзілася і работа над надмагільным помнікам. Чаму? Мінула ж ужо амаль тры гады, як Генадзя Іванавіча няма сярод нас...

Ніякавата думаць, што кіраўніцтва нашага Саюза кампазітараў і гарадскія ўлады не цікавяцца, не турбуюцца накont такой далікатнай справы— можа, таму яна і стаіць на месцы?

**Юрый СЕМЯНЯКА,**
**кампазітар.**

□

СЛОВА «перабудова» не знікае са старонак газет, з экранаў тэлевізараў, але ідзе яна, па ўсім відаць, цяжка.

Вось толькі невялікі прыклад, які сведчыць, што перабудова часам дзейсная толькі на лозунгах.

Днямі была неабходнасць наведаць Інстытут гісторыі АН БССР. Ля ўвахода ў інстытут — аб'ява: «Пропуск предъявите в развёрнутом виде». Тут жа дарогу мне перагарадзіў сяржант міліцыі.

— Ваш пропуск! — патрабуе.

Зразумела, пропуска я не меў. У які сектар мне трэба было патрапіць са сваім пытаннем, таксама не ведаў. Словам, у той дзень мяне не прапусцілі ў інстытут. Выйшаў я з будынка паважанай установы і падумаў, што ў інстытутах матэматыкі, хіміі і фізікі, дзе вучоныя займаюцца, як мінімум, распрацоўкай і «сакрэтных» праблем, мо і патрэбен міліцыянер або вахцёр. А навошта ён у інстытутах гісторыі, мовы, літаратуры?

**Я. КРАМКО,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**

**ЧЫТАЧ ПРЫЙШОЎ У РЭДАКЦЫЮ**

# «ДАПАМАЖЫЦЕ ТРАПІЦЬ ДА МІНІСТРА...»

**«Чытач прыйшоў у рэдакцыю»... Рубрыка гэтая, можна сказаць, ужо стала прапісалася на старонках штотыднёвіка. Яна несумненна прыйшлася чытачу да душы, выклікала зацікаўленасць. За параўнаўча кароткі час у цесным (трохвугольным!) пакойчыку аддзела пісьмаў і грамадскай думкі рэдакцыі пабывала нямала самых розных людзей, прытым не толькі з Мінска, але і з розных куткоў рэспублікі. Прыводзілі іх да нас не асабістыя крыўды, не прыватныя клопаты, а, зазвычай, грамадскія турботы. Думаецца, што і гэтая актыўнасць нашага (спецыфічнага і яшчэ зусім нядаўна цяжкага на пад'ём) чытача, і грамадскі клопат, які падказвае яму дарогу ў рэдакцыю, — таксама добрая адзнака часу перабудовы, часу абуджэння ад шматгадовай духоўнай, сацыяльнай летаргіі нашых людзей.**

**Чытач, што завітаў да нас роўна тыдзень назад — у мінулую пятніцу, гаворку сваю пачаў таксама менавіта з рубрыкі:**

**— Калі б не яна, наўрад ці прыйшоў бы сюды. А так — вось я, у вашых сценах, прашу выслухаць і памагчы...**

**Наведнікам аказаўся старшы навуковы супрацоўнік НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя БССР, кандыдат медыцынскіх навук М. А. ГРЫГАРОВІЧ.**

— Што прывяло мяне ў рэдакцыю? — перапытаў Мікалай Аляксандравіч. — Калі гаварыць шчыра і коратка, дык — недаўменне, абурэнне, а найперш — боль. Боль за тысячы людзей, якія пакутуюць і паміраюць ад адной з самых жорсткіх хвароб веку — рака. Ну, а калі канкрэтна, дык справа вось у чым...

Некалькі гадоў назад у Беларусі быў створаны новы напрамак у анкалогіі: так званая даназалагічная і даклінічная дыягностыка пухлінная хваробы. Гаворка ідзе аб выяўленні яшчэ нават не пухліны, а толькі схільнасці чалавека да захворвання на рак (таксама да заўчаснага старэння, атэрасклерозу). Гаворка ідзе аб выяўленні злаякаснай пухліны на самых ранніх стадыях яе развіцця, пакуль яна яшчэ не праявіла сябе клінічна. Зрэшты, говорка ідзе не толькі пра прафілактыку ракавых захворванняў, іх папярэджанне і даступнае кожнаму, так бы мовіць, лячэнне. Метады карысныя і для тых хворых, якім ужо праводзілася спецыяльнае лячэнне злаякасных пухлін. Новыя падыходы дапамагаюць выявіць рэцыдыў ці метастаз пухліны таксама на даклінічнай стадыі. А гэта значыць, што паяўляецца магчымасць своечасова прызначыць хвораму лячэнне, падоўжыць ці нават наогул выратаваць яго жыццё.

Гэтыя падыходы суструлі разуменне і падтрымку дэлегатаў IV Усесаюзнага з'езда анкалагаў, атрымалі станоўчую адзнаку Усесаюзнай праблемнай камісіі па дыягностыцы анкалагічных захворванняў. А сёння ўжо не сакрэт, што колькасць іх будзе павялічвацца (немалую ролю адыграла тут і аварыя на Чарнобыльскай АЭС). У сувязі з гэтым новы метад дыягностыкі набывае асаблівa важнае значэнне. З яго дапамогаю ва ўрача паяўляецца магчымасць вывесці практычна здаровых людзей з таго стану, які спрые развіццю пухліннай хваробы, правесці этап лячэння, індывідуальна падабраць найбольш эфектыўныя лекі. Пры гэтым трэба ўлічыць, што метад танны, даступны, не вымагае нейкага там унікальнага абсталявання. Пацыент здае ў лабараторыю паліклінікі кроў на аналіз, і па адной кроплі крыві можна будзе выявіць схільнасць чалавека да захворвання на рак. Дарэчы, людзям менш трэба будзе губляць часу на чаргу да ўрача, які павінен выпісваць накіраванне ў лабараторыю. Ды і ўрач вызваліць свой час на лячэнне хворых. Словам, прыйсці і праверыць сваё здароўе здолеў бы кожны жыхар рэспублікі.

Карацей кажучы, можна і трэба было чакаць, што гэтыя падыходы знойдуць шырокае прымяненне ў лабараторыях паліклінік, што работы ў гэтым напрамку разгорнуцца ў буйным маштабе. На жаль, гэтага не здарылася. У нашым інстытуце даследаванні былі згорнуты наогул, лабараторыя фізіка - хімічных і імуналагічных метадаў дыягностыкі рака была закрыта.

Чаму гэтак адбылося? Спрацавалі, думаецца, суб'ектыўныя і аб'ектыўныя фактары. Пад суб'ектыўнымі маю на ўвазе асаблівасці характару, ці што, кіраўніцтва інстытута, найперш, вядома, дырэктара тавaрыша І. Г. Жакава. Менавіта яны, мяркую, пераважылі ўсё астатняе, у тым ліку і магчымасць перавесці работу анкалагічнай службы пасля ўкаранення новых метадаў дыягностыкі з экстэнсіўнага шляху на інтэнсіўны.

У выніку на сёняшні дзень новыя падыходы дыягностыкі пухлінных хвароб прымяняюцца толькі ў кааператыўнай групе «Прагноз», створанай мною пры Мінскай раённай бальніцы. І яшчэ пры Мінскім гарадскім анкалагічным дыспансеры. Ці ж даравальна такое? Ці ж не будзе балець сэрца ад такога бюракратычнага нядбальства, абыякавасці да людскога гора і трагедый?

У Міністэрстве аховы здароўя рэспублікі ведаюць пра новыя магчымасці барацьбы з ракам, звязаныя з метадам ранняй дыягностыкі. На адным з пасяджэнняў калегіі ставілася пытанне аб тым, чаму гэты метад не прымяняецца ў інстытуце. Міністэрства аховы здароўя рэспублікі не пашкадавала і 11 тысяч рублёў на набыццё унікальнага айчыннага прыбора для выяўлення ранніх злаякасных пухлін, дарэчы, па метаду даназалагічнай і даклінічнай дыягностыкі рака. А вось вывесці карысную і надзвычай патрэбную справу з тупіка ў міністэрстве чамусьці не спяшаюцца.

Таму і хачу сустрэцца з міністрам, каб абгаварыць гэтую тупіковую сітуацыю і пашукаць канструктыўнае выйсце. Ды толькі, дайце веры, каторы час не магу выкарыстаць сваё грамадзянскае права на сустрэчу — шторaз міністр тавaрыш У. С. Улашчык чамусьці недаступны. Ягоныя ж намеснікі зрабіць штонебудзь бяссільныя, адсылаюць мяне да галоўнага анколага, дырэктара інстытута І. Г. Жакава, гэта значыць, да таго, хто якраз і вінаваты, як мне здаецца, у стварэнні ненармальнага становішча, што склалася вакол новых метадаў масавага выяўлення пухлінных хвароб на самай ранняй стадыі.

Зрэшты, не толькі пра гэта хацелася б пагаварыць з таварышам Улашчыкам. Хацелася б пачуць ад яго і адказ, чаму перабудова пакуль што абмінае навуковыя ўстановы Міністэрства аховы здароўя рэспублікі, чаму яна амаль не закранула нашу медыцынскую навуку, дзе часта свежай, неардынарнай думцы, арыгінальнай ідэі бывае зусім нялёгка прабіцца праз частакол накатаных, традыцыйных дысертацыйных тэм. Хацелася б, каб пасля сустрэчы з міністрам нарэшце звярнулі ўвагу на навукова-практычны бок гэтых пытанняў органы калегіяльнай думкі медыцынскай навукі — Праблемныя камісіі і Вучоны савет Міністэрства аховы здароўя. Каб тавaрыш Улашчык, можа, знайшоў бы магчымасць скарыстаць свае права на стварэнне часовага творчага калектыву (калі пакуль нельга зрабіць нешта большае) для распрацоўкі пытанняў ранняй дыягностыкі рака і яго лекавай прафілактыкі. Альбо, урэшце, падтрымаў ідэю знайсці спонсараў—тых «грашавітых» і, у дадатак, разумных людзей, якія здольныя хутка зразумець перавагі новых метадаў і падыходаў да зніжэння захворванняў на рак.

Адным словам, дапамажыце мне трапіць да міністра.

**Што ж, калі публікацыя гэтага расказу М. А. Грыгаровіча паслужыць яму «пропускам» да тав. У. С. Улашчыка, — мы будзем лічыць сваю задачу выкананай.**

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі «ЛіМа».**

# ПАЭЗІЯ ДУМКІ І ТАЕМНАСЦЬ СЭНСУ

(Пачатак на стар. 5).

**адштурхнуўшыся ад яе, магчыма, «і апярэдзіць самое жыццё, і апярэдзіць самую смерць».**

**У вершы «Лесвіца», на мой погляд, утойваецца яшчэ алюзія на антычны міф пра Сізіфа. Ужо ў старажытнагрэчаскай літаратуры была спроба пераасэнсавання гэтага вобраза ў трагедыі Крыція, што не дайшла да нас, ад Сізіфа адпала архаічная маска злачынцы, справядліва пакаранага багамі, ён малюецца героем-багаборцам, які робіць выклік няўмольнаму лёсу. У сучаснай экзістэнцыялісцкай інтэрпрэтацыі (апавяданне А. Камю «Сізіф») яго наканаванне—каціць падгору вялізны камень, які, дасягнуўшы вяршыні, вечна зрываецца ўніз,—сімвал бяссэнсавасці жыцця, немагчымасці здзейсніць задумы і высокія ідэалы. У беларускага паэта няма гэткага «касмічнага» песімізму, ёсць хутчэй паэтычная дыялектыка жыцця і смерці, «верху» і «нізу».**

Свайго роду «стаічны» аптымізм лірычнага героя Разанава падсвечаны гераічным трагізмам. Чалавечая боязь, гаворыцца ў адным з версэтаў, засцерагае: «у будучыні смерць!» Але адвага натхняе: у ёй—неўміручасць. І першае, і другое сцвярджэнні ісцінныя. Тут—трагічная антыномія чалавечага жыцця. Антынамічнасць быцця і пазнання ў свой час глыбока раскрыў Кант. Аднак антынамічнасць—не канчатковае слова філасофскай думкі. Фармальна-лагічная несумяшчальнасць быцця і небыцця, неабсяжнасці і канца, жыцця і смерці «здымаецца» дыялектыкай, поглядам на ўсякую з'яву як рух, працэс, у якім гэтыя крайнасці пераадольваюцца. Будучыня чалавека—у пераходзе ад прыроднай непасрэднасці да вечнай духоўнасці. «Мы,—піша паэт,—ацярушваем ад глухаты свой слых, адтуляем ад слепаты свой зрок, з няўцямнасці выплаўляем сваё разуменне». Так творыцца культура—«паўстанне» чалавечага духу, у ім сутнасць усякай творчасці і свабоды, і гэты «цяжар вызвалення распроствае нашы паставы».

Антынамічна не толькі жыццё, але і пазнанне, культура, цывілізацыя. Вобразы «будзённай свядомасці» падобныя на шыльдачкі, якія мы павесілі на жывую рэальнасць. «Людзі,—піша паэт,—праходзяць міма дрэў, не заўважаючы іх,—яны чытаюць шыльдачкі. А «сведчанні дрэў», іх «пісьмёны», іх трапяткая душа-сутнасць так і застаюцца непрачытанымі. Калі б мне было б дазволена працягваць логіку верша, то я сказаў бы: жывое пазнанне ёсць любоў, бо толькі яна пераўтварае чужы нам свет у часцінку нашай душы.

Вось «Прыкметы» (так названы адзін з версэтаў) нашай урбаністычнай цывілізацыі. Мы, кажа паэт, каб адгарадзіцца ад выпадку, «адгарадзілі сябе каменнай сцяною, забрукавалі дол», уклалі законы, распланавалі сваё жыццё на дзесяцігоддзі і стагоддзі. «Але на самым пачатку лета зажоўкла бярэзіна ў скверы», з палёту ўпала мёртвая птушка і загарчэла вада ў студнях. Усё прадугледзелі,—і тым не менш дайшлі да бяздоння экалагічнай катастрофы. Вось яны, антыноміі цывілізацыі, пра якія з такім болем гаварылі пісьменнікі на сваім студзеньскім (1989) пленуме!

**Прырода аказалася безабароннай перад напорам «цывілізаванага» утылітарызму. Яна ўвасоблена паэтам у сімвалічным вобразе «Дзічкі»: «Дзічка, дзічка, чаму ты не груша? Вось і ліла ўжо зубіцца на цябе, і вострыцца ўжо сякера». Тут—алюзія на словы з Евангелля: «Ужо і сякера ля карэння дрэваў ляжыць: кожнае дрэва, якое не дае добрага плоду, ссякаюць і кідаюць у агонь». У кантэксце прароцтваў Іаана Хрысціцеля «дрэвам няплодным» зваліся «фарысеі і садукеі», старажытная адміністратыўна-чыноўная і «кніжная» бюракратыя, крывадушныя «пастыры», на іх наклікаў прарок «агонь непагасны». Як сказілі сённяшнія фарысеі і бюракраты гэтую адвечную прагу народаў да прычашчэння духоўнасцю! Гэтыя «цывілізатары» разумеюць «грамадскую карысць» па утылітарнаму спрошчана, разбураючы саму аснову культуры—арганічную повязь чалавека з прыродай, іншымі каштоўнасцямі нацыянальнай культуры—мовай, фальклорам, прыгожымі і высокамаральнымі традыцыйнымі абрадамі.**

Алесь Разанаў у новай кніжцы вершаў сцвярджае духоўную веліч прыроднай і культурнай айкумены. Трагедыя ў тым, што сёння часта дзейнічае не добрая воля і любячае сэрца, а спрошчаны розум, які стаў слугою утылітарызму, страціў повязь з Сусветнай Мудрасцю, заблытаў чалавека, які ўрэшце не ведае, «што—страта, а што—набытак, што—немач, а што—здароўе». І вось сячэцца дзічка (сімвал пакрыўджанай чалавекам «дзікай» прыроды), і калі згарэла яна ў агні, то «нешта пагасла ў свеце, нешта замоўкла, нешта асірацела».

Гэтыя каментарыі да паасобных версэтаў Алеся Разанава, зразумела, не гарантуюць ім шырокай аўдыторыі. Яго паэзія элітарная ў добрым сэнсе гэтага слова, аўтар спадзяецца на чытача не толькі чуйнага на паэтычнае слова, але і грунтоўна далучанага да сусветнай культурнай традыцыі. Будзем улічваць яшчэ ўмоўнасць каментарыяў—«перакладу» неадназначных мастацкіх вобразаў празаічнаю мовай, схільнай да лінейнай адназначнасці. І прызнаем за чытачом права на сваю канкрэтызацыю зместу гэтых твораў, даверымся яго духоўнаму вопыту.

Для мяне як чытача, арыентаванага на еўрапейскую, умоўна кажучы, «хрысціянскую» культурную традыцыю, не ўсё зразумела там, дзе паэт спрабуе дапоўніць яе ўсходнім, «будыйскім» паняццем духоўнасці. «...А вынікі доследу,—піша ён, — настойліва адкрываюць ва ўсім, што ні ёсць тут, адно і тое ж: нішто». Перад намі ўзор «усходняга» разумення субстанцыі, ці асновы ўсяго існага. Тыповы еўрапейскі філосаф сказаў бы: ва ўсім, нават у самым малым кванце быцця, у кожнай яго «манадзе» ёсць усё, паўната. Але ж прыпомнім: і гегелеўская дыялектыка зыходзіла з тоеснасці «нечага» і «нішто» на самым абстрактным узроўні быцця.

Да «ўсходняга песімізму» я аднёс бы і «поле зроку» ў вершы «Шэрань». Маючы на ўвазе пэўны стан грамадскага быцця і свядомасці, аўтар піша: зімою, калі «і словы, і людзі, і ўсё навакolle захутаны ў шэрань», нельга адрозніць «няшчырасць ад шчырасці, уяўнасць ад праўды», эгаізм ад альтруізму, «і сухадрэвіны не адрозніваюцца ад дрэў». Але ж ёсць і закон кантрасту, або, як казаў старажытны прарок, «святло ў цемры свеціць». Праўда хіба тое, што «шэрань» нярэдка бывае нешта горшае за цемру, бо скрозь яе не пранікае і святло. У «Пункціраў» паэт піша: «...Атрымліваюць усе без вынятку два найвялікшыя падарункі—жыццё і смерць». Думка гэтая таксама ўсходняга паходжання, бо ў традыцыі еўрапейскага светапогляду смерць ёсць увасабленне зла, сведчыць пра недасканаласць, незакончанасць і «грэхападзенне» быцця. Тут ідэал — бессмяротнасць, як у версэце «Атава», дзе лірычны герой чакае цуду, «каб паспелі ўсе нарадзіцца і не паспела смерць анікога скасіць касой». У версэтах «Мэта» (думка-вобраз: «...Я—мэта, што тоесна перашкодзе»), «Зброя» («...Аднак, перамогшы слабасць, я мушу перамагчы і сілу»), «Вобразы вабяць услед за сабой...» аўтару ўдаецца наблізіць «заходнія» і «ўсходнія» канцэпцыі гуманізму (традыцыя А. Шапенгаўэра і філасофіі экзістэнцыялізму). Урэшце, мне вельмі блізкія фальклорныя рэмінісцэнцыі ў версэтах Разанава (галашэнне «А ён не адказвае анічога...», вобраз птаха, на якім «я лячу ў імглістую бездань часу» і кармлю яго сваім целам, вобразы адзінства «Я» і прыроды ў вершах «Далечыня» і «Дрэвы»).

**З жанрам квантэмы чытач ужо знаёмы па ранейшых кнігах і падборках вершаў Алеся Разанава. Гэта свайго роду «кванты»—непадзельныя часцінкі паэтычнай думкі, сінтэз паэтычнага і музыкальнага вобразаў. Для мяне яны яшчэ і своеасаблівыя «паэтычныя нацюрморты», дзе некальні ўмела падабраных і спалучаных паміж сабою слоў-вобразаў утвараюць няўлоўны «дапаўняльны сэнс». Каскад алітэрацыяў і асанансаў («руіны-рунь-руны»; «жаданняў джалы», «твар вераду... вернутая вера», «пярэчаць рэчы» і г. д.) ствараюць адпаведную мелодыю, дзе пэўная тэма ці вобраз праводзяцца на розных музычных і сэнсавых рэгістрах. Чуюцца мелодыі ночы («прабачыць сон // час іншыцца // у начы // насення вочы»), цішыні («у нетрах сэрца // *горкае карэнне* // цень цішыні»), палкасці («апрануты ў прамень // ніжэй зямлі // жаданняў джалы»).**

**Урэшце, яшчэ адна разнавіднасць паэтычных мініяцюр, «пункціры» ўяўляюцца мне майстарскімі паэтычнымі эскізамі, дзе душа чытача (ды і самога паэта) адпачне ад празмернай напружанасці думкі ў версэтах. Тут свая цэльнасць, завершанасць думкі, як у народных прыказках або прымаўках («Сваёй дарозе мера— // спрабуй, здзяйсняй, вяршы!.. // у будучыню дзверы // не ў часе, а ў душы». Або:«Смерць косіць салому— // зярнят скасаваць не можа: // ратунак у плёне, // у лішку»). Ёсць медытацыі, як у Амара Хаяма («Нас рухае нямы // кругазварот нязморны. // У прадчассі плёну, мы— // нібы зярняты ў жорнах»). Але найбольш тут вобразаў прыроды, паэтычных накцюрнаў.**

Ёсць разнавіднасць мастацкай інфантыльнасці ў нашай айчыннай літаратуры: шмат хто з яе «творцаў» не адчувае гістарычнага руху мастацкага слова, не ўсведамляе яго іерархічнай сутнасці. Шмат хто пападае ў інерцыю той плыні «натуральнай» паэзіі, якая на самым пачатку нашай літаратуры была адкрыццём, тварэннем мастацтва з будзённай гутаркі, але сёння страчвае так неабходную ёй шчырасць і сілу пачуцця. І тады нават добрыя намеры аўтараў не часта выратоўваюць іх ад імітацыі.

Наватарства Алеся Разанава, добра «ўгрунтаванае» ў традыцыях сусветнай паэтычнай і філасофскай культуры, будзе садзейнічаць адраджэнню паэзіі ў самым яе «звыклым» разуменні як мастацкага мыслення. Сягоння ж так патрэбна не сцёртае, абясцэненае, а па-мастацку пераўтворанае слова!

---

Галіна АЙЗЕНШТАТ

# ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ...

**Палемічныя нататкі**

Тэму, што хвалюе мяне, хачу вынесці менавіта на старонкі «ЛіМа». Па дзвюх прычынах. Па-першае, «ЛіМ» першы пачаў гаворку пра адраджэнне нацыянальнай культуры. Па-другое, газету чытае пераважна інтэлігенцыя, а з ёю, апошняй, і хочацца падзяліцца сваімі турботамі і трывогамі.

Думаю, супрацоўнікі «ЛіМа» азнаёміліся з лістом І. Чарняўскага і Я. Цумарава, старшыні і сакратара гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў Мінска, які яны даслалі ў рэдакцыі ўсіх часопісаў і газет. Прапановы, выказаныя ў ім, слушныя, іх заклапочанасць станам роднай мовы нельга не падзяляць. Але мне здаецца, што гэтыя і іншыя энтузіясты, імкнучыся вырашаць складаную праблему, робяць адну і даволі вялікую памылку. Папікаючы начальства за кансерватызм (што, безумоўна, мае пад сабой падставу), яны ніяк не хочуць заўважаць, прымаць да ўвагі другі бок справы, — *інерцыю і кансерватызм* даволі значнай часткі насельніцтва. Заплюшчваць на гэта вочы недаравальна. Бо кансерватызм начальства якраз абапіраецца на іх. Адно без аднаго не магло б існаваць. І невядома яшчэ, чый кансерватызм больш «страшны».

Апошнім часам мне даваўлося адчуць гэта на ўласнай скуры. Стаўшы аглядальнікам «Знамени юности» па гісторыка-літаратурных пытаннях, вырашыла, што надышоў час больш грунтоўна распачаць у рускамоўнай газеце размову пра нацыянальную гісторыю, мову і культуру. Калегі падтрымалі мяне. А чытач? На жаль, у большасці выпадкаў ён не прымае маю пазіцыю. А яна ў тым, што кожны, хто жыве ў рэспубліцы, павінен добра ведаць беларускую мову, літаратуру, гісторыю, незалежна ад таго, якой ён нацыянальнасці.

Ніякай Амерыкі я тут не адкрываю і нічога звышрэальнага не прапаноўваю, але, бог ты мой, колькі абуральных пісьмаў пасыпалася ў адказ! Адна *жанчына з Маладзечна* папракае мяне, што такім заклікам я «раз'ядноўваю» адзіны савецкі народ», а трэба аб'ядноўваць. Атрымліваецца так: не ведаеш мовы рэспублікі, у якой жывеш, — ты інтэрнацыяналіст, бо не «раз'ядноўваеш» народ, а *калі заклікаеш да яе вывучэння* — «раз'ядноўваеш». Ад такой «логікі» нават губляешся.

Ва ўсіх пісьмах, аўтары якіх выступаюць супраць «навязвання» беларускай мовы, аргументацыя адна і тая ж. Прывяду яе «ўзор», так бы мовіць.

«Почему Г. Айзенштат разжигает межнациональную

---

# «ПОСПЕХІ... ПОСПЕХІ...»

**Зборнік «Праграмы факультатыўных курсаў для сярэдніх агульнаадукацыйных школ», які нядаўна выйшаў у свет, адрасаваны настаўніку. Ва ўступе заяўлена «паглыбленае вывучэнне... навуковых праблем на ўзроўні сучасных патрабаванняў...». Вось давайце і прыглядзімся, наколькі вытрымліваецца такі ўзровень.**

Ёсць у зборніку факультатыў «Беларуская савецкая культура», разлічаны на вучняў IX—X класаў. Вядома, ён вельмі патрэбны для школы. Але гартаю яго праграму і лаўлю сябе на думцы, што невядомы складальнік застаўся абсалютна глухім да сённяшніх працэсаў дэмакратычнага аздараўлення грамадства.

Развіццё культуры паказваецца на старонках гэтай праграмы як суцэльны трыумфальны марш, які вёў да новых і новых поспехаў. Перыядызацыя скапіравана з гістарычнай літаратуры застойных гадоў. У праграме выдзяляюцца такія, напрыклад, раздзелы: «Развіццё беларускай савецкай культуры ў перыяд пабудовы эканамічнага фундаменту сацыялізму», г. зн. у 1926-32 гг., затым — «Поспехі культурнай рэвалюцыі ў БССР», якія прыпадаюць на 1933-37 гг. Пасляваенны перыяд называецца «Развіццё беларускай культуры ў гады аднаўлення народнай гаспадаркі і далейшага развіцця сацыялістычнага грамадства» і ахоплівае час з канца вайны да сярэдзіны 60-х гг. Нарэшце — «Беларуская савецкая культура ў перыяд удасканалення сацыялізму і паступовага пераходу да камунізму» (перыяд займае наступныя два дзесяцігоддзі).

Неяк няёмка сёння за гэтыя прэтэнцыёзныя загалоўкі-дэкларацыі, якія не адлюстроўваюць рэальнага становішча ні ў ідэйна-палітычным, ні ў культурным жыцці рэспублікі.

Да таго ж у праграме, па сутнасці, ігнаруюцца эстэтычныя ўласцівасці, духоўныя каштоўнасці мастацкай творчасці, гэтай важнай часткі культуры. На першым плане скрозь — ідэйна-тэматычныя асаблівасці, грамадска-палітычнае значэнне твораў. Але давайце пачытаем: «Сацыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі, паказ вобраза будаўніка сацыялізму — вядучая тэма ў бела-

Праграмы факультатыўных курсаў *для сярэдніх* агульнаадукацыйных школ. Мінск, «Народная асвета», 1988.

рознь среди населения Белоруссии своими навязчивыми статейками? По-моему, каждый волен выбирать себе язык, и если он русский, то почему из него хотят сделать Ивана-дурачка? Просветительную работу вести надо, но не такими топорными статейками, тов. Айзенштат! Айзенштат я отношу к противникам перестройки. После ее националистических статей националистически настроенные элементы пискливо выкрикивают: «Да, если не знаешь белорусский язык, то катись из Белоруссии!» И эти националистические элементы сейчас, благодаря подобным статейкам, поднимают свои головы... Я белорусский народ уважаю, ценю. Но что-то нехорошее появляется к этим тупоумным крикунам. Так и хочется крикнуть: «Опомнитесь!»

Я працытавала толькі частку пісьма, яно вялікае, але ў гэтым урыўку ўся яго квінтэсенцыя і каментарыяў не вымагае.

Мне могуць запярэчыць: маўляў, нічога няма дзіўнага, пісьмо напісана небеларускай. Але амаль тое ж пішуць і беларусы. Тры дзяўчыны з Полацка папярэдзілі мяне, каб я «не дурыла людзям галавы», «на якой мове жадаем, на той і будзем размаўляць, а падабаецца нам руская».

Дык вось, ці не памыляецца інтэлігенцыя, ці не выдае жаданае за сапраўднае, калі скардзіцца, сцвярджае, што ўся справа толькі ў чыноўніках высокага рангу?

Вось яшчэ некалькі сумных, прыкрых фактаў. Надрукавалі ў «Знамени юности», у трох нумарах, урыўкі з запісных кніжак У. Караткевіча з прадмовай Рыгора Барадуліна. Упершыню ў гісторыі рускамоўнай газеты надрукавалі «запіскі» на беларускай мове. Згадзіцеся, што адна справа — надрукаваць вершы, іншая — прозу. Лічу, што гэта свайго роду з'ява. Але чытач яе не заўважыў! Ніводнага водгуку не прыйшло, хаця Караткевіч — асоба ў беларускай літаратуры не толькі прыкметная, але, як мы ўвесь час сцвярджаем, папулярная. І вось на табе, ніводзін з больш чым сямісот тысяч чытачоў не адгукнуўся!

Затое калі ў адным артыкуле я выказала думку, што беларускую мову трэба вывучаць хаця б дзеля таго, каб у арыгінале чытаць Быкава, знайшліся чытачы, якія адразу папікнулі мяне ў *нацыяналізме*.

Знайшліся і такія, якія абурыліся нават тым, што газета надрукавала гутарку з Васілём Быкавым. Ветэран з Гомеля лічыць, што «на позиции Быкова в последнее время очень сильно повлиял экстремизм (?!) А. Адамовича. Удивляет позиция газеты, изложенная в послесловии, которая от имени всей читательской аудитории одобрила его деятельность и высказывания. Я, например, имею собственное мнение по ряду вопросов и не намерен кричать Быкову «ура». Ответ на вопрос о конфликте среди писателей не исчерпывающий. Нельзя все сводить к Сталину. Все глубже. Многие писатели, которых обвиняют в защите Сталина, уже неоднократно разъясняли свои позиции: и Чаковский, и Иванов, и Стаднюк, и Бондарев, и Распутин, и Проскурин, и Алексеев, и многие другие. Нужно быть тупым или даже неисправимым очернителем, чтобы не понять их позиции».

Некаму можа здацца, што я скіроўваю гутарку ў другі бок. На самай жа справе, і «антыбеларускія», і «антыбыкаўскія» пісьмы, як кажуць, аднаго поля ягады. Іх аб'ядноўвае агрэсіўнасць, непрымальнасць іншага погляду на рэчы, адсутнасць жадання паглядзець далей свайго носа. Не патрэбны нам ні беларуская мова, ні Быкаў, не перашкаджайце нам жыць спакойна і звыкла.

Не дзіўна, што ніводзін беларускі чытач не прыслаў водгуку і на антысталінскія вершы А. Звонака, надрукаваныя ў «Знамени юности». А вось чытач з Керчы (!) быў усхваляваны і папрасіў даслаць гутарку з паэтам, што была надрукавана ў канцы мінулага года, *бо тады ён яшчэ не выпісваў газету*.

Вось і атрымліваецца: «мечем икру», а толк які?

Ды і давайце паглядзім, хто яе «мечет». Зноў жа, яна, тая самая інтэлігенцыя, якую нейкі рабочы з афіцыйнай трыбуны *папікнуў кавалкам хлеба*.

Але кінем сумныя жарты і ўсё ж паспрабуем адказаць на пытанне сур'ёзна. «Шурудзяцца» больш за ўсё ў Мінску. Яно і зразумела, тон павінна задаваць сталіца. Да таго ж тут асноўныя нефармальныя аб'яднанні. Жыццё, здаецца, бурліць, вакол як быццам шмат аднадумцаў, паплечнікаў.

Ці не таму ствараецца ўражанне нейкай масавасці руху? Ці не таму здаецца, што трэба крыху мацней націснуць на чыноўнікаў — «и дело в шляпе»?

А *на месцах між тым*, у лепшым выпадку, — ціш ды гладзь, у горшым—наступальнае абурэнне «нацыяналістамі».

Мяне вельмі ўразіла пісьмо дзесяцікласніцы з Зэльвенскага раёна, якая скардзіцца на тое, што ў яе не стала сяброў таму, што яна... размаўляе на беларускай мове! «Яны мне паставілі такую ўмову: або будзеш размаўляць на рускай мове і сябраваць будзеш з намі, або будзеш размаўляць на беларускай мове і сяброўкай нашай не будзеш. Вось як. А вы пішаце «беларуская мова»... Вас я не абвінавачваю, але што смяюцца з мяне за тое, што я размаўляю на беларускай мове, — гэта факт. Кажуць на мяне «картопля» і... смяюцца...»

Сэрца сціскае ад гэтых радкоў. Вось ён, рэальны, на жаль, стан справы. Дык, выходзіць, ашукваем самі сябе?

У праграме, выкладзенай І. Чарняўскім і Я. Цумаравым, ёсць вельмі слушная думка: «...прыйсці да гэтай мадэлі за некалькі год нельга, але імкнуцца праз пераходны этап — справа гонару грамадства, якое лічыць, што жыве па ленінскіх запаветах». Яны спасылаюцца на практыку 20-х гадоў. Так, *вопыт* 20-х гадоў у справе беларусізацыі бясцэнны і яго трэба дэталёва вывучыць. Але не трэба забываць, што якасць грамадства ў рэспубліцы тады была іншая. І рабочыя, і інтэлігенцыя паходзілі ў асноўным з вёскі, яны добра ведалі родную мову. Пра сялян жа і казаць не прыходзіцца, мова ў іх вуснах была жывой, сакавітай, не тое, што цяперашняя трасянка. Але нават і пры такіх абставінах спатрэбілася гадоў шэсць, каб беларуская мова стала дзяржаўнай. Яна яшчэ не паспела замацавацца, як пачалося вынішчэнне «нацыяналістаў». Былі падсечаны карані, а без іх дрэву не расці...

Пасля Айчыннай вайны ў Беларусь прыехала шмат людзей з-за яе межаў. Яны дапамаглі ўзнаўленню разбуранай гаспадаркі, *але моўная* сітуацыя хвалявала іх мала.

Таму сёння ўзраджэнне нацыянальнай мовы і культуры пачалося ў больш складаных, чым у 20-я гады, абставінах. Скажам і больш шчыра: у **горшых** абставінах, бо, зноў жа, якасць насельніцтва сёння іншая.

Няма і таго ўзаемнага ўплыву культуры розных нацый, які быў да вайны, калі ў рэспубліцы працавалі школы, тэатры, выходзілі газеты, часопісы не толькі на беларускай і рускай мовах, але і на польскай, яўрэйскай. Нават словы «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» на гербе рэспублікі былі на чатырох мовах.

Шмат, шмат страчана! Як жа наганяць упушчанае? Прытрымліваюся думкі, што адзін з самых надзейных шляхоў — больш шырокае разгортванне культурна-асветніцкай дзейнасці. Кропля камень точыць — гэта сапраўды так. Трэба зрабіць пераварот у думках, мысленні людзей, інакш ніякія меры «зверху» не дапамогуць.

Таму прапанова аб стварэнні ў рэспубліцы масавага таварыства сяброў беларускай школы ўяўляецца слушнай, хоць, вядома, *гэта толькі частка вялікай праблемы*. Многае будзе залежыць ад таго, хто ўзначаліць яго, наколькі шырокія погляды будуць у кіраўніцтва таварыства.

На заканчэнне адна дэталь. Здаецца, выпадковая, але, калі *паразважаць*, дык і не, бо мяняемся мы, мяняюцца і адносіны да нас.

Дык вось, у рэдакцыю «Знамени юности» прыйшло пісьмо (мо яго, зноў жа, атрымаў і «ЛіМ», бо адрасавана яно рэдакцыям беларускіх газет і часопісаў) ад канадскага таварыства «Беларусь», якое прапануе «разам удзельнічаць у высакароднай справе прапаганды і развіцця беларускай культуры».

Вось і падумалася: а чаму б і не? Чаму б будучаму рэспубліканскаму таварыству не наладзіць з ім сувязь? Не праводзіць сумесныя мерапрыемствы? Беларусы з Канады пішуць: «Галоўнай актыўнасцю таварыства ёсць культурныя сувязі з Бацькаўшчынай, каб магчы прэзэнтаваць заходняму свету гістарычна-культурнае багацце нашай Радзімы». І далей: «Безумоўна, што праводжанне такіх мерапрыемстваў (маецца на ўвазе фестываль беларускага кінафільма. — **Г. А.**) ляжыць у інтарэсе Бацькаўшчыны. Гэты фактар узаемнай талерантнасці, зразумення й дружбы Радзімы не толькі з народамі Савецкага Саюза ці ўсходняй Еўропы, але з народамі ўсяго вонкавага свету. Гэты фактар у сусветным арганізме цывілізацыі».

Што ж, калі гэта так, то справа гэта пачэсная і карысная. Яна падымае аўтарытэт не толькі беларускай мовы, але і ў цэлым беларускай культуры на міжнародным узроўні. Трэба сапраўды шырэй паказваць сябе перад светам.

У сваю чаргу, гэта разбудзіць большую цікавасць да сваіх вытокаў у шырокіх колаў насельніцтва, выкліча большы гонар за сябе, за сваю Беларусь.

---

рускім сцэнічным мастацтве... Значны рост беларускага выяўленчага мастацтва ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Паспяховае авалоданне беларускі- жывапісцамі, графікамі, ·ульптарамі метадам мастацтва сацыялістычнага рэалізму... Станаўленне беларускага кінамастацтва. *Кінамастацтва—актыўны памочнік Камуністычнай партыі ў павышэнні культурна-палітычнага ўзроўню працоўных*». Гэта пра асаблівасці культурнага жыцця часоў «пабудовы эканамічнага фундаменту сацыялізму». Ну, а наконт таго, *што фундамент гэты быў ненадзейны*, што ўжо ваўсю працавалі канструктары сталінізму, якія дбалі найперш пра фундамент для адной асобы, што з канца 20-х гадоў пачынаецца кампанія цкавання і маральнага *знішчэння лепшых сіл* нацыянальнай інтэлігенцыі, — пра гэта ні слова.

Але звернемся да раздзела пра «поспехі культурнай рэвалюцыі», што адбыліся быццам бы ў 1933—1937 гг. Чытаем: «Уступленне СССР у перыяд завяршэння будаўніцтва сацыялізму... Далейшае ўзмацненне камуністычнага выхавання працоўных. Развіццё сацыялістычных норм жыцця». Відаць, скажоны, скалечаны, сталінскі сацыялізм — гэта нашыя сённяшнія домыслы. А вучні няхай лічаць, што гэта і быў эталон сацыялізму, няхай думаюць, што «развіццё сацыялістычных норм» *магло сумяшчацца* з мільёнамі рэпрэсіраваных. Далей у праграме гэты перыяд трактуецца як «рашаючы этап *у фарміраванні кадраў* нацыянальнай інтэлігенцыі». Па-мойму, тут ужо кашчунства. Бо дзе ж яны былі, тыя кадры? Адных ужо не стала ў жывых, іншыя пакутавалі за калючым дротам і гінулі ад здзекаў, знясілення, голаду. Няўжо можна ігнараваць такое *ў дапаможніку для школы*?

Далей у раздзеле ідуць фанфарныя фразы, нібы лозунгі на колішніх святочных транспарантах: «Перамога сацыялістычнага рэалізму ў мастацкай культуры... Згуртаванне творчай інтэлігенцыі вакол Камуністычнай партыі і ператварэнне яе ў актыўную сілу ў барацьбе за перамогу сацыялізму... Адлюстраванне ў беларускай *літаратуры* геранчных спраў будаўнікоў сацыялістычнага грамадства. Праслаўленне працоўнага гераізму рабочага класа... Уплыў рускіх савецкіх пісьменнікаў на беларускіх савецкіх пісьменнікаў і паэтаў». Ці не праўда, вельмі салідныя тэарэтычныя і метадычныя рэкамендацыі? Прымай толькі іх, настаўнік, і пакажаш своеасаблівасць культурнай сітуацыі 1933-37 гг.

А як жа становішча асобных відаў культуры? Праграмныя ўстаноўкі сведчаць: «Поспехі ў развіцці беларускага савецкага тэатра», «Поспехі ў развіцці беларускага музычнага мастацтва», «Поспехі ў развіцці выяўленчага мастацтва», «Дасягненні беларускай скульптуры», «Бурнае развіццё народнай творчасці» і г. д. Вось, шаноўны чытач. Суцэльны росквіт. І ніякіх страт не было.

Яшчэ працытуем ці то тэарэтычны, ці то метадычны тэзіс з наступнага раздзела — пра культуру перадваенных гадоў: «Узмацненне палітычнага выхавання працоўных на аснове марксізму-ленінізму — рашаючы сродак ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў свядомасці людзей...»

Мусіць, хопіць цытаваць. Чытач ужо здагадваецца, што прачытае ў гэтым зборніку і пра «збліжэнне сацыялістычных нацый нашай краіны», і пра «новую гістарычную супольнасць людзей». Карацей, знойдзе ўсе брэжнеўска-суслаўскія ісціны, якімі стараліся абгрунтаваць палітыку дэнацыяналізацыі *народаў*.

Пасляваенныя, другая палова 50-х і першая палова 60-х, застойныя 70-я гады не адрозніваюцца ў праграме нейкімі якаснымі зрухамі ў культурным жыцці, і тут над усім пануе схема няўхільнага руху па шляху поспехаў і дасягненняў.

Перад намі, такім чынам, — узор канцэпцыі, якая дэманстратыўна не прымае прынцыпаў новага, дэмакратычнага і гуманістычнага мыслення, хаця ў канцы праграмы і ўпамінаюцца XXVII з'езд КПСС, лютаўскі (1988 г.) Пленум ЦК КПСС.

Нідзе нават намёкам не сказана пра балючыя дэфармацыі нашай духоўнай і матэрыяльнай культуры ў 30—50-я гады, пра ахайванне культурнай спадчыны, знішчэнне пісьменнікаў, артыстаў, вучоных, педагогаў, пра разгром III Беларускага дзяржаўнага тэатра, зруйнаванне нацыянальнай гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, закрыццё часопіса «Наш край», скажэнне беларускага правапісу, палітычную вульгарызацыю і дэнацыяналізацыю духоўнага жыцця, дэмаралізацыю чалавека.

З другога боку, замоўчаны ў праграме дзяржаўны статус беларускай мовы, універсальная сфера яе рабочага ўжытку ў 20-я гады, выхад у свет 24-х выпускаў беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў па асноўных галінах навукі і культуры, вольнае развіццё на іншых мовах *літаратуры, друку, тэатра*, школ, што было вынікам ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Затое са здзіўленнем сустракаем тут ісціну з арсеналу ваяўнічай дэмагогіі Бэндэ і К°. Вось, напрыклад, абзац з раздзела пра культуру першай паловы 20-х гг.: «Развіццё беларускай савецкай літаратуры. Палітыка партыі ў галіне літаратуры. Барацьба з дробнабуржуазным нацыяналізмам за ідэйнасць і чысціню класавых пазіцый». «Пераход беларускага тэатра на шлях сацыялістычнага рэалізму. Пастанова ЦК КП(б)Б «Задачы ў галіне тэатральнай палітыкі» (1927). Барацьба з буржуазнымі нацыяналістамі».

Здавалася б, сёння рашуча адкінуты бязглуздыя абвінавачанні дзеячаў тагачаснай культуры ў «нацдэмаўшчыне», «нацыянал - фашызме», і барацьба са шпіёнамі, дыверсантамі і іншымі ворагамі народа на ніве культуры (ды і не толькі культуры) асуджана як прадукт сталінізму. Аднак *жа* замшэлыя догмы тае пары, як бачым, жывуць і часам вытыркаюцца ў салідных выданнях, што прэтэндуюць на навуковасць і педагагічную актуальнасць.

А возьмем сучасную літаратуру. Дарэмна мы будзем шукаць тут прозвішча В. Быкава. Гэтак жа, як і У. Караткевіча, Я. Брыля, А. Адамовіча. Сучаснай літаратуры ўвогуле ў праграме не пашанцавала: пра яе гаворыцца зусім агульна і скупа. А вось літаратура 1933—1937 гг. паказана вельмі канкрэтна, прыведзена тут шмат пісьменніцкіх імёнаў, названы нават цэлы шэраг твораў, якія *павінны засведчыць «поспехі* культурнай рэвалюцыі».

У зборніку змясціліся праграмы самых розных факультатываў. З іх варта вылучыць як удалыя і цікавыя (у гуманітарным цыкле) «Сучасная беларуская паэзія» і «Сучасная беларуская проза», складзеныя з улікам сучасных ідэйна-тэарэтычных і метадычных патрабаванняў. Шмат карыснага і павучальнага ў іншых факультатыўных курсах — «Вусная мова і выразнае чытанне», «Беларуская савецкая музыка», «Гісторыя мастацтваў Беларусі». Але яны ўжо за межамі гэтай гаворкі.

Праграма ж курса «Беларуская савецкая культура» выглядае анахранічнаю і не робіць гонару такому выданню, якое «адобрана калегіяй Міністэрства асветы БССР». Варта ўдакладніць, што зборнік падпісаны да друку 2.06.1988 г.

*Аляксей* ***ПЯТКЕВІЧ.***

г. Гродна.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## «ПОЛЫМЯ»— ПРА ГІСТОРЫЮ КРАЮ

**Апошнім часам вырасла цікавасць людзей да мінулага Беларусі. Выдавецтва «Полымя» адгукнулася на гэта павелічэннем выпуску даведачнай літаратуры. Першыя ж выданні — брашуры «Заслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей» і «Дом-музей А. Міцкевіча ў Навагрудку» — прынеслі вялікую чытацкую пошту. Прыязна сустрэлі чытачы і даведнік «Максім Багдановіч у Мінску».**

**Рэдакцыя літаратуры па турызме і краязнаўстве запланавала выпусціць шэраг кніг у серыі «Па родным краі». Першая з іх выйшла — «Музы Нясвіжа» К. Шышыгінай. «Повязь часоў» Г. Каханоўскага раскажа пра Маладзечаншчыну. Пра свой край — Наднёманне — расказаў У. Кісялёў у кніжцы «На вытоках нёманскіх». Аб старажытных беларускіх гарадах Слуцку і Крычаве чытачы даведаюцца з кніг М. Мельнікава «Ішоў край наш дарогай стагоддзяў» і А. Грыцкевіча «Старажытны горад на Случы».**

**У серыі плануецца выпуск кніг «Край Наддзвінскі» (Бешанковіцкі раён), «Зарніцы ў глыбінях азёр» (Глыбоччына). Даведнік па адным з цудоўнейшых куткоў Беларусі — Віліі і Нарачы — рыхтуе супрацоўнік Таварыства аховы помнікаў Беларусі Л. Трэпет.**

**У серыі «Гарады Беларусі» выйшлі ў свой час кнігі пра Гродна, Маладзечна, Бярозу, Барысаў. У гэтай серыі найбольшы чытацкі поспех мелі кнігі «Полацк — старажытны горад», «Пінск» і «Навагрудак».**

**Зараз выдавецтва «Полымя» распрацоўвае серыю «Помнікі беларускага дойлідства». Ужо выйшлі брашуры аб Полацкім Сафійскім саборы, Мірскім замку. Плануецца выпуск даведнікаў аб крэпасцях у Сынкавічах і Малым Мажэйкаве, Лідскім і Нясвіжскім замках.**

**Рыхтуецца да выдання кніга А. Атрушкевіча «Дарожкамі старога парку» — аб гісторыі стварэння Гомельскага парку і палаца. Думаем мы неўзабаве выпусціць кнігу, якая аб'яднае шэраг публікацый рэспубліканскага друку (у «ЛіМе», «Звяздзе», «Советской Белоруссии») па гісторыі Беларусі, забяспечыўшы іх выдавецкай прадмовай.**

**Рыхтуе да перавыдання сваю кнігу «Памяць аб легендах» наш даўні аўтар, пісьменнік К. Тарасаў. Першае выданне кнігі стала бібліяграфічнай рэдкасцю.**

**Аб старажытных гербах гарадоў Беларусі чытачы даведаюцца з кнігі Л. Цітова «Гарадская геральдыка Беларусі». Гэты ж аўтар падрыхтаваў нам насценны фотакаляндар на беларускай, рускай і нямецкай мовах «Дарогамі Францыска Скарыны» — да 500-годдзя з дня нараджэння першадрукара.**

**Будзем працягваць выпуск кніг нарысаў і эсэ пра Беларусь, як, напрыклад, кніга Я. Пархуты «Зямля бацькоў нашых». Прадоўжым і добра знаёмую чытачам міжвыдавецкую серыю «Нашы славутыя землякі».**

**Апошнім часам выдавецтва звяртае ўвагу на прапаганду беларускіх народных рамёстваў. Выйшлі кнігі «Народнае мастацтва і мастацкія промыслы Беларусі» і «Беларуская народная кераміка» М. Сахуты, «Вазьмі простую саломку» В. Лабачэўскай і Н. Кузняцовай. Рыхтуецца да выдання кніжка аб беларускіх арнаментах.**

**Л. ПЯТРОВІЧ,**
**ст. рэдактар выдавецтва «Полымя».**

## СПАБОРНІЧАЮЦЬ РЭДАКЦЫІ

**Падведзены вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшае асвятленне ў друку, на радыё і тэлебачанні III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці. Сакратарыят Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў і праўленне Саюза журналістаў БССР, згодна з адпаведнай прапановай журы, прызнала пераможцамі конкурсу калектывы газет «Чырвоная змена» і «Сельская газета» (кожная з абедзвюх рэдакцый адзначана прэміяй у 250 рублёў).**

**На думку журы, рэдакцыйныя калектывы іншых рэспубліканскіх газет, Дзяржтэлерадыё БССР і БЕЛТА не забяспечылі рэгулярнага і вартаснага асвятлення мерапрыемстваў фестывалю, надзённых праблем развіцця народнай творчасці. Таму астатнія чатыры прэміі, устаноўленыя арганізатарамі конкурсу, засталіся нявыкарыстанымі.**

**У палажэнні аб конкурсе зроблены змены, і цяпер для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены тры прэміі замест шасці (на тую ж суму): першая — 500 рублёў, другая — 400 і трэцяя — 300 рублёў.**

**Конкурс рэспубліканскіх рэдакцыйных калектываў на лепшае асвятленне III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці працягваецца. Вынікі яго чарговага этапу будуць падведзены на пачатку наступнага года.**

**НАШ КАР.**

**Ніна МАЕЎСКАЯ**

# МАСКОВАЧКА Ў ЧОРНАЙ КАСЫНЦЫ

*АПАВЯДАННЕ*



ЯШЧЭ мацаваўся люты. Люты — адзеты і абуты. Але, ідучы з хлебнай лаўкі, я адчула, як пацяжэла, — проста цісне на плечукі — футра, а ў спіну пячэ, нібы накіраваны на яе юпітэр. Нечакана пасля воблачных дзён, свет захліснула сонца, зыркае, вясёлае, гарачае, — назапасіла цяпла там, за хмарамі і шуснула невідочным патокам адразу яго на зямлю. Снегу было мала. Сонца ўраз спарола яго промнямі, прадзіравіла, і ён апаў, асеў, як асядае перастаялае дражджавое цеста, з такога цеста, мусіць, і спяклі той пляскаты скавароднік, які несла я ў поліэтыленавым мяшэчку, упрыгожаным рэкламай нейкага ці не заляжалага тавару: дзіцячых парасонаў ад сонца.

Снег паплыў ракою. На дарозе над цёмна-шэрым асфальтам, толькі прыгледзься, празрыста пакалыхваючыся, падымалася парнасць. Сонца сушыла зямлю. Хацелася ісці і ісці, спяліць пад лютаўскім зыркім сонцам радасць набліжэння вясны, надзею на новую пяшчоту і цяпло. Але спачатку справы: зайсці ў гастраном па масла і яечкі. Дзякаваць богу, куры нясуцца ў нас спраўна — круглы год, толькі перад Вялікаднем у антырэлігійных мэтах на тыдзень-другі, спыняюцца. Ага, трэба ўзяць яек і масла... Ох, гэтыя клопаты жаночыя: усё пра адно і тое ж, ходзіш з дня ў дзень па гэтым крузе.

Але перад гастраномам я спынілася — зноў вартуе яго гэты страшэнны шматгаловы, што пакутуе ад смагі. Цэрбер — чарга. Шчыльным строем цягнецца яна ў гарэлачны, дзверы якога побач з дзвярыма ў прадуктовы. Сёння чарга запаволеная, можа, ад сонца, выцягнулася, як яшчарка на цёплай купіне. І той, хто кіруецца ў прадуктовы, адсякае яе хвост, які імгненна зрастаецца. Не, не буду рассякаць чаргу — страшна, — абыду з канца. Гэта здалёку яна спакойная і рахманая, як яшчарка, а зблізу — суцэльная людская сцяна. І яны ўсе — хмурныя, злыя, сквапныя — стаяць моўчкі, толькі зрэдку наперадзе ўзнікае гоман і нараканне, калі збоку фарміруецца «група захопу», заднія толькі занепакоена цягнуць шыі: ці хопіць? Павінна... І зноў стаяць засяроджана, можа, лічаць пакінутыя тут чырвонцы; нахохлена, як хворыя куры, — хутчэй бы, сілы няма; спружыніста нацэленыя, як ганчакі.

Іду каля іх, абыходжу, сцяўшыся, нешта страшнае ў гэтым страі мужчын, што прыгнятае, халодзіць. І раптам зверху, як званочак, радасны і трывожны гук. Спынілася, задрала галаву. Хто ж гэта? Углядаюся, высока ў голле голай мокрай вішні. Вунь на самым версе — шэранькі, невялічкі гэты званочак. Непрыкметная някідкая птушачка... Ну, не бойся, спускайся ніжэй, дай на цябе зблізку зірнуць. І яна, бы падслухала думкі мае, аціхла, клопатна агледзела ўспацелую, адталую галіну вішні, мусіць, мяне, што стаяла, як разявака, з задранаю галавою, цёмную, густую панылую гурму чаргі і спусцілася, паціхеньку, нават не пырхнуўшы, ніжэй. Цяпер я разгледзела: галоўка і горлечка чорныя і сама яна не шэранькая, а хутчэй аліўкавая. І пазнала: чорная сінічка, масковачка, мілая масковачка...

А яна зноў падала голас, высокі, чысты: цфю-пі-ці, цфю-пі-ці, цфю-пі-ці...

І тыя, з маруднай панылай чаргі, паварочваюцца, пазіраюць на мяне: чаго стаіць, разява, галаву задрала. Цяжкія — над вачыма ў лобе, як камень, ачужалыя, адлучаныя ад свету, што нічога перад сабою, бывае, не бачаць, — позіркі пацягнуліся за маім. Ці трудна ім, нязвыкла пазіраць уверх, ці шэрая масковачка здаецца не вартай увагі, зноў яны спыняюцца на мне, праз туман абыякавасці, угадала я, праглянула мутным водсветам здзіўленне: на што тут пазіраць? І я відавочна сумелася, нібы гэтыя людзі заспелі мяне за нечым непрыстойным. Усміхнулася ім, міжволі, перадаючы сваё радаснае прадчуванне блізкай вясны, росквіту, абуджэння ўсяго жывога... Але ніхто не падзяліў, не падхапіў, не прымераў маю ўсмешку да сваіх сцятых вуснаў, не перакрывіў мяне. Наадварот; па імгненным пераглядванням адчула іх ціхую насцярожанасць, якая шчыльней змыкнула строй, маўляў, не падладжвайся, не думай, — паміж нас не станеш, не дазволім.

А масковачка правіла настойліва і громка сваё: цфю-пі-ці! цфю-пі-ці! цфю-пі-ці!

Але ніхто не чуў яе. Усе моўчкі пазіралі перад сабою: ці скора, ці скора? Толькі адзін, малады чарнявы, прыслухаўся, ускінуў галаву. І масковачка ўсхвалявана закрычала яму: цфю-піць! цфю-піць!.. Ён адкрыта ўразіўся, бы зразумеў яе клопат, але адставіў адну губу, надзьмуўся, маўляў: раблю, што хачу, хто ўказ мне?

І яна, ажно галасок зрываўся, крыкнула: пі-пі-цюй! — як абразіла, плюнула ў роспачы, сарвалася і паляцела вопрамеццю, на злом галавы, бы сама не ведаючы куды. Згледзела я здалёк, як міталася яна кругамі над вішняком, над людзьмі. над маўклівымі дамамі.

І я, забыўшыся абагнуць змяюку-чаргу, каб зайсці ў гастраном, так і пайшла, пацяглася дадому. І зноў, адчула, як цісне на плечы цяжкое футра і хлеб у мяшэчку нібы таксама пацяжэў, а ў вушах трывогай гучаў голас масковачкі, і бачылася мне не аліўкава-шэрая птушачка з чорнай. бы павязанай цёмнай касынкай, галоўкай, а жанчына са змучаным пастаянным душэўным болем, шэрым тварам, сумнымі вачыма і шчыльна падцятымі бяскроўнымі вуснамі. Ага, я яе бачыла... І нават чула, як дакарала яна мужа: «Ці ж гэтак піць, ці ж гэтак піць...», — хітала галавою, нібы здзіўлялася таму, што з ім адбываецца. А бывае, губляла ўсякае цярпенне — сварылася: «П'яніца, п'яніца, цьфу!» І тады, калі яго прывезлі, учарнелага, худога, з праламаным чэрапам, яна таксама не вытрымала і роспачна закрычала яму, як жывому: «Казала табе: ня пі, ня пі, ня пі!..» Забілася, загаласіла, прыгаворваючы.

Яго пахавалі. Яна неяк адразу схуднела, асунулася і часта сядзела, крышку прыгорбленая, у чорнай карункавай жалобнай касынцы, падобная на азяблую птушку, на лаўцы ля пад'езда свайго дома. Сядзела, склаўшы рукі, нібы парабіла ўсю работу. І я, ідучы адкуль-небудзь, з работы ці з магазіна, паставіўшы на лаўку сумку, прыпынялася каля яе, бывае, садзілася на хвілінку побач.

«Гэта я ва ўсім вінаватая, — гаварыла ў жальбе яна, — не дагледзела. Але ж і ён — не дзіця, — і апраўдвала сябе, угаворвала. — Не магла ж я ездзіць за ім і ў камандзіроўкі».

І праўда, яна хадзіла за ім, як за дзіцем. Бывала, падвячоркам прысядзе на лаўцы, а сама ўся калоціцца, вочы, бы шалёныя ці шкляныя, паробяцца і шукаюць, усё ў той бок, адкуль ён павінен ісці, як магнітам, іх цягне, на гадзіннік памінутна пазірае. Пара яму ісці, пара... Хвалюецца, відаць, сэрца гарыць, а людзям не гаворыць. Ды што тут было гаварыць, усе і так ведалі. Потым усміхнецца сумна сама сабе, думкам сваім і пойдз ў бок «Вераса». Там тады не кафэ было, а звычайная піўная. Мужчыны, падвыпіўшы, у прыцемку, як тараканы ці прусакі, кішэлі. Сабраўшыся кампаніямі, шумелі, гаварылі пра справы, а справы як сталі, так і стаялі, пакуль яны вялі гарачыя, ачышчальныя бяседы за куфлем піва, ганілі начальства і парадкі, каб сагнаць з душы накіп горычы, як здзьмухвалі з куфляў рудаватую пену, каб потым, на рабоце, зацяцца і маўчаць.

Яна туды хадзіла, як міліцыянер. Яе так і звалі яго сябрукі. «Вунь ідзе твой міліцыянер, пойдзеш пад канвоем», — гаварылі. Хадзіла яна тыя кампаніі разганяць, усё даказвала ім, што гэтак во штодня не можна, што піва разбівае нервовую сістэму, што гарэлка труціць і высушвае мазгі... Лепей усякага платнага работніка — лектара, урача, участковага — вяла антыалкагольную прапаганду.

«Ты не ўрач, а ўсяго толькі швачка, ды і то надомніца...» — гаварылі яны, іржалі, як коні. А ён надзімаўся, як індык, чырванеў: «Перастань, за цябе мне сорамна».

«Адкуль табе ведаць: разбівае сістэмы, сушыць мазгі...» — прыступаліся і яго сябрукі.

«Я на сабе гэта адчула», — адказвала яна, але яны толькі пасмейваліся, а ён злаваўся, лютаваў... Ішоў дадому звычайна паперадзе, а яна — ззаду, як канваір. Толькі гэта не канваір быў, а змучаны палонны, які нікуды не ўцячэ, таму канваір вольна крочыў паперадзе.

«Я і напраўду сама гэта зведала, — прызналася яна мне. — На першым часе, як ён у гэта піва ўцягнуўся, хадзіла за ім, дак думала: калі я паўкуфля ці куфаль вып'ю, — яму меней будзе, не сап'ецца, як брат ягоны не стане. З тым, страх і расказваць, што было, за вяроўку хапаўся... Вельмі ж я гэтага баялася. Так, можа, з паўгода за ім хадзіла. А ён і рады, добры і клапатлівы. З работы прыйдзе і першым дзелам за сумку, кажа: у магазін хадзем. Гэта сумку ён падняce, ну і ў «Верас», абавязкова піва гэтага глынуць. Мілая мая, потым, што са мною пачалося, ні з таго, ні з сяго, сама не ведаю, што са мною тварылася, выказаць нельга, нічога не баліць, здаецца, а свет няміль, у сэрцы — трывога, беспрычынная, жыць больш нельга, адно што — ці з балкона, ці на вяроўку. Пайшла я да доктара, не таілася, расказала, што і ад чаго: навыпісваў пілюляў гору і сказаў: у рот спіртнога ні грама. Так паціху адышла, а за яго яшчэ большы страх з'явіўся. Мілая мая, і было чаго баяцца... Апошнім часам ён ужо хмялеў ад ста грамаў... І кампаніі ніякай не гідзіўся. Вось тут,—паказала яна на дом насупраць,—дзве жанчыны валачашчыя жывуць. Можа, бачыла, як раніца — ідуць да піўной, не робяць нідзе. (Так, я прыкмячала іх цёмныя, бывае, як з перапаленай цэглы, твары). Дык аднойчы, — яна сарамліва ўсміхнулася, — расказваць брыдка, бачу: стаіць ён за вішнямі, выставіўшы сваю дуду, мочыцца, не зважае ні на кога, а адна з гэтых стаіць побач, чакае. Госпадзі, — яна хмыкнула, — мусіць, думала, што там яшчэ, апроч таго, што лілося, што-небудзь ёсць. Не-е, усё гарэлка высмактала... Даруй, — сказала яна, ціха і сарамліва, — што расказваю абы-што. Але, бывае, трэба некаму пажаліцца, каб з душы спала, не мучыла... Госпадзі, госпадзі,— узмалілася яна некаму безаблічнаму,— аб адным толькі прашу, пра адно непакоюся, каб сыны па ягоных слядах не пайшлі».

Адразу сумна стала, няўтульна: што ж гэта за свет такі, што маці баіцца, каб сыны не пайшлі па бацьку, не пайшлі па ягоных слядах. Адвеку вялося, што сын пераймаў, як спадчы-

ну, працягваў бацькаву справу. У гэтым і ёсць найвялікшы сэнс жыцця. Дзед — бацька — сын — унук — гэта і ёсць тыя прыступкі, па якіх падымаецца ўверх, набіраецца сілы і моцы, розуму і дабрыні, грамадства. Паруш гэтую лесвіцу, і з грукатам нізрынецца яно ўніз, і тым, хто будзе зноў ладзіць прыступкі, дасца гэта не лёгка. І вось яна баіцца, што сыны пойдуць па бацькавай дарозе, — значыць, мы будзем скора, можа, ужо стаім, на падгнілай прыступцы, вось-вось яна хрусне, і пачнём падаць, а можа, ляцім ужо... ляцім уніз, як замерзлая ў палёце птушка.

Што ж гэта за свет такі?!

Сыны яе,— адзін служыў у арміі, а другі таксама быў амаль ужо дарослы, калі можна называць дарослым у нас чалавека, які скончыў сярэднюю школу і чакае прызыву. Ён працаваў часова на заводзе. І вось яна, як раней мужа, чакае яго з работы. Усё пазірае і пазірае ў той бок, але без таго хвалявання, якое заўсёды было раней.

Здаецца, сядзіць спакойная, упэўненая: хлопец яе харошы. Хваліць яго, радуецца... І вось убачыла — ідзе, хістаецца, сцяжына ў два рады шырокіх дарожных пліт яму вузкая, і ён, бы хто раптам тузане ўбок, узбіваецца на абочыну, на траву. Вачам не паверыла: усхапілася, руку да лоба казырком прыставіла, каб сонца не засціла, пазнала, мусіць,— сапраўды ён. Села, рукі бездапаможна ўпалі на падол, потым усхапіліся, закрылі твар, вочы, каб не бачыць гэтага жаху. Потым адхапіла іх, зірнула на мяне вачыма вар'яткі, роспачна, страхотліва. А ён спатыкнуўся і, хапаючыся за паветра, падаў на газон.

Яна войкнула, не голасам, а збалелым глыбокім сваім нутром (я гэта адчула), падхапілася і пабегла яму насустрач...

Можа, я памылілася. Ці масковачка гэта? Чаго, каб хто спытаў, чорная сініца прыляцела ў горад? Яна ж жыве ў яловых лясах, альбо там, дзе хоць зрэдку растуць елкі, корміцца іх насеннем. А тут, у нас, адна была елачка, стаяла, падхапіўшы спадніčку, прыгажунька ля трамвайнага кальца. Ды і тую нехта ссек пад Новы год. Як шкода было яе, увесь вечар упоцемках тады я хадзіла па вуліцы, міжволі заглядала ў вокны, дзе ўжо рыхтаваліся да свята.

І вось зараз гэта масковачка. Як жа жыць ёй тут без елак? І чаму, з якой нагоды мне ўспомнілася тая жанчына? Якая сувязь між ёю і гэтай птушачкай? Можа, яна памерла,— пранізала жахлівая нават вар'яцкая думка. Гаварыла ж «Гэтага я не вынесу». Можа, яна памерла і душа яе гэтай маленькай птушачкай-масковачкай у чорнай хустачцы з яловых нетраў прылятае сюды па незразумелай, мусіць, і самой звычцы, прылятае да віннай лаўкі і спачатку лагодна ўгаворвае тых, хто стаіць пад прысадамі, чакае адкрыцця: цфю-пі-ці, цфю-пі-ці, цфю-пі-ці. Але ніхто не звяртае на яе ўвагі, хоць бы адзін адышоўся, і яна пачынае крычаць: ці-пі-ці! ці-пі-ці! ці-пі-ці! Калі ж гэта не дзейнічае, не даймае нікога, чуецца яе апошні роспачны крык: пі-ці-цюй!

Яна зрываецца з голля вішні і стрымгалоў імчыцца прэч — прасачыла яе шлях: некуды на высвечаны сонцам Севастопальскі парк, які аддзяляе, ці злучае, як тут сказаць, вуліцу Якуба Коласа з Зялёным Лугам. Там, далей за горадам і ёсць, мусіць, яе дом дзе-небудзь на бараўлянскай стромкай яліне. Ці спыніцца перадыхнуць, калі гэта сапраўды яе душа, на якімсьці маладым дрэве ў нашым мікраёне між першых шэраў дамоў.

Госпадзі, даруй мне думку пра смерць гэтай жанчыны, што ў галаву тлумам убілася, а ў сэрца — скрухай і трывогай! Калі ж яна жывая,— няхай бы так і было, —я ёй не магу нашкодзіць, бо нават імя яе ні разу не называла. Ці мала што здасца, бывае... Але выкінуць з галавы гэта стала немагчыма: і раз, і другі я чула, як сварыцца ля гарэлачнага масковачка, і зноў успаміналася яна, тая жанчына...

Сонца набірала сілу, і знаку не засталося ад зімы. Веснавы блакітны цёплы дождж вымачыў чыста зямлю, а вецер у меру падсушыў, і пайшла ў рост трава, раскінулі шатры зялёных крон дрэвы. Тут зранку правілі свае веснавыя канцэрты птушкі. І я лавіла і не чула сярод гэтага рознагалосся голасу масковачкі. І зноў лёгенька кранала сэрца трывога, ужо за яе, за маленькую шэра-аліўкавую птушку. Совесцілася за свае зімовыя домыслы. Што за глупства найшло. Вось пайду зараз цёплым сонечным надвячоркам, праз парк, міну вуліцу Славінскага, і сцежкай да дома, дзе некалі сама жыла... Яна там, сядзіць на лавачцы ля пад'езда — чакае з работы сына...

І пайшла. Праз парк, поўны птушынага гоману, праз ціхую ўтульную вуліцу — дарогу, што разразае яго на два акрайцы, дзе зрэдку адно праімчыць стралою тралейбус, прастуючы шлях. Як выраслі дрэвы ў двары. Нядаўна яшчэ дрэвы былі падлеткамі, як і нашы дзеці. Вось і яе пад'езд...

Разросшыся ў палісадніку, утульна агарнулі лаўку кусты. Хораша, цёпла тут сядзець. Але лаўка пустая... Значыць, яна яшчэ не выйшла, недзе ўходжваецца ў кватэры. Я прысела. Стала чакаць... Сядзела пэўна з гадзіну. Забягалі ў пад'езд і выбягалі дзеці, імкліва і павольна ішлі дадому мужчыны, жанчыны — усе з сумкамі, наўючаныя, абцяжараныя торбачкамі, пакункамі і мяшэчкамі. Тудысюды, з пад'езда — у пад'езд адно ляпаюць дзверы. І нікому ніякай справы, хто і чаго тут сядзіць. Многіх я ведала ў твар, ды і яны, мусіць, помнілі мяне. Бывае, каторы запаволіць крок, нібы ўспамінаючы, дзе бачыў (аптэкарка, можа, магазіншчыца... знаёмы як бы твар), нават разгубленасць прамільгне (ці вітацца?) і вусны варухнуцца і, спужаўшыся, замруць, як у нямым кіно.

Горад, горад... Ты робіш нас бязлікімі, безыменнымі ў сваім бясконцым вірлівым натоўпе. Цьмянымі адбіткамі ў глыбокіх люстэрках тваіх палацаў і магазінаў, ценямі і прывідамі цякучых вуліц і маўклівых плошчаў...

Не, усё-такі адна запынілася і сумкі паставіла на краёчак лаўкі, як некалі я.

— О, госпадзі, — сказала яна, стомлена і крыху ўсхвалявана, — здаецца мне ўжо здаюцца. Здалёку ўбачыла вас і падумала: Яніна сядзіць, знячэўку чуць сумку не ўпусціла.

Гэтае яе «знячэўку» перадалося бязлівай, трывожнай здагадкай і мне, але толькі вачамі, маўклівым пытаннем я ці не выказала яе.

— Бывала, ідзеш — яна сядзіць. І вы ж, ведаеце...

Я толькі памкнулася адказаць на яе ці то няпэўнае пытанне, ці пацверджанне. А яна:

— Я ж помню вас. Часта да яе падыходзілі... А дак вы не жывяце тут...

— Што ж з Янінай? — папытала трывожна, прадчуваючы бяду. (Цяпер толькі я назвала яе па імені).

Жанчына паціснула плячамі:

— Усякае гавораць, хто што... Відаць, у галаву вельмі ўзяла. Спачатку гэтак са старэйшым яе...

— Што?

— Прывезлі яго адтуль з Афганістана, у цынкавай скрынцы. Воттакенечкай... Не хлушу, а ён жа хлопец быў,— яна падняла руку ўгору.— Як не ў сабе зрабілася... глухая, нямая. Потым Павел (Пашка звала яна яго), дзякаваць богу, з арміі вярнуўся, працаваць стаў, харошы быў хлопец. А потым гэта яго, як атамная ўзарвалася, бралі на работы туды, адзін раз і другі.... Там, гавораць, ім піць дазвалялі, нават як бы гаварылі, што не захварэеш, як гарэлку ўжываць-меш. Дак яны, гаварыў, у масках усе, а як вып'юць, гэтыя маскі далоў. І вярнуўся ён нічога спярша і па той хваробе — там трошкі нібы надыхаўся нечага, але толькі сказалі ўрачы, каб дзяцей пакуль што, гады два-тры, не меў. Але другая бяда — гарэлка. Ён там у яе такі добра ўцягнуўся... А ведаеце, як яна да гэтага...

— І што ж з Янінай?

— Не ведаю, што-то было... Можа, вецер... Такі ж вецер быў усчаўся.

І я не чую. Я адчуваю. Я бачу, што дзеецца з Янінай. Як сядзіць яна, шые, шые гэтыя бясконцыя каляныя рукавіцы, зарубвае прасціны, насоўкі... І думае, думае, думкі віруюць і сэрца поўніцца гарачынёю, цесна яму, так хочацца з некім пагаварыць зараз жа, выліць боль, што апальвае грудзі... Зараз жа, неадкладна. (Так бывае і са мною, пішу, пішу ноччу, каб сказаць заўтра людзям пра тое, што баліць, сёння, зараз. А аказваецца, гэта можна зрабіць праз гады, усюды чарга, нават на слова, асабліва друкаванае. І гадамі пячэ сэрца гэты боль, перагарае, а з ім і нейкая часцінка майго сэрца адмірае, калі чую свае запозненыя словы, калі праз гады яны вяртаюцца да мяне глухім рэхам). Трэба цяпер, неадкладна. Яніна ідзе да людзей, шукае іх у стылых дварах, наскрозь пранізаных халоднымі скразнымі вятрамі, што носяцца пад шэрай, скаванай ужо маразамі зямлёй, цвёрдай і гулкай, як бубен. Яна чуе свае крокі, яны аддаюцца ззаду. І ёй здаецца — ідзе-такі нехта. Азіраецца. Не. Дзе ж людзі? З кім пагаварыць, каму расказаць... І тыя, што сустракаюцца, захінаюцца ад ветру, ад яе, настаўляюць каўняры, нацягваюць шапкі на вушы. І Пашка яе не разумее, даўно не разумее, адмахваецца, як яны. І тое, што яна яму гаворыць, як у сцяну, не даходзіць, не кранае. Ага, яна разумее, людзі пахаваліся, кожны ў сваю нару, пячору, шпакоўню, што ў каго... Яны не бачаць яе, не чуюць... Калі ж падняцца высока... стаць,— яна падымае ўверх галаву,— туды стаць? Каб вышэй, каб усе бачылі... Яе абступаюць адно пяціпавярховыя шэрыя ад восеньскай вільгаці дамы,— стаць на дах... і сказаць ім...

Вось яна ўзбіраецца на апошні паверх, праз люк выходзіць на чорны прасмолены дах. Цёмная і прамая, як статуя, як прывід на рваным экране шэрага неба стаіць і адно махае сцягнутай з галавы хусцінкай, кліча, зазывае людзей. Адзін, другі, трэці заўважыў... Мусіць, радасна ёй,— людзі, людзі ідуць... А яны, устрывожаныя, зацікаўленыя, сапраўды выходзяць на двор, вунь ужо велікаватая купка, яшчэ і яшчэ сцякаюцца: адны стаяць, галовы пазадзіралі, іншыя ж нешта мітусяцца. Пара, пара сказаць ім. Спачатку сама не чуе свайго голасу, бо густы, як пчаліны, гуд падымаецца хваляй з зямлі. І яна пачынае спачатку — і грамчэй: «Людзі... Людзі мае добрыя! Азірніцеся, прыгледзьцеся, як мы жывём... Сляпы вядзе сляпога... А мы сядзім за кратамі свайго страху і маўчым. Назіраем, чакаем. Няма сілы болей!»

Бачу ўскінутыя ў роспачы рукі, толькі вецер трэпле ражкі касынкі, вырывае яе з рук,— потым яна апускае іх, падыходзіць бліжэй да самага краёчку даху, нахіляецца:

«Не ў бога прашу літасці, у вас. Зірніце: яны забіваюць і труцяць нашых дзяцей! Не пабаюся сказаць і правіцелям: ганьба, калі гінуць прыгожыя і маладыя, тыя, каму жыць! Ганьба і вам, вам усім, людзі, калі вы дазваляеце!.. Прэч адсюль! Не хачу бачыць вас! — Потым яна, нібы адумоўваецца, збаялася, мусіць, што разыдуцца і зноў не будзе іх, крыкнула: «Людзі, трэба ўсё спачатку!..»

Якраз пад'язджала, толькі ціха, без прарэзлівых сігналаў чырвоная пажарная машына, разразаючы натоўп, вірыў міліцэйскі «жыгулёнак» з сіняй шышкай наверсе...

І тут узняўся той вецер, цёмны, густы вецер, бы вялізны, чорны птах, усхапіў яе пад крыло, і разам паляцелі яны да зямлі...

— Вось тут во, на мёрзлай, бяздушнай, як камень, зямлі і ляжала яна...

Я ачынаюся, пачуўшы жывы голас маёй субяседніцы, пазіраю туды, куды яна ўказвае, але бачу толькі невялічкую градку сярод кустоў пад вокнамі дома, на якой гарыць зыркім агнём календула.

— Усе мы, як анямелі. Ціха-ціха было хвіліны тры, ці, можа, чакалі, што яна ўстане, голас падасць, але раптам з кустоў выпырхнула птушачка...

— Якая птушачка? — маё пытанне гучыць недарэчна. Я разумею па яе насцярожаным, калі не падазроным, поглядзе.

— Маленькая, шэранькая, з чорным, ага з чорным, птушачка. Тады ўжо людзі сталі падыходзіць. Але... — яна змоўкла.

І тут жа заспяшалася, стала хапаць сумкі, патупала ў пад'езд, на хаду кінуўшы мне:

— Павел ідзе...

Вось ён набліжаецца дрогкай,— ногі, відно, як чужыя, — хадою. Смуры, губы сцятыя, вочы завостраныя.

— Павел, гавару я, — прысядзь... це.

Ён, крышку ашаломлены, пазірае шырока, бы яшчэ не дайшло, можа, правярае, ці да яго, але садзіцца. Ад яго салёна і рыбна нясе піўной, забягалаўкай, што зноў нядаўна адчынілі «па шматлікіх просьбах працоўных».

— Павел, я ведала т... вашу маму...

Як жа ён насцярожана і падазрона звужвае вочы.

І ў гэты час, ажно я схамянулася і сціхла, падняла галаву, над намі з голля ладнай рабіны, пачулася знаёмае. «Пі-ці, пі-ці-цюй, пі-ці, пі-ці-цюй!»

— Што вы ўсе лезеце, вучыце? — злосна сказаў ён. Зіркнуў і на дрэва. Замахнуўся, папусціў нечым, што было ў яго ў руцэ, туды, у крону рабіны.

...Я ішла, нібы з заплюшчанымі вачамі: ні дарогі, ні людзей не бачыла. Думала, думала, што ж хацела сказаць яшчэ Яніна. Спачатку... Спачатку... Што ж нам трэба спачатку? Можа, вучыцца жыць? Вучыць людзей разумець, што чорнае — гэта чорнае, а белае — белае, што дзіця трэба шкадаваць, жанчыну — любіць, мужчыну — паважаць... Многа, многа гэтых азоў, якія трэба спасцігаць нам спачатку, як упершыню, нанава...

## З паэтычнай пошты

### Яўген ХВАЛЕЙ



●

Век чалавечы —
сто гадоў...
Яго мая бабуля пражыла.
Век вех...
Век наламаных дроў...
Век урачыстасцей
і зла.

Век розны...
Размаіты век...
Але галоўнае не ў гэтым —
нясі назоў свой,
чалавек,
нат калі заўтра
заканчэнне свету...

## Перадапошняе пісьмо

**13 жніўня 1956 г.**

«...праз трыццаць гадоў пісьменніцкі пленум разглядаў пытанне: пісьмо, з якім Якуб Колас хадзіў у ЦК партыі ў дзень сваёй смерці... Пісьмо — пра становішча з роднай мовай...»

Янка Брыль

На стале песняра засталося недапісаным апошняе пісьмо перакладчыку Яўгену Мазалькову.

Гайдае жніўня лёгкі ветрык жыта,
вартуюць сосны знакаміты дом.
Апошні дзень...
Яшчэ ён не дажыты...
Схіляецца чало над аркушам, сталом.

«Што напісаць?
Ці праўдай гэта будзе?
Ці зразумееш, браце Мазалькоў?..»
Не промні жніўня —
злая сцюжа студзеня
залезла ў жылы і халодзіць кроў.

...На сосны глянуў, зачыніўшы брамку,
акінуў навуковы гарадок.
Кірунак ясны...
Як і неба зранку...
Жыве надзея...
Рызыкоўны крок...

Хоць у паветры не было задушша...
Спаў тры гады злавесны той мікроб,
што вытраўляў,
гнаіў людскія душы,
ссылаў туды, дзе гаспадарыў крот.

Ішоў, люляў, шаптаў, нібы замову,
радкі свайго балючага ліста.
У ім слязой нявыплаканай —
мова,
якой служыў,
якую страціць страх...

Яе адну хацеў аддаць нашчадкам,
як лёс Айчыны,
свой палынны лёс...
...Радкі ліста —
загадку часу —
душа таемна несла да нябёс...

## Пра бярозкі...

Панесліся пагалоскі:
— Закрываюць «Бярозкі»...
І вось ужо дама ў манто,
з тутэйшай душой
і аўто
крык узняла і лямант,
нібыта знікае мамант,
нібыта свету канец...
І чэргі, чэргі...
Стралец
гатоў заплаціць,
як магнат,
за мару мяшчанскую —
сертыфікат...

А недзе ціхутка ля вёскі
стаяць, як удовы,
бярозкі...
Як сведкі...
Ад іх ты дазнаешся, госць,
пра пасляваенную маладосць
сяльчан,
што цярпелі здзекі,
здаровыя і калекі...
І помняць яны «кукурузны»,
а потым — «чарнільны» час,
калі ўжо елі «ад пуза»,
пілі не бярозавы квас...
І пляскалі, пляскалі ў ладкі,
пяклі небыліцаў аладкі...
...Прад вамі і толькі прад вамі
сагну я калені,
бярозкі ля вёскі...

## Знік чалавек...

**Актава**

«Пад гэтым небам сінім і любімым
не верыцца чамусьці ў небыццё...»

М. СТРАЛЬЦОЎ

Знік чалавек, нібы прамень за хмарамі,—
Урэшце, ён і промнем быў:
Свяціў, гарэў, імкнуў за марамі,
А карацей, ён проста жыў.
Не страхаваўся —
«Браце, марна!»
Любіў лістоты ён матыў.
Знік чалавек... Трымціць па ім аер...
Як не хапае мне яго цяпер!

*Віншуем!*

# ДУШЫ ПРЫГОЖЫЯ ПАМКНЕННІ...



**Народнай артыстцы РСФСР Веры РЭДЛІХ—95**

Гаворачы пра дарагога сэрцу чалавека, менш за ўсё хочацца ісці па храналагічных прыступках. Цягне на нейкія абстрактныя, але кожнаму з нас да болю блізкія паняцці, такія, як дабрыня, здольнасць спачуваць, у рэшце рэшт, інтэлігентнасць...

Невыпадкова ўсё часцей мы сталі звяртацца — у перадачах, артыкулах, мастацкіх творах — да асоб духоўнага сану. Гэта не даніна модзе, а вынік шматгадовага вынішчэння ў чалавеку чалавечага—духоўнасці, душэўнасці. Як ні крыўдна, даводзіцца канстатаваць, што многія з нас і не супраціўляліся такому вынішчэнню. І рэдкія людзі захавалі ў сабе гэтыя «рэліктавыя» цяпер якасці. У сваім жыцці, прызнаюся, я ведаў няшмат людзей па-сапраўднаму духоўных і інтэлігентных, для якіх гэтыя паняцці заключаліся не толькі ў адукацыі, эрудыцыі, пасадзе... Няшмат. Але яны былі, ёсць. Адна з іх — Вера Паўлаўна Рэдліх.

Яна прыйшла ў наш тэатр з вялікім багажом ведаў і вопыту: вучылася ў К. С. Станіслаўскага, сябравала з А. Тарасавай, добра ведала М. Прудкіна... Але гэта ўсё прыватнасці. Каб вызначыць чалавечую і творчую сутнасць Веры Паўлаўны, трэба зразумець атмасферу, у якой яна фарміравалася як мастак, творца, асоба. 20-я гады. Уздым творчых здольнасцей, вялікія перамены ў культурным жыцці краіны, новыя імёны легендарных цяпер людзей, якія сталі ля вытокаў савецкага мастацтва, у тым ліку тэатральнага... І вось у гэты найцікавейшы час адбывалася станаўленне Рэдліх, спачатку як актрысы, потым — як рэжысёра.

Кожны чалавек міжволі нясе ў сваім характары пэўныя рысы свайго часу, эпохі. Не кожны перыяд, аднак, здолею ахарактарызаваць такімі адметнымі агульнымі рысамі. Але, на мой погляд, 20-я і... 60-я — менавіта такія. І хоць паміж імі таксама цэлая эпоха, Вера Паўлаўна — паўнапраўны прадстаўнік і аднаго, і другога. Часта ў мяне падсвядома ўзнікаюць паралелі: Рэдліх і 20-я — гэта яе прага ствараць, яе ўладнасць і ўпартасць у працы і ў той жа час — пільная ўвага да асобы і... душэўная ранімасць. Рэдліх і 60-я. Менавіта ў гэты час з'явілася яна ў Рускім тэатры БССР, прыйшла ўжо сталым рэжысёрам (узяць хаця б яе працу ў «Чырвоным факеле», які называлі «новасібірскім МХАТам»). Але па духу Вера Паўлаўна вельмі паходзіла на тых маладых людзей, якіх называюць цяпер «шасцідзесятнікамі». Падабенства выяўлялася ва ўсім — у яе энтузіязме, шчырасці, веры ў самае лепшае, што ёсць у чалавеку, у здольнасці гэта лепшае знайсці і развіць.

...Наша першая, так бы мовіць, дзелавая сустрэча адбылася ў час працы над спектаклем «12-я гадзіна» А. Арбузава. Ізноў 20-я гады. Перыяд нэпа. Мой герой Ромка Безянчук— даволі складаная натура, чалавек, улюбёны ў святую ідэю рэвалюцыі, які да адчаю не прымае нэпманаў. Разам з тым нішто чалавечае для яго не чужое: ён без надзеі закаханы ў дзяўчыну... Вера Паўлаўна пранікнёна адчувала канфлікт драматургічнага твора, супярэчнасці характараў, імкнулася стварыць дзейства, у якім усе гэтыя супярэчнасці і адметныя рысы эпохі праявіліся б выразна, эмацыянальна, недзе з болем, недзе з сумненнямі.

Ужо ў працэсе работы над спектаклем мы заўважылі (яшчэ не ведаўшы добра адметнасцей яе асобы), што Рэдліх прагна ўхоплівае кожны момант, які служыць менавіта раскрыццю чалавечых якасцей персанажа. Як пільна сачыла за намі Вера Паўлаўна ў такія моманты! І як шчыра — гучна, без комплексаў — смяялася, калі ёй падабалася, як акцёр увасабляе яе задуму...

Потым быў наш сумесны спектакль «Паварот ключа» чэшскага драматурга М. Кундзеры, потым — адна з маіх любімых работ — у «Антоніі і Клеапатры» У. Шэкспіра. А. Карсакоўскі і Ю. Сідараў у ролі Цэзара, А. Клімава—Клеапатра... Нам хацелася данесці са сцэны думкі пра тое, як людзі ў кругабегу паўсядзённых клопатаў — палітыка, войны — топчуць самае прыгожае пачуццё — каханне. Так вызначыла нашу задачу рэжысёр. Мой Антоній — чалавек і палкаводзец больш эмацыянальны, чым мудры, адсюль яго ўнутраныя супярэчнасці, памылкі і ўдачы.. Гісторыя кахання Антонія і Клеапатры ў вэрхале войнаў і палітычных інтрыг, здаецца мне, была блізкай Рэдліх па сутнасці: зноў і зноў яна імкнулася выявіць багацце чалавечай натуры, духоўную вышыню людзей, здольных на вялікае пачуццё...

Існуе нягласнае дзяленне рэжысуры (як і настаўніцтва, лекарства і г. д.) на звычайную (мужчынскую) і... дамскую. Дык вось, нягледзячы на мяккасць Веры Паўлаўны, яе цягу да задушэўнасці, яна ні ў якім разе не «дамскі» рэжысёр. У акцёраў даволі часта праяўляецца супярэчнасць: дай яму мала — не хоча, дай многа — не можа. Вера Паўлаўна, непрымірымая і жорсткая ў гэтых адносінах, заўсёды бачыць, на што здольны акцёр, імкнецца выцягнуць з яго ўсё да апошняга. Калі ж не — прабач...

Амаль адразу па прыходзе ў тэатр Рэдліх стварыла вакол сябе нейкую дзіўную аўру, у якой хацелася і гаварыць цішэй, і ўсміхацца адзін аднаму. Яна часам здзіўляла, часам раздражняла: ёй гаварылі, што яе пропаведзі пра дабро чалавечае — пустыя словы, што з адным дабром нічога не дасягнеш, яно ўвогуле павінна быць з кулакамі. Але яна стаяла на сваім. І да яе цягнуліся людзі. Быццам само сабой склалася так, што вечарамі мы сталі збірацца дома ў Веры Паўлаўны. Такія сустрэчы за гасцінным сталом гасцінных гаспадароў надараюцца і цяпер (не так часта, праўда, як хацелася б). Гэта былі «вечарынкі», падобныя на тыя «творчыя зборышчы» 20-х, пра якія цяпер можна толькі прачытаць, паглядзець у фільме. Мы чыталі вершы і прозу, спрачаліся наконт таго, што адбываецца ў свеце, знаёміліся... з Левітанам, Пікаса: увявіце сабе — у Рэдліх не толькі былі арыгіналы работ вялікіх мастакоў, яна магла з зайздросным майстэрствам расказаць аб іх многае...

За час сумеснай працы можна было зразумець і «вывучыць» манеру яе работы з акцёрамі, ды і сутнасць яе творчай дзейнасці ўвогуле. Таму ні для мяне, ні для маіх калег не было нечаканасцю рашэнне Веры Паўлаўны выкладаць у тэатральна-мастацкім інстытуце: яна — прыроджаны рэжысёр-педагог, які фарміруе характары.

Аднак Рэдліх прабыла ў нашым калектыве толькі пяць гадоў: па пэўных прычынах яна пакінула тэатр і прысвяціла сябе цалкам выкладчыцкай дзейнасці. А за такі кароткі тэрмін ёй цяжка было духоўна сфарміраваць, згуртаваць наш супярэчлівы ў многіх адносінах калектыў. Ёй бы гэта ўдалося...

Але і цяпер — праз трыццаць з лішнім гадоў пасля работы ў нашым тэатры — Вера Паўлаўна не забывае нас, як і мы яе. Прыемна, што гэты чалавек да сённяшняга дня захаваў у сабе «душы прыгожыя памкненні». І вельмі хочацца, каб нашы з ёй сустрэчы яшчэ доўга былі традыцыйнымі, бо кожная з іх — сапраўдная аддушына ў наш час безаглядняга бегу міма адзін аднаго.

**Расціслаў ЯНКОЎСКІ, народны артыст СССР.**

**Артыкулам галоўнага рэдактара ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры БССР В. Валадзько мы працягваем размову пра надзённыя праблемы музычнай сцэны рэспублікі, прынамсі, пра самабытнае рэпертуарнае абліччa нашага тэатра оперы і балета. Нагадаем, што гаворка пра гэтыя праблемы ішла ў публікацыях «ЛіМа» за мінулы год (гл. нумары за 12.02., 16.09., 28.10.88 г.).**

# ПРАВЫ, АБАВЯЗКІ І...

**Колькі слоў пра ўзаемадачыненні кампазітараў з музычным тэатрам**

СЁННЯ сярод работнікаў культуры і мастацтва рэспублікі, пэўна, мала можна знайсці такіх людзей, якія калі не публічна, то хоць бы для сябе не вызначылі б уласнага стаўлення да праблем адраджэння нашай нацыянальнай культуры. Калі гэтага з кімсьці пакуль не адбылося, дык не сёння — заўтра жыццё прымусіць кожнага з нас даць на гэта свой адказ.

Адной з надзённых была і застаецца для нас праблема: музычны тэатр і нацыянальны рэпертуар. Мала таго, яна набывае зараз усё большую вастрыню. І таму некаторыя грані гэтай праблемы мне хацелася б тут закрануць.

Мяркую, што любы твор музыкі або драматургіі, любога аўтара, пра любы народ, калі гэта твор увасоблены на сцэне беларускага тэатра, — ёсць **з'ява беларускай культуры.** Гэта, здаецца, бясспрэчная ісціна, але, думаю, не лішне будзе пра яе час ад часу згадваць. Дык вось, калі на музычнай сцэне Мінска ідзе, скажам, балет Я. Глебава «Ціль Уленшпігель» або музычная камедыя «Дзяніс Давыдаў» А. Мдзівані, — гэта самае што ні ёсць з'ява беларускай культуры. Тым больш, аўтары — нашы беларускія кампазітары. Шкада толькі, што, да прыкладу, «Дзяніс Давыдаў» **як з'ява беларускай культуры** гучыць у Мінску на рускай мове. Бо адразу ж на думку прыходзіць яшчэ адна бясспрэчная ісціна: у нацыянальнай культуры мова — першааснова ўсяго. І ўзнікае заканамернае пытанне...

Як адказаць на яго гледачам? Вытлумачэнне, што твор увасоблены на рускай мове таму, што яго заказчыкам было Міністэрства культуры РСФСР, гледачоў наўрад ці задаволіць. Можа ўзнікнуць новае пытанне: чаму, маўляў, калі за работу над тым творам узяліся ўжо мінскія артысты, наша, беларускае міністэрства дапусціла недагляд наконт мовы спектакля?

Так, Мінкульт БССР недагледзеў. Ну, а што ж самі творцы? Для іх, значыць, усё роўна, што, дзе, як і на якой мове —толькі б іхняе тварэнне пастаўлена было? Мінкульт жа існуе не для таго, каб пастаянна ўказваць тэатру і творцам, «як трэба рабіць мастацтва».

Яшчэ адно пытанне: тэма! Хто ж будзе аспрэчваць, што выбар яе — святое права аўтара? Гэта — аксіёма. Думаю, можна і трэба беларускім аўтарам шукаць натхнення ў творчасці А. Сент-Экзюпеpы, Б. Брэхта ці, скажам, М. Булгакава. Слушна гаварыў пра гэта ў «ЛіМе» і Я. Глебаў (28 кастрычніка 1988 г.). Так, вось і П. Чайкоўскі напісаў «Італьянскае капрычыо» і многае іншае, не забыўшыся, праўда, звярнуцца да «Яўгенія Анегіна», «Пікавай дамы»...

Словам, выбар тэмы — гэта права аўтара. Ды, відаць, апроч правоў, ёсць яшчэ і абавязкі творцы перад грамадствам, перад народам, да якога ён належыць, сярод якога жыве і працуе. Гэтыя абавязкі аднолькава датычаць і маладых, і карыфеяў, адзначаных, акрамя ўсяго, яшчэ і ганаровым званнем «народны»!

Перад намі зараз усё больш раскрываецца прыхаваны ў колішнія часы лёс беларускага народа — ад гісторыі, скажам,

# Ад якой печкі танцаваць?

**З «круглага стала» па праблемах захавання і развіцця народнай харэаграфіі**

ЧАТЫРЫ ДНІ спецыялісты з розных рэспублік нашай краіны знаёміліся з народнай беларускай харэаграфіяй, вывучалі дзейнасць галіновай навукова-даследчай лабараторыі беларускай танцавальнай творчасці, якая існуе пры Мінскім інстытуце культуры. Лабараторыя гэта цікавая тым, што ў яе фондах захоўваюцца фальклорныя кіна-, відэа- і фотаматэрыялы, сабраныя ў розных кутках Беларусі. Вучоныя, якія ўдзельнічалі ў рабоце ўсесаюзнай творчай майстэрні «Захаванне і развіццё беларускай народнай харэаграфіі», убачылі выступленні харэаграфічных калектываў рэспублікі, работы студэнтаў харэаграфічнага аддзялення Мінскага інстытута культуры, дзіцячых ансамбляў гарадской школы мастацтваў «Унучыкі» і Палаца культуры чыгуначнікаў «Праўнукі». Так што ўражанняў у харэографаў хапала, і тыя, хто прыйшоў у рэспубліканскі Дом кіно на пасяджэнне «круглага стала», памойму, не пашкадавалі. Няхай абмеркаванне, якое адбылося тут, і не спраўдзіла ўсіх нашых надзей, бо не адказала на многія важныя пытанні (пра гэта скажам далей), але яно бясспрэчна вылучалася атмасферай нераўнадушша да лёсу народнай харэаграфіі.

ШТО Ў НАС адбываецца з народнай харэаграфіяй? Які ў нас фальклор? Аўтэнтычны? Стылізаваны? А калі завастрыць пытанне яшчэ больш: ці патрэбна наогул нам народная харэаграфія?

«Яўна правакацыйнае пытанне, — адкажа нехта. — Вядома, выснова тут адна: народныя традыцыі мы зберагаем з усіх сіл».

«Такі стэрэатыпны адказ мы чуем некалькі дзесяцігоддзяў, — не пагодзіцца кампетэнтны апанент-фалькларыст. — Чаму ж тады катастрафічная сітуацыя склалася ў народнай харэаграфіі? Шануем фальклор? Чаму ж не створана таварыства харэографаў, пра якое гаворым гадамі?»

**Балетмайстар Белдзяржфілармоніі М. Дудчанка, напрыклад, зазначыў, што ў Францыі існуе Парыжская акадэмія танцаў, а што падобнае маем мы? Як ні дзіўна, але нікому не баліць галава за тое, што ў СССР пражывае больш як сто нацый і народнасцей, і культуры малых этнічных груп нівеліруюцца. Знікаюць або апынуліся на мяжы знікнення тыя народныя танцавальныя скарбы, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Мы не шануем свае кадры: артыст ансамбля танца атрымоўвае прыкладна 140 рублёў у месяц, пасля 20 год работы ён пакідае сцэну, і тут нікога не хвалюе, што ён і дзе робіць, ці перадае свой вопыт работы маладому пакаленню.**

**Крыўдна пра гэта гаварыць, але так павялося, што ў працэсе развіцця нашай культуры назбіраліся дзесяткі, сотні праблем, пра якія мы ведаем, рэгулярна гаворым пра іх на розных узроўнях, але практычна нічога ад гэтага не мяняецца. Між тым, праблем з гадамі ўсё большае.**

Нельга назваць адносіны да народнай творчасці па дзяржаўнаму мудрымі, гаварыў, напрыклад, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца Марыйскай АССР М. Мурашка, калі за 70 гадоў народная харэаграфія страціла народныя рысы, у выніку утылітарнага падыходу яна стала уніфікаванай і не цікавай. Адсутнічае прадуманая і цэласная сістэма харэаграфічнага выхавання і навучання. Для танцавальных калектываў усёй Расіі харэографаў рыхтуюць... у адным Варонежскім вучылішчы. У выніку сёння шмат вядомых танцавальных калектываў Расіі засталіся без харэографаў.

На думку мастацкага кіраўніка дзіцячага харэаграфічнага калектыву «Мульцік» з Мінска Б. Асмалоўскага, гэты жанр мастацтва знаходзіцца на задворках. Усе быццам галасуюць за народную харэаграфію, але школам дзіцячыя харэаграфічныя ансамблі не трэба, органам культуры такія калектывы неабходны толькі для таго, каб паказваць іх са сцэны ў час розных святочных канцэртаў, пасля чаго на калектывы забываюць.

Народны фальклор знікае на вачах, і святы доўг калектываў, якія паклалі ў аснову свайго рэпертуару аўтэнтычны фальклор, захаваць хоць тое, што дайшло да нас. Трэба прызнаць, адзначалася на сустрэчы, што і той фальклор, які застаўся ў запісах, далёка не чысты, яго прычэсвалі пры запісу як хто мог.

**Мы часта любім паўтараць, што фальклор — гэта душа народа. Калі няма фальклору, калі душа чалавечая нівеліруецца, а родная мова, якая страціла практычнае прымяненне, разам з фальклорам выкарыстоўваецца ў народзе толькі для аздаблення, то гэта ўжо трагедыя для любога народа. Практычна ўсе пасляваенныя дзесяцігоддзі Беларусь спяшалася пераканаць народы свету ў жыццёвасці вульгарна-дагматычнай тэорыі аб зліцці нацыянальных моў і культур, мы здзіўлялі сваімі статыстычнымі дадзенымі па тэмпах росту вытворчасці іншыя рэспублікі, і ў бегатні за рэкstriкорднымі лічбамі мы гублялі ўсё роднае. Ішоў час, і ў мітуслівай пагоні за**

Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку да праблем выжывання нацыі пасля чарнобыльскага выбуху, небяспекі страты сваёй мовы. Хто будзе пісаць пра гэта п'есы, оперы, балеты, якія б раскрывалі перад намі багацце нашай спадчыны, выхоўвалі патрыятызм, будзілі нацыянальную свядомасць народа ў складаны час яго жыцця?

Вось тут узнікае пытанне ўжо не проста адметнага рэпертуару беларускага тэатра, а пытанне **нацыянальнай тэмы ў творчасці.** З такіх твораў нацыянальнай тэмы, вырашанай сродкамі мастацкай выразнасці, уласцівымі беларусам, складваецца паняцце нацыянальнага рэпертуару. **Нацыянальнага рэпертуару,** якога нам так бракуе ва ўсіх тэатрах і канцэртных калектывах.

Відаць, слушна паставіў пытанне Я. Глебаў у тым жа сваім лімаўскім артыкуле пра неабходнасць правядзення конкурсаў на стварэнне лібрэта. Калі кампазітары лічаць патрэбным, такі конкурс будзе абвешчаны. Але гэта, на мой погляд, толькі першы крок да вырашэння праблемы. Стварыць оперу, выбраўшы з набору нарыхтовак лібрэта, — гэта яшчэ палова справы. Плёну можна чакаць толькі пры паглыбленай супольнай працы кампазітара і лібрэтыста, аб'яднаных адзінай мастацкай ідэяй.

Далей. Оперы і балеты, напісаныя ў цішы кабінетаў, не зажывуць на сцэне, калі не будзе наладжана цесная папярэдняя праца аўтараў непасрэдна з тэатрам, з яго практыкамі. Будзем спадзявацца, што нашым кампазітарам сёння пашанцуе, і заяўкі, зробленыя імі нядаўна, будуць падтрыманы тэатрам. Гэта балет «Казкі маёй бабулі» У. Прохарава на лібрэта Н. Тулупавай, опера «Таямніцы старога замка» У. Кандрусевіча на лібрэта М. Кандрусевіч, опера «Князь Навагрудскі» А. Бандарэнкі на лібрэта В. Іпатавай.

Менавіта гэтак, з улікам пажаданняў тэатра, ствараліся амаль усе ранейшыя спектаклі ДАВТа БССР на музыку беларускіх кампазітараў: і «Джардана Бруна» С. Картэса, і «Новая зямля» Ю. Семянякі, і «Курган» Я. Глебава, і «Сівая легенда» Д. Смольскага, і «Сцяжынаю жыцця» Г. Вагнера, і «Крылы памяці» У. Кандрусевіча.

Сёння тэатр называе прычыны — ці то тэхнічныя, ці то творчыя, — паводле якіх большасць з пералічаных спектакляў знята з афішы. Безумоўна, тэатр мае на гэта права. Але чаму замест спектакляў, якія сышлі, сцэну тэатра ўжо даўно не папаўняюць новыя творы беларускіх аўтараў? Сёння мы гаворым, што ў цеснай садружнасці з тэатрам малады кампазітар У. Солтан стварыў оперу «Дзікае паляванне караля Стаха», разам з кампазітарам А. Мдзівані над балетам «Рагнеда» працуе балетмайстар В. Елізар'еў. Усё так. Ды толькі гэта адзінкавыя парасткі ўзаемазацікаўленасці аўтараў і тэатра. Што перашкаджае такім парасткам вырасці ва ўстойлівае, магутнае, пладавітае дрэва супольнай творчасці?

Прычын тут, відаць, мноства. Хацеў бы звярнуць увагу на тыя, што сёння найбольш засмучаюць.

Нашы творцы шмат і ў катэгарычнай форме гавораць пра абавязкі тэатра перад кампазітарамі (маўляў, мы — беларускія кампазітары, а вы — беларускі тэатр, таму павінны нас ставіць! У парадку «жывой чаргі»...) І чамусьці ніколі яны не ўсчынаюць, можна сказаць, пазбягаюць гаворкі пра **якасць** далёка не бездакорных сваіх твораў, што прапануюць сцэне. Нельга забывацца, што тэатр таксама мае права, і нават абавязаны, адмаўляцца ад пастаноўкі твораў, калі іх эстэтычныя, мастацкія якасці не адпавядаюць у поўнай меры крытэрыям сённяшняга дня.

І яшчэ адзін аспект гэтай праблемы. Я разумею і падтрымліваю пазіцыю тэатра, калі ён патрабуе ад твора, прапанаванага кампазітарам, узроўню сусветных стандартаў. Так, твор любога аўтара трэба разглядаць па высокіх крытэрыях, не дапускаць паблажлівасці дзеля «патрэбнай» тэмы: маўляў, няхай будзе ў нас і такое, хоць несамавітае, ды сваё. Гэткая дагодлівасць перад тэмай, паблажлівасць толькі шкодзяць, дыскрэдытуюць мастацтва. Але, падкрэслю, самі па сабе вартасныя, высокага ўзроўню творы не з'явяцца. Вось чаму нельга ўхваліць і падтрымаць пазіцыю тэатра, калі ён толькі **патрабуе ад кампазітараў,** чакаючы, калі ж з'явіцца ў нас гэты аўтар сусветнага ўзроўню. У стварэнні нацыянальнага рэпертуару неабходна цесная сувязь, супольная праца тэатра з кампазітарамі, і гэта не раз з усёй відавочнасцю пацвердзіла практыка мінулых гадоў.

Дык ці не час у імя высокай ідэі адраджэння нацыянальнай культуры кіраўнікам тэатра, практыкам сцэны і творцам ад узаемных прэтэнзій перайсці да канкрэтных спраў і больш патрабавальна ставіцца не толькі да сваіх партнёраў, але і да сябе.

**В. ВАЛАДЗЬКО,**
**галоўны рэдактар упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры БССР.**

**новымі звышдасягненнямі ўжо не заўважалі, як памірае ў нас духоўны пачатак.**

**Пра значэнне духоўнага пачатку для народа, пра значэнне славянскага фальклору як эстэтычнага ўзвышэння народнага жыцця, паэтызацыю народнай творчасці гаварыла заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Чыжова. Фальклор у нашай краіне развіваўся няроўна, гаварыла яна, некаторыя «мысліцелі» ніяк не маглі зразумець месца гэтай «простанароднай архаікі» ў працэсе будаўніцтва новага жыцця, ён быў прыроўнены да рэлігійных забабонаў і яго сілай заканадаўчых актаў выкарчоўвалі з жыцця. Часам здаецца, што па адмысловым уменні перахрышчваць многія народныя абрады некаторыя нашы функцыянеры і заканадаўцы разам з псеўданавукоўцамі імпэтна перакрылі ўсіх папярэднікаў. Рэлігійныя фанатыкі, стагоддзямі змагаючыся з народнымі абрадамі, хітра перакруцілі іх на свой лад, а мы ўзялі і за некалькі дзесяцігоддзяў перахрысцілі народныя святы ў пустыя забабоны.**

Неяк часопіс «Крокодил» расказаў, што адзін аўтар пісаў кандыдацкую дысертацыю пра тое, як рэзка павялічыць надоі малака ад каровы, не выязджаючы ў гаспадаркі і паняцця не маючы пра жывёлагадоўчую ферму. Сёння нямала такіх «знаўцаў» працуе ў фальклоры. Ветэран беларускай народнай харэаграфіі Л. Алексютовіч прывяла прыклад, калі студэнты Мінскага інстытута культуры аб'яўляюць народны танец, быццам прывезены з нейкай экспедыцыі і па-свойму названы, а выконваюць усім вядомы «Кракавяк», толькі са сваёй «творчай» імправізацыяй. У Беларусі больш за 100 народных танцаў, але іх мала хто выконвае, студэнты інстытута культуры не ведаюць элементарных народных танцаў.

**Пра глыбокі адрыў тэорыі ад практыкі, слабыя кантакты вучоных з народнымі балетмайстрамі гаварыла на пасяджэнні «круглага стала» мастацкі кіраўнік народнага ансамбля танца «Праліца» Палаца культуры «Юнацтва» з Гродна Н. Залеўская. Толькі цяпер мы загаварылі пра тое, што народнае мастацтва траціць сваю аснову, што мы ўсё далей адыходзім ад народнага грунту, і ўжо не рэдкія выпадкі, калі замест сапраўды фальклорных твораў мы паказваем са сцэны імправізаваны варыянт нечага «пад народнае», іншымі словамі — сурагат. Глядзіш на такія танцулькі і думаеш: фальклор гэта ці модны рок-н-рол? Сёння існуе непаразуменне ў адносінах паміж практыкамі і тэарэтыкамі фальклорных відаў мастацтва. Апошнія, на думку прамоўцы, звысоку адносяцца да практыкаў. Парушаюцца аўтарскія правы тых, хто зберагае народнае мастацтва ў глыбінцы. Шукальнікі фальклору мала звяртаюць увагі на парады і падказкі мясцовых фальклары стаў, і ў выніку ў іх запісах народная творчасць стылізуецца так, што яе ніхто не пазнае.**

**Н. Залеўская з вялікім болем гаварыла пра гэта — пра крыўды людзей, якія жывуць у глыбінцы і па крупінцы запісваюць народныя творы, каб захаваць іх такімі, якімі яны існавалі ў народзе. Рэдкія наскокі ў правінцыю людзей з «цэнтра», фалькларыстаў са сталіцы, адзначала яна, зусім не бяскрыўдныя для тых, хто пастаянна працуе ў той самай правінцыі. Для прыезджых галоўнае — запісаць як мага больш твораў, каб можна было перад начальствам адчытацца, каб яно не папракнула іх у неэфектыўнасці камандзіроўкі. Вось і выходзіць, што адны стараюцца захаваць і не страціць душу народа, другія — стварыць бачнасць той самай работы.**

**Любая нівеліроўка нацыянальнай культуры прыводзіць да непажаданых вынікаў. З замілаваннем мы прыводзім факт, што ў СССР адкрылася выстаўка, якая знаёміць з жыццём айнаў, народа, што знаходзіцца ў Японіі на мяжы поўнай асіміляцыі. Разам з тым ні для кога не з'яўляецца сакрэтам, што ў нас таксама неўпрыкмет, але паступова асіміляваліся цэлыя этнічныя групы насельніцтва. Гэтым самым збядняецца ўся наша савецкая культура, страчвае багацейшы пласт малых этнічных культур. Катастрафічна дорага абышлася нам псеўданавуковая канцэпцыя растварэння нацый і нараджэння агульнай звышквітнеючай культуры. Прыпамінаю гэта таму, што небяспека нівеліроўкі нацый нікуды не прапала, яна трывала вісіць над намі. Як сказаў М. С. Гарбачоў на сустрэчы 6 студзеня з дзеячамі навукі і культуры, з вялікай цяжкасцю ўдалося супрацьстаяць некаторым удзірванелым мужам навукі, якія ў сённяшнюю партыйную Праграму хацелі ўнесці запіс... прыступіць да практычнага зліцця нацый. Страшна, што гэта адбывалася не так і даўно, калі, здавалася, абсурднасць такіх установак была ўжо бачна кожнаму нармальнаму чалавеку.**

Мастацкі кіраўнік акадэмічнай народнай харавой капэлы БССР імя Г. Цітовіча, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР М. Дрынеўскі з трывогай заўважыў, што фальклорныя нумары калектываў з Расіі, Украіны і Беларусі ўсё часцей становяцца падобнымі, як блізняты, — нівеліроўка трапляе і ў харэаграфію. Ад такой тэндэнцыі неабходна ратавацца, бо нічога добрага яна не дасць. Харавая капэла сёння, адзначыў М. Дрынеўскі, мае свой адметны твар, а ў свой час былы міністр культуры настойліва прапаноўваў разбавіць праграму сучасным рэпертуарам. Адстаяць сваю праграму кіраўніцтву капэлы было няпроста.

**Прафесар Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры, народны артыст РСФСР А. Клімаў, прафесар Кіеўскага інстытута культуры К. Васіленка далі высокую ацэнку той навуковай рабоце, якая праводзіцца навукова-даследчай лабараторыяй беларускай танцавальнай творчасці Мінскага інстытута культуры, магчымасцям, якія маюцца для навуковых даследаванняў у такой лабараторыі.**

І ЎСЁ-ТАКІ... У сталіцы рэспублікі працавала ўсесаюзная творчая майстэрня з канкрэтна акрэсленай тэмай — «Захаванне і развіццё беларускай народнай харэаграфіі». Хацелася б, каб і ішла гаворка пра гэта. Ці не балючае для нашых харэографаў, практыкаў і навукоўцаў пытанне: як не толькі захаваць, але і развіць народную харэаграфію? Давайце запытаем больш шчыра: ці захоўваем мы яе, ці так развіваем? Ад людзей, якія з'ехаліся з многіх куткоў нашай краіны, хацелася пачуць пра вопыт такой работы ў іхнім рэгіёне. Чакалася, што будуць праанадізаваны тэндэнцыі і напрамкі развіцця беларускай народнай харэаграфіі. Не адмаўляючы значнасці і неабходнасці размовы, якая адбылася, мушу ўсё ж прызнаць, што адказу на многія хвалюючыя пытанні мы так і не пачулі.

Вячаслаў ЛАПЦІК.

*Рэха падзеі*

ФЕСТЫВАЛЬ

БЕЛАРУСКІ ТЭАТРАЛЬНЫ

# ХТО ЛЕПШЫ?

*На мінулым тыдні ў Гродне апусцілася заслона II Беларускага тэатральнага фестывалю. Пра вынікі гэтай важнай падзеі ў культурным жыцці рэспублікі наш карэспандэнт М. Крапак гутарыць са старшынёй фестывальнага журы, старшынёй праўлення СТД БССР Мікалаем ЯРОМЕНКАМ.*

**— Ад падобных творчых форумаў заўсёды чакаюць адкрыццяў. Ці былі яны сёлета?**

— Так, на фестывалі быў прадстаўлены шэраг цікавых, часам нечаканых работ, якія, мабыць, можна назваць адкрыццямі. Гэта перш за ўсё спектакль «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева, пастаўлены Валерыем Раеўскім на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Сапраўднае ўзрушэнне — спектакль «Гамлет» У. Шэкспіра, увасоблены Барысам Луцэнкам у Тэатры-студыі кінаакцёра. Абодва спектаклі атрымалі галоўныя прызы фестывалю. Хочацца адзначыць яшчэ адну работу, якой шчыра парадаваліся і гледачы, і члены журы, — спектакль «Неймаверны ілюзіён Эрні» А. Эйкборна, пастаўлены ў Маладзёжным тэатры БССР. За арыгінальнае рэжысёрскае вырашэнне спектакля маладому пастаноўшчыку Віталю Катавіцкаму быў прысуджаны спецыяльны прыз журы.

Дарэчы, маладыя «завяявалі» значную частку ўзнагарод. У асноўным, за акцёрскія работы. Дыпломы фестывалю атрымалі: Зоя Белахвосцік (за ролі Танькі ў спектаклі «Страсці па Аўдзею» і Раісы ў «Жыцці Карыцына» А. Паповай); Алена Іванніхава (Верка, «Страсці па Аўдзею»); Генадзь Волчак (Эрні, «Неймаверны ілюзіён Эрні»). Прызам глядацкіх сімпатый адзначана выкананне Наталляй Курсевіч ролі Афеліі. Дадайце сюды і надзвычай удалы дэбют маладога драматурга Уладзіміра Бутрамеева і будзе зразумела, што актыўны ўдзел творчай моладзі — яскравая прыкмета сёлетняга фестывалю. Між іншым, згаданы ўжо спектакль В. Катавіцкага — важкі аргумент у дыскусіі пра шляхі развіцця дзіцячага тэатра: малады рэжысёр вынаходліва паставіў спектакль, аднолькава цікавы і дзецям, і падлеткам, і дарослым... Лічу адной з лепшых і работу Мікалая Пінігіна (спектакль «Жыццё Карыцына»), які выявіў глыбокае рэжысёрскае мысленне, здольнасць стварыць цэласны акцёрскі ансамбль.

Спектаклі «Страсці па Аўдзею» і «Гамлет», як я ўжо казаў, сталі лідэрамі фестывалю. Вызначылі яго творчы крытэрый. Журы высока ацаніла сцэнаграфію Барыса Герлавана, акцёрскую работу Генадзя Аўсяннікава. У спектаклі Тэатра-студыі кінаакцёра дыпломамі журы адзначаны сцэнаграфія Дзмітрыя Мохава і музычнае афармленне Алега Янчанкі, акцёрскія работы Расціслава Шмырова, Аляксандра Аржылоўскага, Аляксандра Цярпіцкага.

Дыпломамі ўзнагароджаны таксама Павел Кармунін, бліскучы выканаўца ролі Хведара Карыцына («Жыццё Карыцына»), Валерый Смірноў з Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра (роля Кручкова ў «Пінскай шляхце» В. Дуніна-Марцінкевіча), Віктар Галец з Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра (Міралюбаў у «Мудрамеры» М. Матукоўскага), Віктар Міхайлаў, выканаўца ролі Міны Мінавіча ў «Ка-та-стро-фе» А. Петрашкевіча (Тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча). Дыпломам Міністэрства культуры БССР і СТД БССР быў уручаны Міколу Трухану, кіраўніку тэатра-студыі «Дзе—я?», за эксперыментальны рэжысёрскі пошук у спектаклі «Роспач».

Шэраг твораў адзначаны прызамі грамадскіх арганізацый Гродзеншчыны.

**— Фестываль—гэта не толькі знаёмства з творчымі здабыткамі розных калектываў, але і сустрэчы, гутаркі, дыскусіі. Ці адбылася ў Гродне канструктыўная размова аб праблемах сучаснага тэатральнага працэсу ў рэспубліцы?**

— Цяперашні фестываль паставіў і канкрэтызаваў шэраг праблем нашага тэатра. Перш за ўсё гэта невысокі ў цэлым узровень рэжысуры: па-ранейшаму беларускаму тэатру нестае самастойных, арыгінальна думаючых пастаноўшчыкаў. Таксама ішла гаворка пра несуцяшальнае становішча з драматургіяй. Дарэчы, мне не зразумелыя адносіны нашых драматургаў да фестывалю: у Гродна прыехаў толькі Алесь Петрашкевіч. Чым гэта растлумачыць — абыякавасцю або самаўпэўненасцю?

Яшчэ адна праблема, вакол якой распаліліся дыскусіі на фестывалі, — беларускамоўныя спектаклі на сцэнах тэатраў, якія працуюць на рускай мове. Мусіць, упершыню гэтае пытанне паўстала так востра і прынцыпова. На працягу сямі дзён ішлі дэбаты, выказваліся розныя меркаванні на гэты конт, але да адзінства думак мы пакуль што не прыйшлі...

**— Многія сцвярджаюць, што мы развучыліся святкаваць. І фестываль — гэтага чакалі ўсе — павінен быў зрабіцца святам...**

— І стаў ім. Бо ў нас ужо быў вопыт правядзення фестывалю ў Віцебску, які мы ўлічвалі. II Беларускі тэатральны фестываль, на маю думку, прайшоў на больш высокім узроўні—і прафесійным, і эмацыянальным. Яшчэ не завяршыўся гэты форум, а мы ўжо абмяркоўвалі планы на наступны. Які ён будзе? Спадзяюся, яшчэ больш урачыстым, цікавым і багатым на творчыя адкрыцці.

**Бюро ЦК КПБ абмеркавала на адным са сваіх апошніх пасяджэнняў пытанне і прыняло пастанову аб стварэнні ў рэспубліцы «Кнігі памяці», у якую будуць занесены звесткі аб загінуўшых у баях за Радзіму, воінах, партызанах і падпольшчыках — ураджэнцах Беларусі, а таксама пахаваных на тэрыторыі рэспублікі патрыётах — прадстаўніках іншых народаў і народнасцей СССР, аб мірных жыхарах, якія падвергліся варожаму тэрору.**

**Маецца на ўвазе, што «Кніга памяці», стварэнне якой мяркуецца ў асноўным завяршыць да 50-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, будзе ўяўляць сабой шматтомную (прыкладна 130 кніг) гісторыка-дакументальную хроніку па кожным раёне і горадзе рэспублікі.**

**На пасяджэнні падкрэслівалася, што мерапрыемствы па зборы, абагульненні і апрабацыі ўключаемых у «Кнігу памяці» звестак маюць вялікае грамадска-палітычнае і выхаваўчае значэнне. Гэта работа набывае характар усенароднага руху па стварэнні летапісу баявых і працоўных спраў насельніцтва кожнага рэгіёна рэспублікі на ўсіх этапах яе гісторыі, актыўна садзейнічае патрыятычнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню працоўных, і перш за ўсё моладзі.**

**Бюро ЦК КПБ адзначыла плённую дзейнасць у гэтым напрамку калектыву выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі, многіх мясцовых партыйных, савецкіх і камсамольскіх органаў, ваенных камісарыятаў, ветэранаў вайны і працы, гісторыкаў, краязнаўцаў, воінаў-інтэрнацыяналістаў, камсамольцаў, піянераў і школьнікаў.**

**Для каардынацыі работы па падрыхтоўцы і выданні «Кнігі памяці», зборы і праверцы ўключаемых у яе матэрыялаў утворана рэспубліканская камісія пад старшынствам загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі С. Я. Паўлава. Аналагічныя камісіі прызнана мэтазгодным стварыць пры абкомах, гаркомах і райкомах партыі.**

# Памяць — значыць жыць

**Кароткае, важкае слова «Памяць». Унізе — падзагаловак «Шумілінскі раён», яшчэ крыху ніжэй — штык вінтоўкі, на якім палымнее чырвоны сцяг. Тут жа — плуг...**

**Кніга з такой вокладкай пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў 1985 годзе. Яна паклала пачатак выпуску гісторыка-дакументальных хронік асобных раёнаў рэспублікі. Ля вытокаў гэтай важнай справы па зберажэнні для нашчадкаў усяго, што тычыцца гістарычнага мінулага краю і яго сённяшняга дня, стаяў былы першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Пётр Міронавіч Машэраў. Па яго ініцыятыве да яе былі падключаны партыйныя і савецкія работнікі, гісторыкі, краязнаўцы, пісьменнікі і журналісты. Адна з першых брыгад літаратараў — на жаль, яна стала і апошняй — выехала туды ў Шумілінскі раён. Быў сабраны багаты матэрыял, які спачатку публікаваўся на старонках часопіса «Маладосць», а пазней, разам з матэрыяламі, сабранымі раённымі актывістамі, увайшоў у кнігу «Памяць».**

**Кніга мела поспех. Супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ў добрым саюзе з мясцовымі краязнаўцамі актывізавалі сваю дзейнасць. Пачалі паступаць рукапісы наступных «хронік». Найбольш плённа працавалі краязнаўцы ў Бярозаўскім раёне, таму чарговай у згаданай серыі і стала кніга пра гэты куток Бацькаўшчыны.**

**Над гісторыка-дакументальнай хронікай працаваў вялікі калектыў аўтараў. З мясцовых энтузіястаў неабходна адзначыць у першую чаргу М. Сікорына, якога, на жаль, ужо няма ў жывых, а таксама рэдактара бярозаўскай раённай газеты «Маяк камунізму» Я. Сяленю. Нямала намаганняў прыклалі і работнікі выдавецтва, найперш намеснік галоўнага рэдактара «БелСЭ» Алесь Петрашкевіч, загадчык рэдакцыі Георгій Кісялёў, Зінаіда Каршакова, Фаіна Кітаева, Іван Камароў, Наталля Шаўрук, Любоў Драбовіч.**

**Я папрасіў Алеся Петрашкевіча прадставіць гэтую кнігу чытачам «ЛіМа», расказаць аб тым, як яна рыхтавалася, якія матэрыялы ў ёй выклікаюць найбольшую цікавасць. Вось што ён расказаў:**

— Па жанры «Памяць» — гэта гісторыка-дакументальная хроніка, своеасаблівае жыццеапісанне раёна, выяўленае праз асобы, падзеі, факты, даўнейшыя і сённяшнія. Чытачы назвалі гэту кнігу эмацыянальнай энцыклапедыяй. Бадай, падыдзе і такое вызначэнне — помнік, увасоблены ў радках. А паколькі гэта гісторыка-дакументальная хроніка, усе матэрыялы, як правіла, і размяшчаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці — ад сівой мінуўшчыны да сучаснасці.

Уступнае слова — свайго роду запрашэнне, усхваляваны маналог пра мясціны, аб якіх расказваецца. Гэта ці празаічныя радкі, ці паэтычныя. У хроніцы Бярозаўскага раёна — гэта верш Ніны Мацяш, прачулы, усхваляваны, напоўнены сапраўднай любоўю да малой радзімы. Сярод аўтараў тома таксама — Алесь Разанаў і Раіса Баравікова, Анатоль Казловіч і Віктар Супрунчук, Зінаіда Дудзюк і Мікола Трафімчук.

Дарэчы, на Бярозаўшчыне моцныя літаратурныя традыцыі, шмат гадоў пры раённай газеце «Маяк камунізму» працуе літаратурнае аб'яднанне «Крыніца». Пра шлях, пройдзены ім, у артыкуле «Бярозаўская «Крыніца» падрабязна расказвае былы першы сакратар Бярозаўскага райкома партыі, аўтар некалькіх кніг П. Лебедзеў. У кнізе змешчаны біяграфічныя звесткі пра некаторых аўтараў, якія нарадзіліся на Бярозаўшчыне ці жывуць цяпер там, у тым ліку і пра малавядомых. Скажам, А. Разанаў у свой час у асабістым архіве рэдактара-выдаўца часопіса «Калоссе» Янкі Шутовіча, што захоўваецца ў Вільнюсе ў яго сястры Веры Іосіфаўны Шутовіч, адшукаў ліст Андрэя Карповіча ў рэдакцыю і чатыры яго вершы. Аказалася, аўтар іх — паэт-самавук, які нарадзіўся ў вёсцы Малеч на Бярозаўшчыне. Пра гэтага аўтара, яго жыццё і творчасць расказвае Я. Сяленя ў нарысе «Вяртанне праз гады». Зацікавяць чытача і звесткі пра ўкраінскага рэвалюцыйнага паэта і празаіка Аляксандра Гаўрылюка, які быў вязнем Бяроза-Картузскага канцлагера, дзе напісаў асобныя свае вершы, пачаў паэму «Песня з Бярозы», якую завяршыў пасля выхаду на волю. Гаўрылюк з'яўляецца таксама аўтарам аповесці «Бяроза»...

А возьмем Юрку Пружанскага — таксама чалавека няпростага лёсу. Сапраўднае прозвішча яго — Альшэўскі Анатоль Адамавіч. Нарадзіўся ў 1904 годзе ў Бярозе-Картузскай, у 1919 годзе ўступіў у партыю, добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, змагаўся за ўсталяванне Савецкай улады ў Палессі, з пачатку 1925 года на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, сядзеў у турме, змог вярнуцца ў СССР. Жыццё трагічна абарвалася ў 1937 годзе. Пад прозвішчам Юрка Пружанскі яго ведалі таварышы па рэвалюцыйнай барацьбе. А яшчэ Альшэўскі — выдатны публіцыст-партыец.

Ну, ды гэта к слову. Кампазіцыйная ж будова кожнага тома «Памяці» прыкладна аднолькавая. У асобныя раздзелы вылучаны матэрыялы, якія расказваюць пра падзеі ад старадаўнасці да Кастрычніка, далей — Вялікі Кастрычнік і барацьба за ўсталяванне Савецкай улады на тэрыторыі раёна, акрамя таго, у хроніках раёнаў былой Заходняй Беларусі ў асобны раздзел аб'яднаны матэрыялы, якія паказваюць барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне ва ўмовах белапольскай акупацыі. Падрабязна адлюстроўваюцца барацьба з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, аднаўленне разбуранай гітлераўцамі гаспадаркі. Апошні раздзел — сённяшняе жыццё.

Матэрыялы аб Вялікай Айчыннай вайне ў кожным томе займаюць прыкладна палову аб'ёму. Гэта — і расказ пра найбольш значныя падзеі на тэрыторыі раёна, пра дзейнасць камуністычнага і камсамольскага падполля і партызанскі рух (адлюстраваны непасрэдна ў нарысах, успамінах удзельнікаў барацьбы з фашызмам), і спісы тых, хто загінуў за нашу светлую будучыню. Прыводзяцца спісы — тысячы прозвішчаў — усіх загінуўшых удзельнікаў падполля, партызан, асоб, якія садзейнічалі падполлю і партызанскаму руху, членаў іх сем'яў; воінаў-землякоў, якія загінулі на франтах, а таксама тых, хто загінуў, вызваляючы раён ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прозвішчы гэтых людзей у кнізе — калектыўны помнік тым, пра каго павінны памятаць нашчадкі. Поруч — успаміны блізкіх ім людзей, лісты саміх загінуўшых...

Для падрыхтоўкі спісаў былі выкарыстаны матэрыялы і іншыя дакументы партыйнага архіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі, вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіравання СССР, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР, Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, Бярозаўскага гісторыка-рэвалюцыйнага музея.

Дарэчы, адна цікавая дэталь. Калі пры падрыхтоўцы кнігі пра Бярозаўшчыну шмат дапамог мясцовы музей, дык пры напісанні шумілінскай «Памяці», наадварот, сама гэтая работа стымулявала дзейнасць па стварэнні Шумілінскага краязнаўчага музея, у аснову якога і леглі многія матэрыялы кнігі. А ў Талачынскім раёне збор матэрыялаў для кнігі невыпадкова супаў са зборам матэрыялаў і рэліквій для будучага музея.

**Выкарыстаны таксама матэрыялы школьных музеяў і куткоў славы. Мы, выдавецкія работнікі, рады, што школьнікі збіраюць іх. Аднак хочацца перасцерагчы, каб рэдкія здымкі, арыгіналы лістоў з фронту, іншыя важныя гістарычныя дакументы ваеннага часу яны не наклейвалі на планшэты, у альбомы. Тым самым дакументы страчваюцца для нашчадкаў, бо з гадамі жаўцеюць, становяцца невыразнымі.**

Пошукавую работу, безумоўна, трэба працягваць. Толькі адзін прыклад. У «Кнізе памяці» Бярозаўскага раёна змешчана невялікая карэспандэнцыя «Легенда аб подзвігу». Палкі 205-ай матарызаванай дывізіі, якой камандаваў падпалкоўнік Кудзюраў, 23 чэрвеня сорак першага года былі перакінуты на мяжу Бярозаўскага і Кобрынскага раёнаў і каля шашы Брэст—Масква ўступілі ў няроўны бой з фашыстамі. Па сённяшні дзень сярод мясцовага насельніцтва жыве нямала легенд аб подзвігу савецкіх абаронцаў. Згодна адной, заслон чырвонаармейцаў, які прыкрываў асноўныя сілы, увесь, акрамя камандзіра, загінуў. Тады за кулямёт лёг сам камандзір і, пакуль хапала патронаў, стрымліваў ворага. Фашысты ўзялі яго ў палон, далі сапёрную лапату і прымусілі капаць магілу. Афіцэр не скарыўся, лапатай разбіў галовы некалькім гітлераўцам. Фашысцкі камандзір, уражаны смеласцю, загадаў пахаваць яго з усімі воінскімі ўшанаваннямі. Пакуль што вядомы прозвішчы толькі двух з тых, хто знаходзіўся ў заслоне. Гэта — камандзір заслона Мікалай Іванавіч Новікаў і старшы сяржант Мікалай Буднікаў. Хацелася б, каб пошукі імёнаў загінуўшых прадоўжылі мясцовыя следапыты.

**У Бярозаўскім раёне яшчэ ў жніўні 1971 года па рашэнні бюро райкома партыі была створана камісія «Подзвіг» на чале з тагачасным першым сакратаром Лебедзевым. Перад гэтай камісіяй была пастаўлена задача: праз архівы, апытанне мясцовага насельніцтва, выкарыстоўваючы перапіску, устанавіць імёны воінаў, партызан, падпольшчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі раёна, каб у іх гонар паставіць абеліск. У пошукавую работу ўключыліся не толькі члены камісіі, але і піянеры, камсамольцы многіх школ раёна.**

Чаму падкрэсліваю гэта? Бо ўпэўнены, што быць ці не быць падобнай кнізе залежыць ад райкомаў партыі. У такія камісіі ў раёнах павінны ўвайсці партыйныя і савецкія работнікі, гісторыкі, журналісты, настаўнікі, прадстаўнікі грамадскасці. Безумоўна, нядрэнна будзе, калі да гэтай важнай справы падключацца пісьменнікі, навукоўцы, якія нарадзіліся ў пэўным раёне. Калі камісія створана, наступны этап — сістэматызацыя матэрыялаў, што ёсць у раённых газетах, у зборніках дакументаў, у асабістых архівах і, вядома ж, у рэспубліканскім і цэнтральным друку. Галоўнае ж — складаць спіс загінуўшых па сельсаветах, вёсках, улічваючы калектыўныя пахаванні. Пасля гэтага план-праспект рукапісу дасылаецца ў выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».

Нядаўна з'явілася і трэцяя кніга. Гэта кніга пра маю родную Талачыншчыну. І супрацоўнікі рэдакцыі гісторыка-дакументальных хронік і я асабіста вельмі ўдзячныя маім землякам за запрашэнне на прэм'еру кнігі, якая была наладжана ў раённым Доме культуры з удзелам прадстаўнікоў усіх пакаленняў. Самае дарагое, з чым мы пакідалі Талачыншчыну, гэта пачуццё, што наша работа патрэбна людзям, што яны ведаюць ёй цану.

**На падыходзе кніга «Памяць» па Ляхавіцкім раёне. Здадзены ў набор рукапіс па Быхаўскім. На стале ў рэдактараў матэрыялы па Бешанковіцкім, на падыходзе — рукапісы кніг па Лёзненскім і Верхнядзвінскім раёнах.**

Як бачна, найбольш Віцебшчына. І невыпадкова. Там над зборам матэрыялаў працуюць усе раёны пад добрым наглядам першага сакратара абкома КПБ Уладзіміра Віктаравіча Грыгор'ева. Так і хочацца параіць астатнім: рабіце, як віцябчане, рабіце лепш за іх... А карысць і духоўныя здабыткі будуць агульныя. Хто шануе гісторыю, той не памыляецца. А той, хто не паважае сваёй гісторыі, сваёй гістарычнай памяці, той не можа разлічваць на павагу іншых.

Запісаў
Алесь **МАРЦІНОВІЧ**.

## *«ЛіМ» паведамляе*

### У музычным таварыстве БССР

**На чарговым пасяджэнні прэзідыума праўлення Музычнага таварыства БССР абмяркоўвалася работа яго гарадскіх і раённых падраздзяленняў. Са сваімі паведамленнямі выступілі прадстаўнікі Мінскага, Брэсцкага, Гродзенскага, Бабруйскага і Маладзечанскага гарадскіх аддзяленняў МТ БССР. У асноўным гаворка ішла пра стварэнне пярвічных арганізацый, пра далучэнне музыкантаў да актыўнай творчай, асветніцкай дзейнасці.**

**Адзначалася, што стварэнне пярвічных арганізацый МТ не паўсюль успрымаецца аднадушна і не паўсюдна праходзіць аднолькава паспяхова. Аднак аўтарытэт МТ паступова расце. Гэтаму садзейнічае актыўная прапагандысцкая, канцэртная, у тым ліку і дабрачынная, дзейнасць, удзел у арганізацыі фестываляў, конкурсаў.**

**Вострую дыскусію выклікаў факт давядзення фінансавых планаў самадзейным калектывам з боку дзяржаўных устаноў культуры і прафсаюзных органаў, што ставіць самадзейную творчасць на шлях камерцызацыі, а не задавальнення духоўных запатрабаванняў людзей, іх духоўных імкненняў. Адзначалася, што стаўка на сцэнічны вал і пракат супярэчыць самой сутнасці самадзейнай творчасці, яе прыродзе.**

**Былі таксама абмеркаваныя пытанні фінансавання творчай лабараторыі па фальклорнай харэаграфіі, удзелу ў рэспубліканскім свяце духавой музыкі, ва Усесаюзным конкурсе выканаўцаў польскай песні і іншыя.**

### «Песня пра Зубра» — у Львове

**Нядаўна па запрашэнні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Украіны ў Львове пабываў літаратурны тэатр, які не так даўно распачаў сваю працу пры мінскім Доме літаратара. У канцэртнай зале «Рамантык» гледачам былі прапанаваны фрагменты спектакля «Песня пра Зубра», пастаўленага рэжысёрам Уладзімірам Матросавым паводле паэмы Міколы Гусоўскага (выканаўца галоўнай ролі — Алесь Свістуновіч).**

**З уступным словам перад спектаклем выступіў член рады Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР празаік Міраслаў Шайбак. Ён распавёў гісторыю напісання паэмы, пазнаёміў гледачоў з асноўнымі момантамі дзейнасці выдатнага паэта і дыпламата, аўтара паэмы Міколы Гусоўскага.**

**Спектакль «Песня пра Зубра» быў прыняты прыхільна і яшчэ раз давёў, што сапраўдная літаратура не абмяжоўваецца ні геаграфічнай, ні часавай адлегласцю.**

**М. КЛІМКОВІЧ.**

### Аб'ядналася эстрада

**Дзеячы беларускай эстрады правялі ўстаноўчую канферэнцыю і стварылі сваю прафесійную асацыяцыю пры Музычным таварыстве БССР.**

**— Наша асацыяцыя аб'яднала эстрадных выканаўцаў, крытыкаў, музыказнаўцаў, педагогаў, творчых работнікаў, звязаных з музычным, размоўным, арыгінальным, танцавальным жанрамі, — расказвае член праўлення асацыяцыі, галоўны дырыжор Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі М. Фінберг. — Ставім мэтай і абарону прафесійных інтарэсаў майстроў эстрады. Задачы самыя разнастайныя: арганізацыя творчых майстэрань, дапамога канцэртным арганізацыям і самадзейнасці, развіццё эстраднай адукацыі, арганізацыя конкурсаў, фестываляў, семінараў, выдавецкая дзейнасць.**

**Старшынёй праўлення асацыяцыі эстрадных дзеячаў Беларусі абраны народны артыст БССР Віктар Вуячыч.**

**Д. ПАДБЯРЭЗСКІ.**

### Камісіі па літаратурнай спадчыне

**Утворана камісія па літаратурнай спадчыне Кастуся КІРЭЕНКІ ў складзе: М. Арочка (старшыня), В. Аколава, К. Камейша, Ал. Марціновіч, І. Шамякін, А. Шафарэнка (сакратар).**

●

**У камісію па літаратурнай спадчыне Яўгеніі ЯНІШЧЫЦ увайшлі: Д. Бугаёў (старшыня), Г. Далідовіч, Н. Загорская, М. Кусянкоў, В. Патапчук (сакратар).**

## Упершыню ў «ЛіМе»

### Вера БУЛАНДА



Вера Буланда нарадзілася ў 1955 годзе. Пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Стайскай школе Лепельскага раёна.

Сёння штотыднёвік знаёміць сваіх чытачоў з яе першымі вершамі.

●

Снег сіва-сіні укрыў зямлю,
Бялізна снежнамарскою пенай
Цвярдзее з марозу.
Як памяць, люблю
Матуліны рукі і цёткі Лены.

Мылі даўней—ці ў адной
вадзе?
Сінілі на неба падобнаю
сінькай
І паласкалі ў палонцы, дзе
Вада пацягвалася скарынкай.

Яны ж утрапёна, крыху ля ног
Рукі сагрэўшы, пранікам білі,
І лёскат ляцеў ад ракі
да дарог.
Адпелі так рана і... адлюбілі.

Здаваліся цёплымі палонка,
мароз
У параўнанні з ледзяной
пасцеллю,
Падушкай, намерзлай
з гарачых слёз,
Якія ніколі ніхто не падзеліць.

Чыстыя слёзы, як рукі іх,
Сарочка—беллю сляпіла вочы.
Жылі братавая й залоўка
удваіх,
Жылі і плакалі толькі ноччу.

А чаго па горы плакаць,
А чаго па ім тужыць,
Упацёмачку паплакаць,
Эх, на людзях вясёлай быць.

І гэту вясёласць, і тую злосць
Як позна з табою
мы зразумелі.
Ад мамы пайшла да нас
маладосць,
А цётку за татам услед—
на пагост,
І вечнае там спачыванне́йка
дзеляць.

І піць будзем, і гуляць будзем,
А смерць прыйдзе—паміраць
будзем.
А смерць прыйшла—мяне
дома не знайшла...

Людзям чарка—зямлі скварка.
Не то слёзы, не то сварка:
«А навошта ж мяне пакідаці
Ды з маленькімі дзеткамі
у хаце?»

Снег укрывае бялізнай зямлю,
Хаваючы бруд, што пакінула
восень,
Як мала гаворым жывому
«люблю»,
А у нябожчыка літасці просім.

### Маё шчасце

Дайце мне хлеба,
Дайце расінку,
Кавалачак неба,
Рачулкі слязінку,
Песні любімай
Мелодыю дайце.
Як прайсці міма
Уласнага шчасця.

### Жаданне

Я не хачу сабе замнога:
Каб толькі к дому найчасцей
Мяне прыводзіла дарога
З далёкіх спозненых гасцей.

Каб зноў прайсціся
па вясёлцы,
Да сонца рукі працягнуць,
І ў лесе ёлачнай іголцы
Травінку ў вушка уцягнуць.

Я не хачу сабе замнога:
Любві, даверу і цяпла,
Да сэрцаў каб людскіх дарога
І мной пракладзена была.

### Дзе?

Траўка шаўковая
Да вуснаў хінецца.
Дзе ж той хлапчына,
Што усміхнецца?

Шчыра бярозка
Зверху чаруе.
Дзе ж тое сэрца,
Што пашкадуе?

Дзе ж тыя вочы,
Што разумеюць.
Дзе ж тыя ночы,
Што свецяць і грэюць?

●

Пяшчотны, мілы, добры, любы,
Сапраўдны, самы дарагі,
І ў сіле рук сваіх не грубы,
І на характар не благі.

Разумны, моцны, смелы, дужы,
Вясёлы, сціплы, валявы...
Чаму не я за гэтакім мужам,
За мной, уважлівай,—не вы?

### Удзячнасць

Я сёння удзячна роднаму
слову
Прыгожым адценням і фарбам
яго.
Удзячна усім, хто данёс гэту
мову
Да сэрца, да шчасця і лёсу
майго.

### Дзякуй,

Х. А.

Дзякуй, што быў, што ёсць
Далёка і блізка—са мной.
Не муж, не сваяк і не госць,
Родны і мілы—не мой.

Знічка—які разбой!—
Да ног маіх упадзе.
Мне б загадаць з табой...
А як нам сустрэцца і дзе?

Калі і навошта? Смех
Я чую і твой, і чужы:
Нібы за вялікі грэх
Распята я на крыжы.

Дзякуй, што быў, што ёсць
Родны і мілы—не мой,
Не муж, не сваяк і не госць,
Далёка і блізка—са мной.

---

## З паэтычнай пошты

### Адам ГЛОБУС



### Брату

Да брата завітаў пад вечар,
Бо разумення не хапала,
Ці спачування не ставала,
А мо зычлівае сустрэчы...

Ён гаварыў пра недарэчнасць
Заўчаснай гібелі Купалы,
Пра англамоўную навалу,
Пра Дух і Кантаўскія рэчы...

Сядзелі мы да позняй ночы.
Гадзіннік біў працягла глуха,
Спачатку раз, а потым двойчы...

Ён разважаў, ды я не слухаў,
Глядзеў у братавыя вочы,
А ў іх утойвалася скруха...

### Квадрат

Як парад
Без салдат —
Не парад,
Так квадрат
Без вуглоў —
Не квадрат.
Як футболу патрэбны галы,
Так квадрату патрэбны вуглы.
У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі, ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, —
У квадрата чатыры вуглы.

Не адзін, і не тры, і не пяць...
Можаш плакаць, а можаш
скакаць,
Можаш біцца аб столь
галавой, —
Ты не зменіш сістэмы старой.
Так вучылі і будуць вучыць.
Ні змяніць, ні стрымаць, ні
спыніць
Гэты добраахвотны палон,
Гэты самы грунтоўны закон.

У квадрата чатыры вуглы.
Хай вялікі, ці самы малы,
А ўсё роўна, як ні павярні, —
У квадрата чатыры вуглы.

Час ідзе,
Час ляціць,
Час імчыць.
Ні стрымаць
Ні спыніць
Ні разбіць...
Росквіт вызначыць занепад.
Застанецца нязменным
квадрат.

### Сабака

Іржа гарыць
На ланцугу.
Няхай гарыць...
Што я магу?
Магу скакаць,
Магу брахаць,
Магу я ўзяць
І разадраць!
Магу кроў піць.
Яшчэ магу
Сядзець і выць
На ланцугу...

Іду туды,
Куды вядуць.
Бягу туды,
Куды пашлюць.
Я сплю тады,
Калі не б'юць.
Грызу тады,
Як нацкуюць.
Я ем тады,
Калі даюць.
Я п'ю тады,
Калі нальюць.
А хто зрабіў
З мяне раба?
Каму служыць
Мая бяда?
Я сам аддаў,
Крый бог збрашу,
Я сам прадаў
Сваю душу.
А што я мог
Яшчэ прадаць?
І дзе той ДРУГ,
Каб ратаваць?

### Звышнадзейнасць

Звышнадзейна жывуць
звышнадзейныя людзі.
Звышнадзейна садзяцца
ў вагоны метро.
Іх ніхто не аблае, ніхто не
асудзіць, —
Не цікавіць нікога іх лёс
і настрой.

Звышнадзейна працуюць
матory і колы.
Звышнадзейна гудуць на сцяне
правады.
Звышнадзейна вядуць
звышнадзейнае сола
Звышнадзейныя нетры
тунельнай трубы.

Распаўсюджваецца пад
зямлёй звышнадзейнасць.
Парцэлюецца і парцэлюецца
рытм.
А за столлю, у глебе, ляжыць
безнадзейнасць
Неабходная подзвігам
нова-старым.

### Скрыжаванне

Адчыніце ўсе дзверы,
Паламіце замкі,
Адпусціце ўсе душы
На чатыры бакі!

Паляцелі ўсе душы
На чатыры бакі.
Зачыніліся дзверы.
Іржавеюць замкі.

Мы стаім на крыжы
Беларускіх дарог
І не бачым дзвярэй,
За якімі ёсць бог.

---

## Мартыралог Беларусі: факты і імёны

## НЕЗАГОЙНАЯ РАНА

Боль душы, што не адпускае мяне ўсё жыццё, прымусіў мяне ўзяцца за пяро.

Было мне тады 4 гады, калі сталінскія найміты схапілі ні ў чым не вінаватага і майго бацьку — Шчура Мікіту Яўсеевіча, 1910 г. нараджэння, які жыў у в. Людзяневічы Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

Па расказу маці, схапілі яго ноччу. Забралі ўсе дакументы, фотаздымкі. Пасадзілі ў «чорны воран» і павезлі невядома куды.

Усё жыццё мяне прыгнятаў страх. Я баялася сказаць, дзе мой бацька. Толькі цяпер нарэшце ўсплыла праўда аб тым страшным часе, калі мільёны людзей загінулі невядома за што.

Я праклінаю Сталіна і сталінізм, які пазбавіў мільёны дзяцей бацькоўскай ласкі і падтрымкі, адабраў само права прамаўляць слова «тата», нанёс незагойную да самай смерці рану.

Я. Еўтушэнка піша, што вывучэнне мінулага — гэта выратаванне будучыні, яе гарант. Цалкам згодна. Трагедыя не павінна паўтарыцца!

Л. ШЧУР.

в. Вялута Лунінецкага раёна.

## МОГУЦЬ ПАЦВЕРДЗІЦЬ

З 1965 года я — жыхар Вільнюса, хоць нарадзіўся і доўга жыў у вёсцы Повяжы Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэта — зямля маіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў. Як пачалася Вялікая Айчынная вайна, мне было 14 год. Да вайны ў Ашмянах у трох будынках знаходзілася турма, агароджаная высокім дашчаным плотам, зверху якога быў калючы дрот. У гэтай турме было шмат зняволеных. Былі там і нявінныя людцы, так званыя «ворагі народа». Калі фашысты пачалі набліжацца да Ашмян, работнікі НКУС вырашылі ліквідаваць зняволеных. Яны па адным выводзілі іх з турмы праз брамку ў плоце, вялі ў падвал суседняга будынка, у якім размяшчаўся райвыканком, і там расстрэльвалі. Адзін з расстраляных, прозвішча яго Багдановіч, цудам застаўся жывым, дапоўз да людзей, расказаў ім аб усім. Гэта могуць пацвердзіць старыя жыхары Ашмянаў, навакольных вёсак Повяжы, Павішні і Беляні шкі.

Цяпер ужо той турмы няма, яе ліквідавалі пасля смерці Сталіна. А ў будынку райвыканкома зараз—лячэбная ўстанова. Мо варта на ім прымацаваць памятную дошку аб ахвярах сталінізму?

Л. АЛЕКСАНДРОВІЧ.

г. Вільнюс.

## ...І родны брат Янкі Брыля

Украінская лясная мясціна Быкоўня, што пад Кіевам. Па няшчасці, па трагічнай сутнасці сваёй — радня нашых беларускіх Курапат. Што гэта менавіта так у самым канкрэтным, літаральным сэнсе слова, мы даведаліся з заметкі С. Кісялёва «Архіпелаг Быкоўня», змешчанай у мінулым нумары «Літературной газеты». Сярод тых, хто быў расстраляны ў Быкоўні сталінскімі катамі і чые прозвішчы ўдалося следству ўстанавіць па знойдзеных рэчах, — і родны брат нашага народнага пісьменніка Брыль Уладзімір Антонавіч.



У. А. Брыль. Здымак 1938 г.

Рэдакцыя звярнулася да Янкі Брыля з просьбай сказаць колькі слоў пра свайго старэйшага брата.

Уладзімір, сказаў Іван Антонавіч, старэйшы сярод нас. пяці братоў. 1899-га года нараджэння. Вучыўся ў гарадскім вучылішчы ў Міры разам з малодшым на паўтара года братам Ігнатам. Пасля гэтага бацька, які працаваў чыгуначным праваднiком і жыў на той час у Адэсе, забраў іх да сябе. Валодзя скончыў Адэскі сельскагаспадарчы інстытут, набыў спецыяльнасць заатэхніка. Перад арыштам працаваў упраўляючым аддзялення саўгаса ў Кіеўскай вобласці. Быў жанаты, меў дзяцей. На момант арышту дачцэ Валі было 9 гадоў, сыну Віктару 2 гады. Арыштавалі ў Белай Царкве, судзілі ў Кіеве. Рэабілітаваны ў 1957 годзе. У мяне захоўваецца даведка ваеннага трыбунала Кіеўскай ваеннай акругі ад 15 студзеня 1957 г., дзе сказана, што «пастанова Тройкі пры Кіеўскім аблупраўленні НКУС ад 28 верасня 1938 года ў адносінах Брыля Уладзіміра Антонавіча адменена і справа спынена за адсутнасцю саставу злачынства». Ну, а як брат загінуў і дзе пахаваны — гэта мне стала вядома толькі цяпер з паведамлення «Літгазеты». Што інкрымінавалі яму? Хутчэй за ўсё шпіянаж у карысць дэфензівы. Родныя ж жылі па той бок граніцы, у Польшчы, і гэтага было дастаткова. Што датычыць муштука з гравіроўкай, дзякуючы чаму ўдалося ўстанавіць прозвішча брата, то надпіс азначае: муштук быў падораны Валодзю ў дзень яго нараджэння, у дзень яго 38-годдзя...

# Сыны ці пасынкі лёсу?

(Пачатак на стар. 2—3).

У некаторых школах, калі вучні спрабуюць гутарыць па-беларуску, настаўнікі паспешна іх папярэджваюць:

— Учитесь хорошо говорить по-русски, а не по-белорусски, а то приедут ваши друзья из Москвы, Тбилиси или Ташкента—и вас не поймут.

Вось яна, нашая нацыянальная прыніжанасць, наша самааплёўванне.

Памятаю, як праводзілі творчы вечар Івана Мележа у купалаўскім тэатры. Прыехалі землякі нашага выдатнага празаіка, прывезлі самадзейны хор. Хор выступіў вельмі добра, спяваў любімыя песні Івана Паўлавіча. Але ва ўсіх дзяўчат-харыстак былі на галовах рускія какошнікі. «Чаму яны так прыбраліся? —запытаўся я ў Івана.— На Палессі такія прыгожыя ўборы і аздобы». «Ат, прыслалі некага па разнарадцы ўкараняць рускую культуру».

Дарэчы, толькі што ў Парыжы выйшла пласцінка са старадаўнімі беларускімі (у асноўным абрадавымі) і з некаторымі сучаснымі песнямі, якія ў нас пяюць на Палессі. Фальклорныя ансамблі з Міншчыны і Віцебшчыны, Гродзеншчыны і Брэстчыны — гэта высокамастацкі цуд, якім мы ганарымся. За апошнія два дзесяцігоддзі бюракраты ад культуры і адукацыі праследуюць не толькі беларускае слова, беларускую школу, беларускія песні, — нават мысленне па-беларуску.

Чаго варты рэплікі маладых рабочых, камуністаў на сходах і канферэнцыях: «Кто вам позволил выступать на собрании на белорусском языке?!». Альбо: «Вы спросили разрешения выступать на белорусском языке?». Нават на сесіі Вярхоўнага Савета БССР малады дэпутат выступіў з прамовай, абразлівай для беларускага народа. Праўда, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР тав. Таразевіч Г. С. даў водпаведзь гэтаму прамоўцу, але апладысменты гучалі вельмі моцна ў падтрымку «ниспровергателя».

У «Чырвонай змене» за 1 лютага 1989 года я прачытаў нататкі рэдактара харкаўскай маладзёжнай газеты «Ленинское знамя» В. Новікава: «Мяне вельмі ўразіла, што ў беларускай сталіцы я так і не змог пачуць беларускай мовы».

На жаль, не толькі прадстаўнікі асветы і культуры, але і некаторыя сакратары райкомаў, старшыні багатых калгасаў і саўгасаў, як мясцовыя князькі, заяўляюць: «Я никогда не допущу у себя белорусской школы».

Мне ўспомніўся расказ, які я пачуў ад сяброў у Балгарыі: «Калі мы былі пад прыгнётам Асманскай імперыі, туркі адбіралі маладых балгарскіх хлопчыкаў і адвозілі ў Турцыю. Іх выхоўвалі ў мусульманскім духу і ў нянавісці да роднага народа. З гэтых хлопчыкаў вырасталі адборныя янычары, якія вярталіся ў Балгарыю і часам забівалі сваіх матак і выразалі грудзі ў родных сясцёр».

Разумею, што аналогія не самая лепшая. Але ці не назіраўся і ў нас час «янычараў», якія былі гатовы выразаць у народа яго душу — мову, культуру, гісторыю? А выступленні супраць беларускай мовы недалёкіх прамоўцаў яўна зроблены на адзін капыл. Паверце старому паэту, які паўвека працуе ў літаратуры і журналістыцы: я заўсёды адчуваю фальш. Тыя прамоўцы гаварылі з чужога голасу, па загаду.

З-за гэтай антынароднай палітыкі бываюць і недарэчна-смешныя здарэнні. Нядаўна ў Мінску была выстаўка «Інфарматыка ў жыцці ЗША». Амерыканскія гіды добра размаўлялі па-беларуску. А нашы? Спатрэбіліся тэрміновыя пошукі журналістаў, якія ведаюць беларускую мову. Яшчэ прыклад. Пасол ЗША ў Савецкім Саюзе пан Мэтлак прачытаў на беларускай мове верш Янкі Купалы «Спадчына». Вопытны дыпламат ведаў, што робіць. Давайце задумаемся над яго намёкам.

Усім жыццём даказана, што мова — не толькі сродак зносін паміж людзьмі, але і душа кожнай нацыі, народа, аснова яго песень, казак, літаратуры. Мова — сродак спасціжэння свету і, што асабліва важна, народнай маралі.

Чаму цяпер дзеці (ды і не толькі дзеці) не ведаюць беларускіх назваў траў, дрэў, кветак, птушак, рыб, насякомых і г. д.? (Я ўжо не кажу пра народныя звычаі, абрады, прыкметы, лячэнне, замовы, малітвы). Таму што знікае беларуская вёска і ўсё, што з ёю звязана; знікае прыгожая і сакавітая, адна з самых багатых і старажытных славянскіх моў, якую высока цанілі Міцкевіч, Дабралюбаў, Горкі, Фадзееў, Твардоўскі і многія іншыя выдатныя дзеячы братніх народаў. Ф. М. Дастаеўскі яшчэ ў 1865 годзе пісаў: «Гэта народная вера ў сябе, ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццёвасці і энергіі жыцця і ніяк не выключае прагрэсу і поспеху. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».

А вось словы другога рускага класіка, двараніна, акадэміка імператарскай акадэміі навук І. А. Буніна, якія ён сказаў рэпарцёру ў 1912 годзе: «Гасцяваў, між іншым, у А. С. Чэрамнова... у паўночнай частцы Віцебскай губерні. Велізарны лясны край, надзвычайна цікавы ў бытавых адносінах. Мне давялося вельмі многа хадзіць пешкам, уваходзіць у непасрэдныя зносіны з мясцовымі сялянамі, прыглядацца да іх, вывучаць іх мову (як бачыце, не дыялект, не гаворку, а мову.— **П. П.**). Пры гэтым я зрабіў шэраг цікавых назіранняў. У сялян гэтай паласы, на маю думку, у найбольш чыстым выглядзе захаваліся несапсаваныя рысы славянскай расы. У іх бачна парода. Ды і жывуць яны добра, далёка не ў тых жахлівых некультурных умовах, як наш мужык у сярэдняй Расіі...»

Трэба хутчэй адрадзіць беларускую мову. Ніхто не прымушае ўсіх размаўляць па-беларуску. Няхай гавораць на цудоўнай рускай мове, на ўкраінскай, на польскай. Але даволі нам, беларусам гуляць гадамі ў «класікі». Трэба ўсё мяняць па-сапраўднаму, па-дзяржаўнаму, вучыць дзяцей роднай мове з дзіцячага сада, з першага класа. Уявіце, што рускаму, англічаніну, французу, паляку, эстонцу, грузіну загадалі вучыць сваіх дзяцей роднай мове з 2-га ці з 3-га класа. Ды тыя бацькі паслалі б такога дарадцу да д'ябла, а можа, і далей. А ў нас гэта — звычайная з'ява.

Словам, наша родная мова павінна, нарэшце, стаць дзяржаўнай.

# ТРЭЦІ, НЕ АПОШНІ

**УСЁ БОЛЬШАЙ ПАПУЛЯРНАСЦЮ У АМАТАРАЎ КНІГІ МІНСКА І ГАСЦЕЙ СТАЛІЦЫ РЭСПУБЛІКІ КАРЫСТАЮЦЦА АНТЫКВАРНА - БУКІНІСТЫЧНЫЯ АЎКЦЫЁНЫ.**

**Яны знаходзяць гарачых прыхільнікаў як сярод уладальнікаў асабістых бібліятэк, так і сярод супрацоўнікаў дзяржаўных кнігасховішчаў, музеяў. Аб гэтым сведчыць ужо III Мінскі антыкварна-букіністычны аўкцыён, што ў мінулую нядзелю адбыўся ў Доме літаратара. Мінскі абласны кнігагандаль, Мінская абласная і гарадская арганізацыі Добраахвотнага таварыства аматараў кнігі БССР паклапаціліся, каб надаць яму дзелавы характар.**

**Выданні, адабраныя для продажу, былі выстаўлены для папярэдняга агляду пакупнікамі ў букіністычнай «Кнігарні імя Францыска Скарыны». Аб даце і месцы правядзення аўкцыёна таксама загадзя паведамлялася ў друку і па радыё.**

**Пакупнікоў у Доме літаратара чакалі самыя розныя кнігі. Сярод іх — і нямала выданняў на беларускай мове, а таксама кніг, якія тычацца гісторыі краю, асвятляюць яго культурнае жыццё ў мінулыя стагоддзі. Асобныя з іх добра-такі «пастаялі за сябе». Скажам, кніга Д. Бохана «Мінскія паданні і легенды», выпушчаная ў 1901 годзе, першапачаткова была ацэнена ў пяцьдзесят рублёў. Для выдання, у якім змешчаны вершы, апавяданні, легенды, прысвечаныя Мінску і яго ваколіцам, прытым выдання,**

*СТАТЫСТЫКА:*
*У дарожна-транспартных здарэннях штогод гіне:*
*у Мінску — 50 чалавек,*
*у Беларусі — 1,5 тысячы чалавек,*
*у СССР — 40 тысяч чалавек,*
*у ЗША — 45 тысяч чалавек,*
*у свеце — 250 тысяч чалавек.*

...САКРАТАР народнага суда Савецкага раёна г. Мінска Лілія Анатольеўна Волкава хутка знайшла ў архіве патрэбны нам том крымінальнай справы № 18183/40. Гартаем. Першы дакумент: Пастанова аб узбуджэнні крымінальнай справы. «1 лістапада 1981 года ў 13 гадз. 30 мін. вадзіцель аўтамабіля «КАЗ-608» К., пад'язджаючы па вул. Сурганава да перакрыжавання з вул. Я. Коласа, выехаў за межы праезджай часткі ўправа, наехаў на пешаходаў Н. і П., а таксама на асвятляльную мачту. У выніку пешаходы былі прыціснуты да асвятляльнай мачты і на месцы памерлі. Узбудзіць крымінальную справу па прыкметах артыкула 206-га часткі 3-й КК БССР».

З тлумачэнняў падсуднага К.: «Асфальт быў мокры, дарогу перабягаў пешаход, я тармазнуў і ўзяў **крыху** (тут і далей падкрэслена аўтарамі) ўправа».

З прысуду: «Рухаючыся па левай крайняй паласе ў парушэнне пункту 10.2 Правілаў дарожнага руху і набліжаючыся да рэгулюемага перакрыжавання, К. **праявіў няўважлівасць да навакольнай абстаноўкі і яе зменаў; не знізіўшы хуткасць да мяжы, якой патрабуе бяспека руху,** пачаў перастройвацца ў правыя палосы. **Ужыўшы пры гэтым тармажэнне і не выканаўшы неабходных дзеянняў па кіраванні транспартным сродкам,** не справіўся з кіраваннем, выехаў за межы праезджай часткі».

Далейшае вядома: дзве смерці. Трэцяй дзяўчыне (яны ішлі па тратуары разам — сяброўкі) была нанесена траўма чэрапа сярэдняй цяжкасці. І зусім ужо, сапраўды, дробязь: іск на аднаўленне машыны — 998 рублёў.

Паводле прысуду, К. павінен быў адбываць пакаранне ў калоніі. Але на наш запыт адтуль паведамілі, што ў 1984 годзе зняволены, які нас цікавіць, накіраваны ў адну са спецкамендатур. Як неўзабаве высветлілася, спецкамендатура

# «ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ЯГО ЧАС»

## Новая выстаўка Дзяржаўнага музея БССР

**Подых даўняга часу, калі на беларускіх землях пачалося адраджэнне і друкаванае слова шукала дарогу да народа, адчуваеш на экспазіцыі «Францыск Скарына і яго час», арганізаванай Дзяржаўным музеем БССР. Наведвальнікі быццам перагортваюць старонкі біяграфіі нашага першадрукара. Полацк, Кракаў, Нюрнберг, Рым, Падуя — усё гэта гарады, якія памятаюць беларускага сына. Лаканічныя надпісы паведамляюць аб тым, чым запомніўся той ці іншы перыяд жыцця і дзейнасці першадрукара.**

**Адначасова расказваецца аб іншых тытанах адраджэнцкага руху, якія працавалі прыкладна ў той жа час, несучы народу святло ведаў і адукацыі. Партрэт Міколы Гусоўскага... Яго слова сёння гучыць надзвычай актуальна: «Музыка нашых лясоў мілагучнасцю строгай вуху і сэрцу мілей за літаўры і ліру». «Катэхізіс» С. Буднага — першая кніга на беларускай мове, выдадзеная на тэрыторыі Беларусі ў 1562 годзе. На другім стэндзе — «Статут Вялікага княства Літоўскага», датаваны 1588 годам, з віленскай друкарні Мамонічаў. Імі ж выпушчанае ў 1575 годзе «Евангелле». Партрэты С. Буднага, В. Цяпінскага, І. Фёдарава...**

**На выстаўцы прадстаўлены таксама работы мастакоў, скульптараў, якія расказваюць пра Ф. Скарыну і яго паслядоўнікаў. Асобна выстаўлены выданні, прысвечаныя першадрукару, яго асветніцкай і выдавецкай дзейнасці, у тым ліку «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў», «Скарынаўскі каляндар», энцыклапедыя «Францыск Скарына».**

**Пасля паказу ў Мінску выстаўка «Францыск Скарына і яго час» зробіць падарожжа па гарадах рэспублікі, каб у 1990 годзе прыехаць у старадаўні Полацк.**

**НАШ КАР.**

# ДРУГІ ФЕСТЫВАЛЬ ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ

КАЛЕГІЯ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР, САКРАТАРЫЯТ БЕЛСАЎПРОФА, САКРАТАРЫЯТ ЦК ЛКСМБ, ПРЭЗІДЫУМ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ДРУЖБЫ І КУЛЬТУРНАЙ СУВЯЗІ З ЗАМЕЖНЫМІ КРАІНАМІ, ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА МУЗЫЧНАГА ТАВАРЫСТВА ПАСТАНАВІЛІ ПРАВЕСЦІ 19—23 ЛІПЕНЯ 1990 г. у г. ВІЦЕБСКУ ДРУГІ УСЕСАЮЗНЫ КОНКУРС І ФЕСТЫВАЛЬ ВЫКАНАЎЦАЎ ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ. ВЫРАШАНА, ШТО НАДАЛЕЙ ТАКОЕ СВЯТА БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЦА АДЗІН РАЗ У ДВА ГАДЫ.

**Другі Усесаюзны конкурс польскай песні з'яўляецца формай папулярызацыі польскіх народных і эстрадных песень, шырокага прыцягнення савецкіх людзей да ўдзелу ў самадзейнай мастацкай творчасці.**

**Падрыхтоўку і правядзенне конкурсу на месцах ажыццяўляюць абласныя аргкамітэты, якія ўстанаўліваюць тэрмін і месца правядзення конкурсу. Па выніках абласных конкурсаў рэспубліканскае журы адбірае ўдзельнікаў рэспубліканскага конкурсу, які адбудзецца ў г. Віцебску ў студзені 1990 г.**

**У конкурсе прымаюць удзел салісты-вакалісты, вакальна-інструментальныя ансамблі і групы. Узрост выканаўцаў ад 16 да 35 гадоў, колькасць удзельнікаў ансамбля — не больш за 10 чалавек. Для ўдзелу ў рэспубліканскім конкурсе дапускаюцца ўсе выканаўцы, акрамя тых, хто працуе ў канцэртных арганізацыях і прафесійных калектывах, удзельнікі першага Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў г. Віцебску, акрамя лаўрэатаў.**

**На адборачных конкурсах кожны ўдзельнік павінен выканаць дзве польскія песні. Кожны ўдзельнік рэспубліканскага туру конкурсу павінен падрыхтаваць тры сучасныя польскія песні, у тым ліку дзве на польскай, адну на рускай ці беларускай мовах.**

**Усесаюзны конкурс польскай песні праводзіцца ў тры этапы:**
**I этап — сакавік — лістапад — абласныя;**
**II этап — студзень 1990 г. — рэспубліканскі;**
**III этап — 19—23 ліпеня 1990 г. — Усесаюзны конкурс выканаўцаў польскай песні ў г. Віцебску.**

**Для правядзення адборачных конкурсаў на месцах ствараюцца абласныя аргкамітэты.**

**Па выніках конкурсаў абласныя аргкамітэты да 1 снежня 1989 г. прадстаўляюць у музычны аддзел Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры (220029, г. Мінск, вул. А. Пашкевіч, 3) спісы кандыдатаў на ўдзел у рэспубліканскім конкурсе, анкеты, кароткую творчую характарыстыку, завераную пячаткай, праграмы выступлення ў пяці экземплярах з абавязковым указаннем аўтараў вершаў, музыкі, назвай песень, фотаздымкі (памеры 3×4 — 3 шт.).**

**Рэспубліканскае журы адбірае кандыдатаў для ўдзелу ва Усесаюзным конкурсе ў г. Віцебску.**

**Журы ацэньвае выканаўцаў па наступных крытэрыях: мастацкі ўзровень і самабытнасць выканання польскіх песень, інтэрпрэтацыя польскага рэпертуару, артыстычнасць, якасць аранжыровак і інструментовак, касцюміраванне.**

**Аргкамітэт па правядзенні другога Усесаюзнага фестывалю польскай песні ўзначальваюць міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч (старшыня), сакратар Віцебскага АК КПБ І. А. Навумчык і намеснік міністра культуры БССР У. П. Рылатка (намеснікі старшыні).**

# АДРАСАВАНА ЎСЕСАЮЗНАМУ ЧЫТАЧУ

**Дзяржаўная бібліятэка СССР імя У. І. Леніна даўно рыхтуе сумесна з дзяржаўнымі бібліятэкамі саюзных рэспублік бібліяграфічныя даведнікі па літаратурах народаў СССР, адрасаваныя выкладчыкам, студэнтам, лектарам, прапагандыстам, усім, хто цікавіцца гісторыяй і сённяшнім станам савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Чарговы зборнік у гэтай серыі — «Беларуская літаратура». Ён падрыхтаваны масквічамі разам з Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна (аўтары-складальнікі Н. Ватацы, М. Каваленка, Р. Сіпакова) і выпушчаны летась выдавецтвам «Кніжная палата».**

**Доктар філалагічных навук М. Мушынскі ва ўступе прасочвае асноўныя этапы развіцця беларускай літаратуры. У завяршальным раздзеле называюцца кнігі, артыкулы, якія дапаўняюць гэтыя звесткі, даюць уяўленне аб сувязях беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі, дазваляюць адчуць яе месца ў кантэксце савецкай шматнацыянальнай літаратуры.**

**У даведніку два асноўныя раздзелы — «Дакастрычніцкая літаратура» і «Савецкая літаратура». У абодвух названы 56 пісьменнікаў, а таксама ананімная паэма «Тарас на Парнасе». Змешчаны партрэты аўтараў, бібліяграфічныя звесткі пра іх, агляд асноўных твораў і іх спіс у перакладзе на рускай мове, спіс літаратуразнаўчых і крытычных работ па творчасці пісьменнікаў.**

**М. ВАСІЛЬЧАНКА.**

# КЛЮЧ ДА ЖЫВОЙ МУЗЫКІ

**Рэпертуар беларускай харавой музыкі папоўніўся зборнікам «Беларускія народныя танцавальныя песні». Яго склалі энтузіясты народнай творчасці — балетмайстар М. Казенка і кампазітар А. Рашчынскі. Сама назва зборніка сведчыць пра арыгінальнасць задумы ўкладальнікаў: ад карагодных песень да гульняў і далей — да скокаў. Абапіраючыся на народную традыцыю, М. Казенка і А. Рашчынскі знайшлі ключ да жывой музыкі, захаваўшы рэгіянальныя асаблівасці сабраных песень. Гэта дае надзею на тое, што нашы калектывы мастацкай самадзейнасці, якія нярэдка выконваюць стэрэатыпныя песні і танцы сваіх «дамарослых» кампазітараў, атрымаюць цяпер магчымасць выбраць найбольш блізкае ім па духу.**

**Не сакрэт жа, што многія аматарскія выканаўчыя калектывы, асабліва пад час рэспубліканскіх конкурсаў, стамляюць слухачоў нізкай якасцю апрацовак і расшыфровак мелодый, прычапураных, так бы мовіць, «французскай» гармоніяй, якая нівеліруе — не, проста знішчае душу народа. Нешта падобнае адбываецца і ў музычных, і ў танцавальных самадзейных калектывах. Вось чаму я вітаю гэты новы сціплы (выданне ратапрынтнае) зборнік беларускіх песень, расшыфраваных адукаванымі людзьмі, якія любяць і разумеюць фальклор. Радуе іхняя інтэлігетнасць, працавітасць, жаданне па-сапраўднаму захоўваць і прапагандаваць культуру беларускага народа.**

**Андрэй МДЗІВАНІ,**
**кампазітар.**



Хто больш?

Фота Ул. КРУКА.

якое няблага захавана і добра ілюстравана, гэта няшмат. Так палічылі і ўдзельнікі аўкцыёна. У выніку кніга прададзена за 180 рублёў. З 20 да 75 рублёў узрасла і цана «Беларускіх народных песняў», запісаных А. Розенфельдам і выпушчаных у 1904 годзе. За 40 рублёў (пры першапачатковай цане 15 рублёў) была прададзена аповесць З. Бядулі «Салавей», якая пабачыла свет у Ленінградзе ў выдавецтве «Прибой» у 1929 годзе на рускай мове...

Рэдкія выданні набыты Аб'яднаннем дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска, сталічнымі бібліятэкамі.

А набываць, яшчэ раз падкрэслім, было што: зборнік артыкулаў і дакументаў «Кастрычнік на Беларусі», укладзены С. Агурскім і выпушчаны ў 1927 годзе; «Беларускія народныя песні» С. Малевіча выдання 1907 года; п'еса К. Вясёлага (В. Аўдзея) «Не розумам сцяпіў, а сэрцам», выпушчаная пад рэдакцыяй І. Дварчаніна ў 1927 годзе ў Вільні...

Адным словам, вядучым аўкцыёна выкладчыку Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава А. Барашку і кіраўніку гомельскага кааператыву «Адпачынак» М. Энціну давялося нямала папрацаваць. Па папярэдніх падліках выручка склала звыш шасці тысяч рублёў. Знайшла сваіх прыхільнікаў і латарэя, якая праводзілася пасля продажу кніг.

Трэці антыкварна-букіністычны аўкцыён завяршыўся. Трэці, ды, трэба думаць, не апошні. Новая форма кніжнага гандлю прыжываецца. Толькі... Толькі ці не пара праводзіць кніжныя аўкцыёны па-беларуску? Мо на IV Мінскім антыкварна-букіністычным загучыць нарэшце наша мова?

НАШ КАР.

# ЗГАДКІ ПРА АДАМА ГУРЫНОВІЧА

**Вечар, прысвечаны 120-й гадавіне з дня нараджэння Адама Гурыновіча, падрыхтавалі супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры.**

У выставачнай зале Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў БССР сабраліся музейныя работнікі, настаўнікі, бібліятэкары сталіцы рэспублікі, каб ушанаваць памяць выдатнага паэта, празаіка, перакладчыка, фалькларыста, постаць якога займае адметнае месца ў гісторыі дакастрычніцкай літаратуры на пачатку станаўлення новай беларускай літаратуры.

Трагічны лёс гэтага паэта-рэвалюцыянера. За ўдзел у нелегальным «Гуртку моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай» ён у 23 гады быў кінуты ў засценак Петрапаўлаўскай крэпасці, а ў 25 гадоў памёр ад чорнай воспы ў фальварку сваёй маці на Смаргоншчыне, куды яго, зусім хворага, адправілі пад строгі нагляд паліцыі. Яго творы ўпершыню ўбачылі свет толькі пасля Вялікага Кастрычніка, у 1921 годзе.

Аднак архіў Адама Гурыновіча — адзіны архіў беларускага пісьменніка XIX стагоддзя, які дайшоў да нашых дзён. Дзякуючы нястомным пошукам А. Мальдзіса гэты архіў быў выяўлены ў Польшчы і цяпер захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

Адам Мальдзіс расказаў пра жыццёвы і творчы шлях А. Гурыновіча, пазнаёміў з арыгінальнымі матэрыяламі з архіва паэта на выстаўцы, якую падрыхтавалі супрацоўнікі ЦДАМЛіМ БССР. Сярод матэрыялаў — фотаздымкі паэта розных гадоў, лісты студэнта Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута Гурыновіча да маці, аўтографы вершаў, этнаграфічныя запісы, лісты да А. Гурыновіча ад Розы Швайніцкай і Станіславы Пяткевіч і іншыя матэрыялы.

Вершы Адама Гурыновіча і яго пераклады з іншых славянскіх моў прагучалі ў выкананні ўдзельнікаў самадзейнага тэатра «Золак» і гасцёўні «Купалінка» СШ № 16. Самадзейныя артысты Н. Лазоўская, Н. Матліцкая і У. Бербераў выканалі беларускія народныя песні. На старажытных музычных інструментах граў А. Лось.

Н. КУДРЭВІЧ.

# ПА МАСКВЕ ЗА «ВОЖЫКАМ»

**Над чым смяюцца ў Беларусі? Такое пытанне задалі калегі, пачуўшы, што ў чарговым нумары беларускага сатырычнага часопіса «Вожык» надрукавана мая гумарэска. Па заданні рэдакцыі я накіраваўся на яго пошукі...**

— У Маскву паступае 27 назваў перыядычнага друку з Беларусі, — расказвае намеснік начальніка Маскоўскага гарадскога вытворчага аб'яднання «Саюздрук» В. Булычоў, — іх прадаюць 3 магазіны і 54 фірменныя кіёскі. Навінамі з Беларусі цікавяцца многія масквічы. Гэта нядзіўна: у горадзе пражывае больш як 60 тысяч беларусаў. Папулярнасцю карыстаецца «Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва».

Прадаюцца ў розніцу і часопісы. «Беларусь» проста так купіць немагчыма: расхопліваюць імгненна. Штомесяц рэалізуецца каля дзвюх з палавінай тысяч экземпляраў часопіса «Нёман».

Гандлёвыя пункты стараемся размяшчаць там, дзе друкаваныя выданні могуць купіць не толькі масквічы, але і госці сталіцы. Згадзіцеся, прыемна даведацца ў Маскве пра апошнія навіны з дому. Гандаль наладжан на вакзалах, у гасцініцах, аэрапортах, турыстычных цэнтрах.

— Але масквічы не толькі купляюць газету або часопіс у кіёску,—гаворыць намеснік начальніка Маскоўскага гарадскога вытворчага аб'яднання «Саюздрук» В. Савідава,—не так даўно паявілася магчымасць выпісаць практычна любое рэспубліканскае выданне.

У мінулым годзе, пасля зняцця ўсіх ліміту і абмежаванняў, масквічы сталі выпісваць больш мясцовай перыёдыкі. Папулярны часопіс «Парус». Вырасла ў апошні час цікавасць да выходзячых на беларускай мове «Вожыка», «Работніцы і сялянкі». Агульная колькасць падпісак на часопісы набліжаецца да шасці тысяч. Не адстаюць і газеты. «Советскую Белоруссию» атрымліваюць сёння 377 масквічоў.

Уводзяцца новыя формы, метады работы. Так, нядаўна, паўнамоцтвамі праводзіць падпіску на рэспубліканскія выданні надзелены фірменныя магазіны «Саюздруку»...

Даведаўшыся пра гэта, я адправіўся ў бліжэйшы такі магазін. Чым купляць «Вожык» у кіёску, ці не лепш яго проста выпісаць? «Калі ласка»,—усміхнулася мне абаяльная супрацоўніца, афармляючы падпіску.

В. ЗЯНЬКОВІЧ,
кар. ТАСС.

г. Масква.

*На жыццёвых скрыжаваннях*

# НІХТО НЕ ХАЦЕЎ ЗАБІВАЦЬ...

гэтая гады два назад была ліквідавана. З дапамогай работнікаў упраўлення выпраўленча-працоўных устаноў Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі ўдалося ўстанавіць, што К. знаходзіцца ў другой спецкамендатуры. Аднак і там мы яго не знайшлі: аказалася, што нядаўна ён вызвалены і вярнуўся дадому.

Мы свядома не называем прозвішча шафёра. У дадзеным выпадку, напэўна, дастаткова таго, што расказана. Але і сёння — не-не ды ўспомняцца словы сакратара суда Л. Волкавай: «У сваім апошнім слове ён сказаў: «Я не хацеў забіваць».

СПЕЦКАМЕНДАТУРА.

Вокны двух першых паверхаў забраны кратамі. Побач, за нейкіх 40 метраў, праносяцца цягнікі.

Гэты будынак стаў домам для людзей, якія здзейснілі злачынства па неасцярожнасці і асуджаны ўмоўна. Большасць з іх—шафёры. Усе цяпер працуюць у падраздзяленнях будтрэста, інтэрнатам якога і значыцца гэты будынак.

*ДАВЕДКА:*

*З шафёраў, якія адбываюць пакаранне ў спецкамендатуры, 80 — здзейснілі злачынствы ў нецвярозым стане, 43 аварыі закончыліся гібеллю людзей.*

...У той дзень, 18 сакавіка, Антон Валадзько выехаў са Стоўбцаў у Мінск у звычайны рэйс: вёз малако на завод у Дражню. На заводзе лабарантка папрасіла яго падвезці сяброўку В.: «Жывём у адным пакоі, твая зямлячка, у яе бацькі пад Стоўбцамі». Узяў. Баяўся, што механік пасля здачы прычэпу не выпусціць з пасажыркай. Выпусціў...

З судовай справы: «Валадзько Антон Антонавіч, 1961 года нараджэння, асуджаны па артыкуле 206, частка 2-я КК БССР. 18 сакавіка наехаў на аўтамабіль, які стаяў на дарозе і які А. Валадзько не заўважыў, бо ехаў насустрач сонцу, не маючы сонцаахоўнага брыля ў машыне, і да таго ж з высокай хуткасцю. У выніку сутыкнення В. атрымала не сумяшчальныя з жыццём цялесныя пашкоджанні, ад якіх наступіла смерць».

На судзе яе маці крычала яму:

— Забойца!

Першыя месяцы сніліся страшныя сны: то як наязджае на сваім «МАЗе» на «ЗІЛ», то як апускае дзяўчыну на футра, і яна са страшнай ранай на лобе хоча сказаць яму штосьці апошняе...

Прысуд народнага суда: 4 гады пазбаўлення волі ўмоўна з абавязковым прыцягненнем да працы ў месцах, вызначаных органамі, якія ведаюць выкананнем прысуду. Без пазбаўлення правоў кіравання транспартнымі сродкамі ў далейшым.

Амністыя зменшыла Антону паўтара года. Зусім хутка ён выйдзе на волю.

— Будзеш працаваць шафёрам?

— Не. І жонка катэгарычна супраць. А як любіў машыну, ведаю толькі я. За дзевяць гадоў ні разу не сеў за руль выпіўшы, паважаў сваю прафесію. Не, шафёрам не буду: няўпэўненасць з'явілася.

— А кім жа?

— Я тут закончыў прафтэхвучылішча, дыплом механіка атрымаў. Вось механікам і буду. А не — яшчэ адна прафесія ёсць, таксама тут набыў — арматуршчык-бетоншчык. Я-то не прападу, я жывы...

Мы развіталіся, і ён пайшоў да сябе наверх, у пакой, акно якога закратавана.

НЯДАЎНА ў раздзеле гумару аднаго часопіса мільганула фраза: «Прычына, якая нарадзіла следства, рэдка бывае ўважлівай». Вось ужо сапраўды: як быццам «трошачкі», глядзець няма на што, а вось жа — трупы на дарогах. Праявіў няўважлівасць да навакольнай абстаноўкі і не заўважыў; не знізіў хуткасць да мяжы, якая забяспечвае бяспеку, прымяніўшы пры гэтым тармажэнне (асфальт быў мокры) і не выканаўшы неабходных дзеянняў па кіраванні транспартным сродкам; тармазнуў і ўзяў крыху ўправа.

У гэтым кароткім пераліку — цэлы набор грубых парушэнняў Правілаў дарожнага руху.

Падрыхтоўка шафёраў у нас грашыць на многія недахопы і недагляды. Перш за ўсё ў гэтай справе няма адзінай сістэмы, адзінага гаспадара. Хто толькі ні навучае ў нас шафёраў — Мінтранс, ДТСААФ, Таварыства аўтааматараў, Дзяржпрафнавучанне. У Мінасветы ўзаконена нават самападрыхтоўка. Ці не таму так многа работы першыя даюць другім? Ва ўсякім разе, мы ўпэўнены, што аматарства ў падрыхтоўцы вадзіцеляў — адна з асноўных прычын няспынных трагедый на дарогах.

Каб зняць праблемы і няўвязкі ў гэтай важнай дзяржаўнай справе, патрэбен адзіны строгі гаспадар. А пакуль да гэтага не дайшлі, чаму б не стварыць на базе тых жа школьных вучэбна-вытворчых камбінатаў, прафтэхвучылішчаў і тэхнікумаў свае базы з абавязковым навучаннем аўтаспраўе на працягу ўсяго тэрміну вучобы — ад паступлення да атрымання дыплома? Вось тады чалавек не галопам па Еўропам будзе скакаць, а выходзіць са сцен навучальнай установы грунтоўна падрыхтаваным да ваджэння аўтамабіля ці матацыкла.

А пацікаўцеся, як праводзяцца экзамены на атрыманне праў. Экзаменацыйную картку з дзесяцю малюнкамі і пытаннямі па Правілах дарожнага руху курсанты нярэдка вывучаюць экзаменатарам з правільнымі адказамі праз хвіліну-другую. Наіўна думаць, што гэта сведчыць аб трывалых ведах нявопытнага абітурыента. Стандартныя, у вялікай колькасці размножаныя карткі, трапляюць у рукі курсантаў задоўга да экзаменаў, правільныя адказы слепа завучваюцца загадзя. Карткі, на наш погляд, анахранізм. Патрабуецца гутарка, надзейная рэальная праверка прафесійных ведаў. З іншага боку, ці гатовы да гэтага работнікі ДАІ, якія прывучаны звяраць на экзаменах адказы, не ўдумваючыся ў іх, па раз і назаўсёды падрыхтаваных табліцах?

І яшчэ пытанне: чаму ў аўташколах, на курсах, у вучылішчах няма псіхолагаў, якія здольны вызначыць, ці прыдатны ўвогуле чалавек да кіравання аўтамашынай? Вось і атрымліваецца — тынкоўшчыка мы рыхтуем год, а шафёра 3 — 4 месяцы. Кельня, выходзіць, больш складаны інструмент, чым аўтамабіль, крыніца павышанай небяспекі? З такім жа поспехам можна паставіць побач рыдлёўку і ЭВМ.

Навучыўшы чалавека трымацца за руль, мы вымушаем яго спасцігаць прамудрасці язды страшным для дарогі метадам спробаў і памылак. Чым канчаюцца такія памылкі, мы ўжо ведаем. У век, калі можна вызначыць, вылічыць, запраграміраваць каго — хлопчыка або дзяўчынку — народзіць жанчына, мы не ўмеем вызначаць, каму можна і каму нельга даверыць руль аўтамабіля, і тым самым «праграміруем» смерць на дарогах. А ў судах раз-пораз чуецца крык: «Я не хацеў забіваць!»

Вядома ж, не хацеў, але тады чаму ў кабіне Антона Валадзько не было супрацьсонечнага брыля? Чаму перад «ЗІЛам», які стаяў на дарозе і ў які ён ударыўся, не былі выстаўлены знакі аварыйнай абстаноўкі? Як аказалася ў машыне Валадзько дзяўчына? Куды глядзеў механік, які выпусціў гэтую машыну з пасажырам «на борце»? А тармазы? Пытанні, пытанні... Хто дасць на іх адказы?

Следчы В. Усціновіч, характарызуючы сваіх «кліентаў» (вадзіцеляў, чые дзеянні суд вызначыў як злачынныя), выказаўся так: «У большасці гэта людзі, якія не павінны сядаць за рулём». Ад гэтых слоў робіцца не па сабе: колькі ж іх, патэнцыяльных парушальнікаў (забойцаў?) сядае за руль?

СУСВЕТНАЯ статыстыка сведчыць, што крывая аўтакатастроф дае пік ва ўзроставай групе 15 — 24 гады. Калі колькасць дарожна-транспартных здарэнняў, здзейсненых 30-гадовымі вадзіцелямі, прыняць за 100, то віна іншых размяркуецца так: 123 здараюцца па віне вадзіцеляў ва ўзросце ад 25 да 30 гадоў, 180 — ад 21 года да 25 гадоў і да 400 — ад 18 да 21 года. Іншымі словамі, чым вадзіцель маладзейшы, тым часцей ён церпіць аварыі... Да няўмення маладых людзей кіраваць аўтамабілем з-за слабых навыкаў і малога вопыту трэба дадаць уласцівую моладзі самаўпэўненасць і ўзбуджальнасць.

Ёсць прафесіі, у якія, як аб'ектыўны фактар, уваходзіць рызыка. Шафёрская прафесія адносіцца менавіта да такіх. Значыць, і адносіны да яе асаблівыя. Трэба прынцыпова мяняць погляд на шафёра, на ўсе аспекты яго рамяства.

Той жа следчы Усціновіч расказваў нам, што нярэдка яму даводзіцца мець справу з адным і тым жа парушальнікам і двойчы, і тройчы. Вось і атрымліваецца, што, напрыклад, злодзея-прадаўца пасля адбыцця пакарання ужо не возьмуць працаваць у гандаль, шафёра ж, які «адседзеў» за аварыю з чалавечымі ахвярамі, зноў садзяць за баранку.

За апошнія пяць гадоў у дарожна-транспартных здарэннях у краіне загінула 220 тысяч і паранена больш за мільён чалавек. Усё гэта — вынік нізкай дысцыпліны і кваліфікацыі вадзіцеляў: па іх віне адбываецца да 80 працэнтаў аварый. Сітуацыя патрабавала ўмяшальніцтва ўрада — Савет Міністраў СССР прыняў пастанову, у якой прадугледжаны комплекс мер, накіраваных на забеспячэнне бяспекі руху на транспарце.

Шафёрскі цэх. Ведаеце, колькі ў ім працуе чалавек? Калі па ўсёй краіне, дык аж 8 мільёнаў. 8 мільёнаў, што заручылі сябе з рызыкай, з паўсядзённай небяспекай, з адказнасцю. Толькі ці заўсёды памятаюць яны пра гэта? Вось у чым галоўнае пытанне.

Г. КРУГЛОЎ,
Н. ЦЫПІС.

Па волі лёсу, па волі жыццёвых абставін, па складу свайго характару і несумненнага таленту гэтаму чалавеку часта даводзілася быць першым: аўтарам першага беларускага рамана «Сокі цаліны», першым рэдактарам беларускай газеты «Дзянніца», што выходзіла ў Савецкай Расіі, першым старшынёй Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР, аўтарам Маніфеста, які аб'явіў усяму свету аб нараджэнні новай дзяржавы—Савецкай Беларусі. Разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам ён быў адным з першых пісьменнікаў-акадэмікаў, якім было нададзена гэта ганаровае званне ў 1928 годзе.

Ён жа быў і сярод першых, хто стаў ахвяраю несправядлівасці: спачатку, на I Усебеларускім з'ездзе Саветаў, які адбыўся праз месяц пасля таго, як Беларусь была абвешчана рэспублікай, ён, першы старшыня яе ўрада, абвінавачаны ў нацыяналізме і іншых грахах, не быў абраны нават членам ЦВК БССР. Адлучаны ад актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці ў сваёй рэспубліцы, ад справы, якой быў адданы ўсёй душой і сэрцам, Зміцер Хведаравіч Жылуновіч (пісьменнік Цішка Гартны) мусіў пакінуць Беларусь, стаць палітработнікам у арміі на Украіне.

Ён жа быў сярод першых, хто пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсій: у 1931 годзе З. Жылуновіч быў выключаны з партыі.

Фармуліроўка вядомая, тагачасная: «За свядомае правядзенне нацыянал-апартуністычнай і нацыянал-дэмакратычнай лініі, за ўдзел у антыпартыйных групоўках, за сувязь з чужымі і варожымі справе пралетарыяту нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі і як з'яўляючыйся рупарам варожых сіл, якога выкарыстоўвала ў сваіх мэтах нацдэмаўская контррэвалюцыя ў барацьбе з дыктатурай пралетарыяту». Згадзіцеся, гэтыя радкі нібыта ўзяты з прыгавору. З прыгавору, што быў адкладзены на 5 гадоў.

У лістападзе 1936 года Цішка Гартны быў арыштаваны. Пасля жорсткіх допытаў і катаванняў ён захварэў, трапіў у Магілёўскую спецбальніцу, дзе 11 красавіка 1937 года скончыў жыццё самагубствам.

Спатрэбілася 50 гадоў, каб зняць з яго гэтыя брудныя паклёпніцкія абвінавачанні, каб ён быў поўнасцю рэабілітаваны, адноўлены ў партыі з таго дня, калі ўступіў у яе,—з кастрычніка 1918 года. І не дзіўна, што сёння многія мала што ведаюць пра жыццё і дзейнасць адданага сына Беларусі З. Х. Жылуновіча (Цішкі Гартнага). Таму для нас каштоўныя і дарагія дакументы, якія расказваюць пра гэтага выдатнага дзеяча рэспублікі.

У фондах нашага архіва захавалася шэраг дакументаў, з якіх можна бліжэй даведацца пра некаторыя бакі дзяржаўнай і грамадскай дзейнасці Цішкі Гартнага, што сведчаць пра яго як пра чалавека,—пісьмы, загады, запіскі, анкеты.

## З архіўных крыніц

# Быў сярод першых...

Вось анкета члена ЦВК БССР, запоўненая рукою Зміцера Хведаравіча ў 1927 годзе. Здавалася б, анкета як анкета. Нават празмерна падрабязная. Але ў ёй, як у люстэрку, адлюстраваны шлях, што прайшоў сын местачковага бедняка Змітрок Жылуновіч—ад пастуха да дзяржаўнага дзеяча першай велічыні, да вядомага майстра мастацкага слова.


Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР
1927 год
АНКЕТА

Калі чытаеш анкету, мабыць, позірк хутчэй за ўсё затрымаецца на двух яе пунктах. Асвета—ніжэйшая. Якія мовы ведаеце—беларускую, украінскую, расейскую, польскую, нямецкую. Здаецца не зусім верагодным, каб чалавек з пачатковай адукацыяй валодаў пяццю мовамі. А што ён імі валодаў дасканала, сведкамі шматлікія кнігі арыгінальнай літаратуры, шматлікія пераклады, зробленыя Цішкам Гартным з рускай, украінскай, польскай і нямецкай моў. А пераклады ў той час найчасцей рабіліся з арыгіналаў.

Па-свойму цікавыя і іншыя звесткі, адзначаныя ў гэтай анкеце. Я думаю, яны будуць карысныя для даследчыкаў жыцця і творчасці пісьменніка.

На VIII Усебеларускім з'ездзе Саветаў, які адбыўся ў красавіку 1927 года, ад Беларусі было выбрана 8 прадстаўнікоў у Савет Нацыянальнасцей ЦВК СССР. Сярод гэтых васьмі быў і З. Х. Жылуновіч, што сведчыць пра той вялікі давер, які аказалі яму дэлегаты з'езда, пра несумненную пашану і папулярнасць, якімі карыстаўся ён сярод людзей.

Захавалася пасведчанне, выдадзенае Цішку Гартнаму з гэтай нагоды.

Пастух, рабочы, пісьменнік, кіраўнік дзяржавы, акадэмік, грамадскі і палітычны дзеяч — усё гэта вехі жыцця З. Х. Жылуновіча, жыцця яркага, самабытнага, цікавага і разам з тым — трагічнага. І хочацца, каб пра яго ведалі больш, ведалі ўсю праўду, а не так, як напісана ў даведніках і энцыклапедыях.

**Гелена ЧАРНЯЎСКАЯ,**
**супрацоўніца Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР.**

# Яны сустракаліся з Крупскай

Дэлегатамі на I з'езд савецкіх пісьменнікаў у 1934 годзе ад Беларусі былі выбраны дзіцячыя пісьменнікі Галена Раманоўская і Алесь Якімовіч. Супраць кандыдатуры Янкі Маўра выступіў тадышні старшыня аргкамітэта Саюза пісьменнікаў Беларусі М. Клімковіч. Гэта абурыла Я. Маўра. Ён напісаў ліст самому Максіму Горкаму, і толькі пасля гэтага Я. Маўру прыслалі запрашальны білет на з'езд.

Я. Маўр, Г. Раманоўская і А. Якімовіч узялі з сабой каля дзвюх соцень кніг і часопісаў, каб выставіць іх у будынку з'езда для азнаямлення дэлегатаў і гасцей. Меркавалася, што на з'ездзе з прамовай аб дзіцячай і юнацкай літаратуры, яе ролі ў выхаванні падрастаючага пакалення выступіць Н. Крупская. Сталася так, што яна занядужала і выступіць не змагла. Але з пісьменнікамі, што пішуць для дзяцей, Надзея Канстанцінаўна ўсё ж сустрэлася: яна запрасіла іх да сябе. Былі ў яе ў гасцях і пасланцы Беларусі.

Яны прыехалі да Крупскай з вялікай скрыняй кніг і часопісаў. Сустрэча была шчырая і сардэчная. Прывітальнае слова сказаў Я. Маўр. Ён падарыў Н. Крупскай сваё аповесці «Чалавек ідзе» і «У краіне райскай птушкі». Г. Раманоўская перадала дзве свае кніжкі і аповесць П. Галавача ў сваім перакладзе на польскую мову. Было што падарыць Надзеі Канстанцінаўне і А. Якімовічу. Ён, у дадатак, пазнаёміў яе з часопісамі «Іскры Ільіча», «Малады араты», «Маладняк», расказаў, што ў рэспубліцы нямала таленавітых пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей і юнацтва, назваў і мастакоў, што ілюструюць гэтыя выданні, а на завяршэнне паскардзіўся на недахоп добрай паперы, у выніку чаго дзіцячыя кнігі друкуюцца на шэрай, ледзь не абгортачнай.


Г. РАМАНОЎСКАЯ.


Я. МАЎР.


А. ЯКІМОВІЧ.

Н. Крупская, у сваю чаргу, расказала, як Уладзімір Ільіч ставіўся да дзяцей і моладзі, адносіўся да выхавання маладога пакалення. Яна падарыла гасцям кнігу ўспамінаў пра У. І. Леніна.

Надзея Канстанцінаўна паабяцала дапамагчы беларусам з выданнем кніг для дзяцей і юнацтва. І яна стрымала сваё слова, паслала пісьмы ў ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР. У выніку значна палепшыліся адносіны да выпуску дзіцячых часопісаў і газет.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**




**З 10 ПА 16 КРАСАВІКА**

**11 красавіка, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Прагучаць вершы Ф. Багушэвіча.

**11 красавіка, 19.30**

**«МЕТРАНОМ»**

Дыскусійная зала. Вынікі фестывалю мастацтваў «Мінская вясна».

**11 красавіка, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

**13 красавіка, 20.25**

**«РОЗДУМ»**

Акварэлі У. Савіча.
Вядучы — мастацтвазнавец У. Бойка.

**14 красавіка, 19.45**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Пра жыццё вядомага беларускага асветніка В. Цяпінскага расказвае Б. Беляжэнка. Пабываеце на выстаўцы акварэлі Ф. Гумена і скульптара А. Гвоздзікава. На заканчэнне пачуеце песні В. Палякова — аднаго з прызёраў другога абласнога фестывалю аўтарскай песні.

**15 красавіка, 13.40**

З фестывалю мастацтваў «Мінская вясна».

Канцэрт сімфанічнай музыкі.

У праграме музыка Смольскага, Павелайціса, Балаўскаса, Пікуля.

Выканаўца—Дзяржаўны сімфанічны аркестр Літоўскай ССР.

Дырыжор — народны артыст УССР Ф. Глушчанка.

**15 красавіка, 16.55**

**«ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ»**

Перадача прымеркавана да 70-годдзя з дня нараджэння народнага артыста БССР П. Кармуніна.

У ёй прымаюць удзел кінарэжысёр І. Дабралюбаў, заслужаная артыстка БССР А. Акружная, народны артыст СССР Ф. Шмакаў, артысты Э. Гарачы, П. Дубашынскі, народная артыстка СССР С. Станюта.

Вядучая — журналіст А. Ліёпа.

**16 красавіка, 12.20**

З фестывалю мастацтваў «Мінская вясна».

Канцэрт сімфанічнай музыкі.

Прагучаць творы Гершвіна, Файна, Мел.

**16 красавіка, 15.20**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

Вы пабываеце ў мінскім Палацы мастацтваў, дзе экспануецца персанальная выстаўка малдаўскай мастачкі В. Зазерскай, і ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, дзе адбылася выстаўка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Заходняй Еўропы з фондаў Эрмітажа.

Пра тое, як адбывалася станаўленне беларускага старажытнага іканапісу, раскажа Ю. Хадыка. Мастак В. Мартынчык пазнаёміць са сваімі новымі работамі.

Вядучы — У. Сцепаненка.

**13 красавіка, 19.20**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы У. Скарынкіна чытае артыст С. Ждан.

**16 красавіка, 19.20**

**«РАДАВОД»**

Фальклорны відэаканал.

Адкрые чарговую праграму рок-група «Мроя», якая ў сваёй творчасці звяртаецца да беларускага фальклору. Затым в'етнамскія студэнты пазнаёмяць з народным веснавым абрадам «Куанхо».

Тэма размовы ў дыскусійным клубе — «Клубная самадзейнасць і яе ўплыў на традыцыйнае народнае мастацтва».

Пабываеце і на Міжнародным фальклорным фестывалі ў Новасібірску.

**16 красавіка, 23.25**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.
Вядучы — А. Гаўрон.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00153 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.